15094555
81.411.3-4
М 15

А. В. Макарэвіч

# Слоўнік устарэлых слоў беларускай мовы

УДК 811.161.3(038)
ББК 81.2(4Беи)-4
М15

*Рэцэнзенты:*

Доктар філалагічных навук, прафесар
**М.Р. Прыгодзіч**

Кандыдат філалагічных навук, дацэнт
**М.М. Аляхновіч**

*Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета УА "БрДУ імя А.С. Пушкіна"*

**Макарэвіч, А. В.**
М15 Слоўнік устарэлых слоў беларускай мовы [Тэкст] / А. В. Макарэвіч ; Брэсц. дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна. – Брэст : Выд-ва БрДУ, 2005. – 125 с. – 100 экз.

У слоўніку змешчаны ўстарэлыя словы сучаснай беларускай мовы, раскрываецца іх семантыка. Усяго пададзена каля 3 500 слоўнікавых артыкулаў.

Выданне разлічана на мовазнаўцаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і школьнікаў, а таксама на ўсіх, хто цікавіцца жыццём роднага слова.

**УДК 811.161.3(038)**
**ББК 81.2(4Беи)-4**




© А.В. Макарэвіч, 2005
© Выдавецтва УА "БрДУ імя А.С. Пушкіна", 2005



*Бацькам – Марыі Юстынаўне*
*і Васілю Дзмітрыевічу – прысвячаю*

## Прадмова

Устарэлая лексіка з'яўляецца неацэнным скарбам моўнай спадчыны, каштоўным матэрыялам для вывучэння мовы. Усебаковы аналіз працэсаў архаізацыі ў сучаснай беларускай мове і абагульненне такіх даследаванняў спрыяе перш за ўсё далейшаму асэнсаванню агульных законаў развіцця мовы, асвятленню некаторых працэсаў фарміравання беларускай нацыянальнай мовы, выяўляе дынаміку эвалюцыі слоўнікавага складу (семантычныя і стылістычныя зрухі ў лексічнай сістэме на пэўных этапах яе развіцця, працэсы намінацыі, развіццё новых значэнняў у адных слоў і прычыны ўстарэласці асобных значэнняў у іншых, архаізацыя слова ў цэлым, адлюстраванне "дыяхраніі ў сінхраніі").

Беларускае мовазнаўства не мае спецыяльных прац, у якіх вывучаецца функцыянальная, семантычная і стылістычная спецыфіка ўстарэлай лексікі, вызначаецца яе месца ў сістэме беларускай літаратурнай мовы і ў мове сучаснай мастацкай літаратуры.

Актыўнасць выкарыстання ўстарэлых намінацый у функцыянальных стылях беларускай літаратурнай мовы запатрабавала тэарэтычнай распрацоўкі шэрагу пытанняў, якія непасрэдна ўплывалі на прынцыпы лексікаграфічнага адлюстравання такой лексікі. У матэрыялах даведніка ўлічваюцца ўдакладненыя кваліфікацыйныя крытэрыі ўстарэлага слова, што дазволіла выпрацаваць адпаведныя падыходы пры абазначэнні ўстарэлай лексікі і больш паслядоўна і акрэслена адабраць лексічны матэрыял.

Крыніцамі фактычнага матэрыялу паслужылі наступныя выданні: "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", тт. 1–5. / Пад агул. рэд. акадэміка К.К. Атраховіча. Мн., 1977–1984; "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы". / Пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. Мн., 1996; "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне". / Пад рэд. акадэміка АН Беларусі М.В. Бірылы. Мн., 1987.; Беларуская энцыклапедыя, тт. 1–17. Рэдкал.: Г.П. Пашкоў і інш. Мн., 1996–2003; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, тт. 1–6. Рэдкал.: М.В. Біч і інш. Мн., 1993–2003. Асобныя слоўнікавыя артыкулы былі выверany па "Старабеларускім лексіконе" М.Р. Прыгодзіча і Г.К. Цівановай (Мн., 1997).

Аўтар шчыра дзякуе доктару філалагічных навук М.Р. Прыгодзічу, кандыдату філалагічных навук М.М. Аляхновічу, старшаму выкладчыку

кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі БрДУ імя А.С. Пушкіна У.У. Барысюку за каштоўныя заўвагі і парады, Вікторыі Кухарскай за дапамогу і маральную падтрымку падчас укладання даведніка.

Лексічны матэрыял, які спарадкаваны і сістэматызаваны ў даведніку, будзе карысны не толькі спецыялістам у галіне мовазнаўства, але і настаўнікам роднай мовы, літаратуры і гісторыі, майстрам слова.

Аўтар з удзячнасцю прыме ўсе заўвагі і парады, якія будуць улічаны пры перавыданні даведніка. Прапановы прашу дасылаць на адрас: 224665, г. Брэст, вул. Міцкевіча, 28, кафедра гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі, Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна.

## Як карыстацца слоўнікам

У слоўнік уключаны ўстарэлыя словы (**азбукоўнік, войт, інсургент, пушкар** і інш.); устарэлыя значэнні слоў (**галава, жывот, прапаршчык** і інш.); устарэлыя "неалагізмы савецкага перыяду" (**акцябрыны, кулак, лікбез, пралеткультавец** і інш.); устарэлыя формы слоў (*гэст*, *кроніка*, **магнэс** і інш.).

Упершыню ў айчыннай лексікаграфічнай практыцы ў даведніку зафіксавана значная колькасць слоў, што адлюстроўвалі савецкую эпоху. Такія намінацыі абазначаны паметай '*савет.*' – саветызм, савецкае (якое з'явілася ў савецкі час: 1917–1991 гг.).

Усе адабраныя для тлумачэння словы, з'яўляючыся загаловачнымі ў слоўнікавых артыкулах, размешчаны ў алфавітным парадку і надрукаваны тлустымі (чорнымі) літарамі.

Загаловачныя словы даюцца ў слоўніку ў пачатковай форме: назоўнікі – у назоўным склоне адзіночнага ліку (за выключэннем слоў, якія выкарыстоўваюцца толькі ў множным ліку), прыметнікі – у назоўным склоне мужчынскага роду, дзеясловы – у неазначальнай форме.

Загаловачныя словы-амонімы пазначаюцца арабскімі літарамі зверху справа: **Абора**$^{1}$ і **Абора**$^{2}$.

Варыянты ўстарэлых лексічных адзінак змяшчаюцца пасля загаловачнага слова ў круглых дужках:

**Гама́рня (гамэ́рня),**

**Сейм (сойм).**

Пасля загаловачных слоў падаюцца іх граматычныя формы і граматычныя паметы.

У назоўніках пасля пачатковай формы даецца канчатак роднага склону адзіночнага ліку, а пры наяўнасці ў родным склоне двух канчаткаў прыводзяцца абодва, затым скарочана пазначаецца род:



**Абардаж**, -у, *м.*

**Балонка**, -і, *ж.*

**Вершапісанне**, -я, *н.*

**Лікбез**, -а і -у, *м.*

Пры назоўніках, якія маюць форму толькі аднаго ліку – адзіночнага ці множнага, ставяцца паметы *толькі адз.* або *толькі мн.*, напрыклад:

**Клавікорды**, -аў, *толькі мн.* Старадаўняе: клавішна-струнны ўдарны музычны інструмент.

Калі назоўнік выступае пераважна ў форме множнага ліку, але магчымая і форма адзіночнага ліку, то ў загаловак выносіцца форма множнага ліку, пры ёй адзначаецца форма адзіночнага ліку з адпаведнай паметай, напрыклад:

**Дрыгавічы**, -оў, *мн.*; *адз.* **дрыгавіч**, -а, *м.*, **дрыгавіча́нка**, -і, *ж.* (*гіст.*). Адно з племянных усходнеславянскіх аб'яднанняў, якое пазней разам з **крывіча́мі і радзімічамі** ўвайшло ў склад беларускай народнасці.

Калі тое ці іншае слова выступае ў функцыі іншай часціны мовы, то яно суправаджаецца спецыяльнымі паметамі: *у знач. наз.* (у значэнні назоўніка), *у знач. прысл.* (у значэнні прыслоўя).

Нескланяльныя назоўнікі пазначаюцца паметай *нескл.* і ўказаннем на род:

**Карэ**, *нескл.*, *н.*

**Нотабена**, *нескл.*, *ж.*

Назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу і ўтвораны ад назоўнікаў мужчынскага роду, вызначаюцца па тыпу: *Жан.* да... Напрыклад:

**Астрожніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **астрожнік**.

У выпадку, калі загалоўнае слова ўжываецца толькі ў пэўным словазлучэнні, то пасля загалоўнага слова ставіцца двухкроп'е, а пасля яго ідзе дадзенае словазлучэнне. Напрыклад:

**Лобны**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **лобнае месца**.

У прыметніках пасля пачатковай формы даюцца канчаткі жаночага і ніякага роду назоўнага склону адзіночнага ліку:

**Каморніцкі**, -ая, -ае.

Дзеясловы падаюцца ў форме інфінітыва:

**Адпіса́ць** (*уст.*).

Нязменныя і службовыя словы абазначаюцца паметамі *прысл.*, *выкл.*, *прыназ.*, *часц.*

Для правільнага прачытання асобных устарэлых намінацый ставіцца націск, напрыклад:

**Амба́рас**, -у, *м.* (*уст.*).

**Тарта́к**, -а, *м.*

У асобных выпадках у канцы слоўнікавага артыкула ў квадратных дужках даецца ўказанне на паходжанне слова (этымалогія). Усе словы з іншых моў падаюцца лацінскімі літарамі.

**Брэгет**, -а, *м.* Гадзіннік асобай канструкцыі, які адбіваў гадзіны і долі гадзін і паказваў лічбы месяца. [Ад імя франц. майстра – Breguet (1747–1823)].

Значэнні ўстарэлых намінацый тлумачацца ў даступнай форме, але такім чынам, каб сэнс слова быў раскрыты поўна і дакладна:

**Газэта**, -ы, *ж.* (*уст.*). Газета.

**Пенязь**, -я, *м.* Манета, грашова-лікавая адзінка і сукупны тэрмін для пазначэння грошай у ВКЛ XIV – XVI ст. і Рэчы Паспалітай XVI – XVII ст.

Пасля тлумачэнняў у асобных выпадках даюцца ілюстрацыі ў выглядзе словазлучэнняў:

**Выязны**, -ая, -ае (*уст.*). Не рабочы. *Выязны конь.*

У круглых дужках прыводзяцца некаторыя дадатковыя звесткі ў тэксце тлумачэнняў:

**Адпачывальня**, -і, *ж.* (*уст.*). Спальня (звычайна ў доме прывілеяванага саслоўя).

У мнагазначных словах розныя значэнні слова адзначаюцца ў радку арабскімі лічбамі з кропкай:

**Брацтва**, -а, *н.*; **брацтвы**, -аў, *мн.* 1. Рэлігійна-нацыянальная арганізацыя беларускага і ўкраінскага гарадскога насельніцтва ў XVI–XVIII ст. 2. Аб'яднанне гарадскіх рамеснікаў (часам сялян) у сярэдневякоўі. На Беларусі існавала з канца XV да XVIII ст.

### Паметы, якія абазначаюць межы ўжывання ўстарэлых слоў

У слоўніку архаізмы пазначаны паметай *уст.*

Функцыянальныя асаблівасці архаізма ў сучаснай мове абазначаны паметамі *уст. і разм.*, *уст. і абл.*, якія паясняюць, што дадзенае слова з'яўляецца ненарматыўным (таму што ўстарэла) для сучаснай літаратурнай мовы, але ў жывой агульнанароднай мове захоўвае сваю актыўнасць (**славесніца**, *уст. і разм.*; **гіцаль**, *уст. і абл.* і інш.).

Здольнасць устарэлага слова (архаізма) набываць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбаванасць у сучаснай мове ва ўмовах асобага ўжывання адлюстравана з дапамогай двайных памет *уст. і іран.*, *уст. і высок.* і інш. (**ратны**, *уст. і высок.*; **селадон**, *уст. і іран.* і інш.).

Маркёр *уст.* спалучаецца з іншымі стылістычнымі паметамі для пазначэння архаізмаў, што належаць да розных стылістычных пластоў



(напрыклад: *уст. разм.*, *уст. кніжн.* і інш.) (**сцягач**, *уст. разм.*; **пілігрым**, *уст. кніжн.* і інш.).

Указанне на часавую характарыстыку гістарызмаў як аднаго з разрадаў устарэлай лексікі даецца непасрэдна ў слоўнікавым артыкуле.

У даведніку даецца сістэма памет, якія абазначаюць межы выкарыстання ўстарэлых слоў. Гэтыя паметы ставяцца ў круглых дужках. Калі слова мае некалькі значэнняў або адценняў, то змешчаная ў пачатку слоўнікавага артыкула памета з'яўляецца агульнай для усіх значэнняў; калі значэнні ці адценні маюць розны стылістычны статус, то памета ставіцца непасрэдна пры асобным значэнні або адценні. Калі пры слове, ці асобным значэнні, ці адценні паметы няма, то гэта значыць, што дадзенае слова, ці гэтае асобнае значэнне, ці адценне з'яўляюцца агульнымі для розных стыляў або розных сфер ужывання.

## Умоўныя скарачэнні

| | |
|---|---|
| *абл.* | – абласное |
| *адз.* | – адзіночны лік |
| *афіц.* | – афіцыйнае |
| *ваен.* | – ваеннае |
| *выкл.* | – выклічнік |
| *высок.* | – высокае, высокага стылю |
| *гіст.* | – гістарычнае |
| *гл.* | – глядзі |
| *ж.* | – жаночы род |
| *жан.* | – жаночае |
| *жарт.* | – жартаўлівае |
| *зб.* | – зборны назоўнік |
| *злуч.* | – злучнік |
| *зневаж.* | – зневажальнае |
| *і пад.* | – і падобнае |
| *інш.* | – іншае |
| *іран.* | – у іранічным сэнсе |
| *кніжн.* | – кніжнае |
| *лаянк.* | – лаянкавае |
| *м.* | – мужчынскі род |
| *мед.* | – медыцына |
| *мн.* | – множны лік |
| *н.* | – ніякі род |
| *нар.-паэт.* | – народна-паэтычнае |
| *неадабр.* | – неадабральнае |
| *нескл.* | – нескланяльнае |
| *пагард.* | – пагардлівае |
| *паліт.* | – палітыка |
| *памянш.-ласк.* | – памяншальна-ласкальная форма |
| *паэт.* | – паэтычнае |
| *перан.* | – пераноснае значэнне |
| *прастамоўн.* | – прастамоўнае |
| *прыназ.* | – прыназоўнік |
| *прысл.* | – прыслоўе |
| *разм.* | – размоўнае |
| *савет.* | – якое з’явілася ў савецкі час (1917–1991 гг.) |
| *сацыял.* | – сацыялогія |
| *спарт.* | – спорт |
| *спец.* | – спецыяльнае |



| | |
|---|---|
| *ст.* | – стагоддзе |
| *тэатр.* | – тэатральнае |
| *у знач. наз.* | – у значэнні назоўніка |
| *уст.* | – устарэлае |
| *філал.* | – філалогія |
| *царк.* | – царкоўнае |
| *царк.-кніжн.* | – царкоўна-кніжнае |
| *часц.* | – часціца |

## Беларускі алфавіт

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аа | Бб | Вв | Гг | Дд | (Дж Дз) | Ее | Ёё |
| Жж | Зз | Іі | Йй | Кк | Лл | Мм | Нн |
| Оо | Пп | Рр | Сс | Тт | Уу | Фф | Хх |
| Цц | Чч | Шш | Ыы | Ьь | Ээ | Юю | Яя |

*Заўвага*: Дыграфы ***дж, дз*** пры размяшчэнні слоў разглядаюцца кожны як дзве літары.

## Слоўнік устарэлых слоў беларускай мовы

### А

**Абарда́ж**, -у, *м.* Старадаўні спосаб марскіх ваенных дзеянняў – счэпліванне свайго судна з варожым для рукапашнага бою.

**Абарда́жны**, -ая, -ае. Які мае дачыненне да **абардажу**.

**Аб'езд**, -у, *м.* Конны дазор.

**Абісінія**, -і, *ж.* (*уст.*). Эфіопія.

**Абісінскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае дачыненне да **Абісініі, абісінцаў**.

**Абісінцы**, -аў, *мн.*; **абісінец**, -нца, *м.*; **абісінка**, -і, *ж.* (*уст.*). Эфіопы.

**Абітурыент**, -а, *м.* (*уст.*). Выпускнік сярэдняй школы.

**Абора**[1], -ы, *ж.* Старадаўняе: вяровачка з пянькі, лёну ці раменны пасак для прымацоўвання лапця і анучы.

**Абора**[2], -ы, *ж.* (*уст.*). 1. Хлеў для кароў, кароўнік. 2. Загароджаная частка двара для дзённага ўтрымання хатняй жывёлы.

**Абраннік**, -а, *м.* (*уст.*). Незвычайна здольны, асаблівы чалавек, дзейнасць якога не пад сілу для іншых.

**Аброк**, -у, *м.* У царскай Расіі да 1861 г.: натуральны або грашовы падатак, які спаганяўся памешчыкамі з сялян; **чынш**.

**Аброчнік**, -а, *м.* Прыгонны селянін, які плаціў **аброк**.

**Аброчны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **аброку**.

**Абру́сны**, -ога, *м.* Асоба пры двары вялікага **князя** ВКЛ, якая наглядала за сталовай бялізнай, у прыватнасці за абрусамі. З XVI ст. **абру́сны** – ганаровае званне.

**Абрэк**, -а, *м.* Горац, які прымаў удзел у барацьбе супраць царскіх войск і адміністрацыі.

**Абывацель**, -я, *м.* (*уст.*). Пастаянны, сталы жыхар якой-небудзь мясцовасці; тубылец.

**Абывацельніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **абывацель**.

**Абывацельскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **абывацеля**.

**Агітпром**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: назва аддзелаў агітацыі і прапаганды пры ЦК і мясцовых камітэтах ВКП (б), якая ўжывалася да 1934 г.

**Агнішча**, -а, *н.* Месца, дзе ў старажытнасці распальвалі і зберагалі агонь.

**Агнішчанін**, -а, *м.* (*гіст.*). Малодшы княжацкі дружыннік, які кіраваў гаспадаркай, дваром і слугамі ў **князя** (да XI ст.), потым старшы дружыннік, бліжэйшы дарадчык **князя**.

**Адама́нт**, -а, *м.* (*уст.*). Алмаз, брыльянт.

**Адама́нтавы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **адама́нта**.

**Аддзел**, -а, *м.* Выдзелены бацькам сыну надзел зямлі.

**Аджын**, -у, *м.* Адработ жнівом за пазыку, паслугу і пад.

**Адзавізм**, -у, *м.* (*паліт.*). Апартуністычная плынь у РСДРП, што ўзнікла пасля рэвалюцыі 1905 г. і патрабавала адклікання сацыял-дэмакратычных дэпутатаў з Дзяржаўнай думы і адмаўлення ад легальных форм масавай партыйнай работы.



**Адлітава́цца** (*уст.*). Адпаяцца.

**Адлітава́ць** (*уст.*). Адпаяць.

**Адміралцейства**, -а, *н.* 1. Раён порта, дзе размешчаны верфі, майстэрні і склады для пабудовы, рамонту і абсталявання ваенных караблёў (*уст.*). 2. У царскай Расіі і Англіі: марское ведамства.

**Аднадворац**, -рца, *м.* (*гіст.*). Дзяржаўны селянін асобай групы, якая ўтварылася ў Расіі з нашчадкаў "служылых людзей", паселеных царскім урадам у XVI-XVIII ст. каля паўднёвай і ўсходняй граніц для іх аховы.

**Аднадворка**, -і, *ж.* *Жан.* да **аднадворац**.

**Аднакласны**, -ая, -ае. З адным годам навучання – пра навучальныя ўстановы ў Расійскай імперыі.

**Аднарадка**, -і, *ж.* Старадаўняе: мужчынскае адзенне ў выглядзе аднабортнага **кафтана** без каўняра.

**Адпачывальня**, -і, *ж.* (*уст.*). Спальня (звычайна ў доме прывілеяванага саслоўя).

**Адпіса́ць** (*уст.*). 1. Зняўшы з уліку, перавесці, перадаць куды-н. 2. Адабраць па вопісу; канфіскаваць.

**Адработкі**, -аў, *толькі мн.* У Расійскай імперыі: форма найму сялян са сваімі прыладамі і коньмі да **памешчыка** або заможнага селяніна за арандаваную зямлю, пазычаныя грошы, хлеб, лясныя матэрыялы, у пагашэнне штрафаў і інш.

**Адступны́**, -ая, -ае (*уст.*). Які даецца каму-н. за згоду адмовіцца, адступіцца ад каго-, чаго-н.

**Адыходнік**, -а, *м.* (*уст.*). У Расійскай імперыі і ў краінах Заходняй Еўропы: селянін, які часова ідзе з вёскі на сезонныя работы.

**Адыходніцтва**, -а, *н.* (*уст.*). Заняткі **адыходніка**.

**Адыходны**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **адыходны промысел.** Часовая, сезонная работа сялян па-за вёскай.

**Ад'юнкт**, -а, *м.* У Расійскай імперыі і ў краінах Заходняй Еўропы: малодшая навуковая пасада ў некаторых навучальных установах, а таксама асоба, якая займае гэту пасаду.

**Ажыта́цыя**, -і, *ж.* (*уст*). Узбуджаны стан, моцнае хваляванне.

**Аз**, -а, *м.* (*уст.*). 1. Назва літары 'а'. 2. Займеннік 'я'.

**Азбукоўнік**, -а, *м.* (*уст.*). У беларускім і рускім пісьменстве: род тлумачальнага філалагічнага і энцыклапедычнага слоўнікаў.

**Азіят**, -а, *м.* (*уст. зневаж.*). Грубы, жорсткі, некультурны чалавек.

**Азіятка**, -і, *ж.* (*уст. зневаж.*). *Жан.* да **азіят**.

**Азіятчына**, -ы, *ж.* (*уст. пагард.*). Грубасць, некультурнасць, адсталасць.

**Азіяцкі**, -ая, -ае (*уст. зневаж.*). Грубы, жорсткі, некультурны.

**Азярына**, -ы, *ж.* (*уст.*). Возера.
**Айцец, айца**, *м.* (*уст.*). Мужчына ў дачыненні да сваіх дзяцей; бацька.
**Айцоўскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **айца**; бацькоўскі.
**Акавіта**, -ы, *ж.* (*уст.*). Гарэлка, настоеная на карэннях, а таксама лепшы гатунак гарэлкі.
**Акалічны**, -ая, -ае (*уст. паэт.*). Навакольны.
**Акалодак (акалотак), акалодка**, *м.* 1. У Расійскай імперыі: падраздзяленне паліцэйскага гарадскога ўчастка. 2. Лекарскі пункт пры вайсковых часцях, падраздзяленнях, лазарэтах у царскай арміі (*уст.*).
**Акалодачны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **акалодка**. 2. *у знач. наз.* **акалодачны**. Паліцэйскі чын у Расійскай імперыі.
**Акалот**, -у, *м.* Салома ў снапах пасля няпоўнага папярэдняга ручнога абмалоту.
**Аканом**, -а, *м.* Кіраўнік панскай гаспадаркі, наглядчык за працай у **фальварку** ў перыяд феадалізму і капіталізму.
**Аканомка**, -і, *ж. Жан.* да **аканом**.
**Аканомскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **аканома**.
**Аколіца**, -ы, *ж.* 1. Тып сельскага паселішча ў Польшчы, Літве, на Украіне і Беларусі ў XVI – пачатку XX ст. 2. Плот з варотамі ў канцы вёскі.
**Акольнічы**, -ага, *м.* У Рускай дзяржаве ў XIII – пачатку XVIII ст.: адзін з вышэйшых баярскіх чыноў.

**Акцябрыны**, -рын, *толькі мн.* (*савет.*). Савецкі абрад урачыстай рэгістрацыі нованароджаных і сямейная ўрачыстасць з гэтай нагоды.
**Алапа́тыя**, -і, *ж.* (*уст. мед.*). Назва, дадзеная гамеапатамі звычайным (негамеапатычным) метадам лячэння.
**Алеба́рда**, -ы, *ж.* Старажытная зброя ў выглядзе сякеры, насаджанай на доўгае дрэўка з кап'ём на канцы.
**Алеба́рдны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **алебарды**.
**Алігарх**, -а, *м.* У антычныя і сярэдневяковыя часы: член алігархічнага ўрада.
**Алігархічны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **алігархіі**.
**Алігархія**, -і, *ж.* У антычныя і сярэдневяковыя часы: дзяржаўны лад, заснаваны на панаванні невялікай групы найбольш багатых і знатных асоб, а таксама пануючая група.
**Альфонс**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Мужчына, які знаходзіцца на ўтрыманні ў палюбоўніцы. [Ад імя дзеючай асобы камедыі А. Дзюма (сына) "Масье Альфонс"].
**Амба́рас**, -у, *м.* (*уст.*). Клопаты, турботы, непакой.
**А́мбра**, -ы, *ж.* (*уст.*). Духі.
**Амуніцыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Паходны рыштунак (рамяні, сумкі, чахлы і інш.) байца.
**Амурны**, -ая, -ае (*уст. і жарт.*). Любоўны [ад імя Амура, бога кахання ў антычнай міфалогіі].



**Амфітэатр**, -а, *м.* У старажытных грэкаў і рымлян: збудаванне для масавых відовішчаў, у якім месцы для гледачоў узвышаліся паўкругам.
**Amя́га**, -і, *ж.* (*уст.*). Слабасць.
**Ангажыраваць** (*уст.*). 1. Прапанаваць **ангажэмент** каму-н. (*тэатр.*). 2. Запрасіць на танец.
**Ангажэмент**, -а, *м.* (*уст. тэатр.*). Запрашэнне артыстаў на працу на пэўны тэрмін па дамове.
**Англаман**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які захапляецца ўсім англійскім.
**Англафіл**, -а, *м.* (*уст.*). Прыхільнік усяго англійскага.
**Англафоб**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які ненавідзіць усё англійскае.
**Англасаксы**, -аў, *мн.* Народнасць, якая ўтварылася ў Англіі ў VII-X ст. пасля англасаксонскага заваявання ў выніку змяшання англаў, саксаў, ютаў і часткова элементаў кельцкіх плямён.
**Андынарнік**, -а, *м.* Прыгонны селянін, які атрымліваў ад **памешчыка андынарыю**.
**Андынарыя**, -і, *ж.* Месячная натуральная плата прадуктамі і адзеннем; такую плату **памешчыкі** выдавалі прыгонным сялянам, якія не мелі ў сваім карыстанні зямлі і працавалі на памешчыцкім полі.
**Анты**, -аў, *мн.* Назва ўсходнеславянскіх плямён IV – VII ст., якія жылі паміж Дняпром і Днястром.
**Антыквар**, -а, *м.* (*уст.*). Збіральнік і прадавец старажытных прадметаў, твораў мастацтва, рэдкіх кніг і інш. рэчаў.

**Апавяшчальнік**, -а, *м.* Традыцыйны персанаж класічных трагедый, які апавяшчае гледачоў аб падзеях за сцэнай.
**Апаіць** (*уст.*). Атруціць ядавітым пітвом.
**Апалчэнне**, -я, *н.* У царскай Расіі: вайсковы рэзерв з асоб, якія не былі на ваеннай службе або выйшлі па ўзросту з запасу.
**Апанча́**, -ы, *ж.* Старадаўняе: верхняе адзенне ў выглядзе шырокага плашча.
**Апартамент**, -а, *м.*; **апартаменты**, -аў, *мн.* (*уст. і іран.*). Вялікі раскошны пакой.
**Аператар**, -а, *м.* (*уст. мед.*). Доктар, які праводзіць аперацыю; хірург.
**Аплатка**, -ткі, *ж.* Маленькі кружок клейкай паперы або клейнага рэчыва для запячатвання пісьмаў, склейвання папер.
**Апорак**, -рка, *м.*; **апоркі**, -каў, *мн.* Старадаўняе: бот з адрэзанай халявай.
**Апрычнік**, -а, *м.* Той, хто знаходзіўся ў радах **апрычніны** (у 3 знач.).
**Апрычніна**, -ы, *ж.* 1. У XIV – XV ст. асобнае ўдзельнае ўладанне жанчын з велікакняжацкай сям'і. 2. Назва ўласнага ўдзелу Івана IV у 1565– 1572 гг. з асобнай тэрыторыяй, войскам і дзяржаўным апаратам. 3. Сістэма надзвычайных ваенна-адміністрацыйных, сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў Івана IV у 1565-1572 гг. для ўмацавання самадзяржаўнай улады, ліквідацыі феадальнай раз-

дробленасці, барацьбы з непакорнымі феадаламі.
**Ара́кул**, -а, *м.* Варажбітная кніга.
**Аракчэеўшчына**, -ы, *ж.* У 1815–1825 гг. у Расійскай імперыі: палітычны рэжым неабмежаванага паліцэйскага дэспатызму, самавольства ваеншчыны і насілля з народа. [Ад прозвішча А. Аракчэева, міністра-дэспата].
**Ара́ла**, -а, *н.* (*уст. паэт.*). Прылада для ворыва, **саха**.
**Арап**, -а, *м.* 1. Цёмнаскуры чалавек, негр (*уст.*). 2. Ашуканец, жулік (*уст. разм.*).
**Арапка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **арапа** (у 1 знач.).
**Арбалет**, -а, *м.* Старажытная ручная зброя ў выглядзе стальнога або драўлянага **лука** з драўляным ложам-прыкладам і механізмам для нацягвання цецівы.
**Аргама́к**, -а, *м.* Старажытная назва ўсходніх пародзістых верхавых коней.
**Аргус**, -а, *м.* (*уст. кніжн.*). Пільны ахоўнік, вартавы.
**Арда**, -ы, *ж.* У цюркскіх і мангольскіх вандроўных народаў першапачатковая ваенна-адміністрацыйная арганізацыя або аб'яднанне некалькіх плямёнаў, лагер качэўнікаў; у сярэдневяковых цюрка-мангольскіх феадальных дзяржавах сталіца, стаўка **хана**.
**Ардынарац**, -рца, *м.* У рускай арміі – ваеннаслужачы афіцэр, **унтэр-афіцэр**, радавы, прызначаны ў распараджэнне камандуючага (камандзіра) або штаба для выканання іх даручэнняў.
**Ардынарны**, -ая, -ае (*уст.*). У абазначэнні вучоных пасад: штатны, патрэбны паводле штату, які займае кафедру (кіруе кафедрай); проціл. экстраардынарны (звышштатны).
**Ардынатура**, -ы, *ж.* (*уст.*). Пасада ардынарнага прафесара.
**Армада**, -ы, *ж.* (*уст. кніжн.*). Вялікі ваенны флот.
**Армата**, -ы, *ж.* 1. Старажытная назва артылерыйскай гарматы, якая з'явілася на Русі ў другой палове XIV ст. 2. На Беларусі, Украіне, у Літве і Польшчы ў XV-XVII ст.: назва разнастайнай зброі і засцерагальнага ўзбраення. 3. Назва артылерыі беларускіх горадоў і замкаў у XV-XVII ст.
**Армяк**, -а, *м.* Старадаўняе: від верхняй сялянскай вопраткі з тоўстага сукна; **кафтан**.
**Арсенал**, -а, *м.* (*уст.*). Прадпрыемства, якое вырабляе і чыніць зброю і ваенную амуніцыю.
**Архалу́к**, -а, *м.* Старадаўняе: род кароткага **кафтана**, пашытага з каляровай шарсцяной або шаўковай тканіны са зборкай у таліі.
**Арцель**, -і, *ж.* Аб'яднанне асоб той або іншай прафесіі (рамяства) для супольнай працы з удзелам у даходах паводле дамоўленасці і агульнай адказнасці; таварыства.
**Арцельшчык**, -а, *м.* Член, удзельнік **арцелі**.
**Арцельшчыца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **арцельшчык**.
**Аршын**, -а, *м.* 1. Мера даўжыні, роўная 71,12 см, якой карысталіся



на Беларусі, у Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы. 2. Лінейка, планка такой даўжыні для мерання.
**Аршынны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **аршына**.
**Арыштант**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто пазбаўлены волі, знаходзіцца пад вартай.
**Арыштантка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **арыштант**.
**Арыштанцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **арыштанта**.
**Асамблея**, -і, *ж.* Баль, вечар з забавамі ў эпоху Пятра І.
**Аса́нна**, -ы, *ж.* (*уст. кніжн.*). Узнёслае ўслаўленне (першапачаткова: хвалебны выгук у малітве).
**Асігнацыя**, -і, *ж.* Назва папяровых грашовых знакаў, што выпускаліся ў Расіі з 1769 па 1849 г.
**Асманы**, -аў, *мн.*; *адз.* **асман**, -а, *м.*, **асманка**, -і, *ж.* (*уст.*). Туркі. [Паводле імя султана Асмана І (1299 ці 1300 – 1324 гг.), заснавальніка Асманскай імперыі].
**Аснацкі**, -ая, -ае. Які мае дачыненне да **аснача**, **аснацтва**.
**Аснацтва**, -а, *н.* Аснацкі промысел.
**Аснач**, -а, *м.* Працаўнік на сплаве лесу; плытагон.
**Асначыць**. Займацца **аснацтвам**.
**А́спід**, -у, *м.* (*уст.*). Слаісты мінерал чорнага колеру, які ішоў на вытворчасць грыфельных дошак; сланец.
**А́спідны**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае дачыненне да **аспіду**. 2. Зроблены з **аспіду**.
**Астракізм**, -у, *м.* У старажытнай Грэцыі: выгнанне небяспечных для дзяржавы грамадзян, што вырашалася шляхам тайнага галасавання чарапкамі, на якіх пісалася імя выгнанніка.
**Астрог**, -а, *м.* 1. Комплекс дрэваземляных умацаванняў населеных пунктаў сталага ці часовага характару ва ўсходніх славян у XIII – XVIII ст. 2. Ахоўная агароджа з вертыкальна ці коса укапаных бярвёнаў, што засцерагала месца стаянкі войска. 3. Рухомая штурмавая вежа (астрожак), якой карысталіся ў час аблогі горадоў. 4. Турма, абнесеная сцяной (*уст.*).
**Астрожнік**, -а, *м.* (*уст.*). Арыштант, той, хто пасаджаны ў **астрог** (у 2 знач.), у турму.
**Астрожніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **астрожнік**.
**Астрожны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **астрога**.
**Асьміна**, -ы, *ж.* Старадаўняе: мера аб'ёму сыпкіх рэчываў на Беларусі ў XVI-XVIII ст., раўнялася 50,84 л.
**Асэсар**, -а, *м.* 1. Службовая або судовая пасада ў ВКЛ. 2. У Расійскай імперыі: цывільны чын 8 класа, а таксама асоба, якая мела гэты чын.
**Атопак**, -пка, *м.*; **атопкі**, -аў, *мн.* (*уст.*). Зношаны чаравік, бот і інш.
**Атрамант**, -у, *м.* (*уст.*). Чарніла.
**Ахвяравальнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто прыносіць што-н. у дар каму-, чаму-н.

**Ахвяраванне**, -я, *н.* (*уст.*). Ахвярапрынашэнне.

**Ахвярны**, -ая, -ае (*уст.*). Які прыносіцца ў ахвяру.

**Ахмістрыня**, -і, *ж.* Распарадчыца па дому ў панскім маёнтку; **аканомка, ключніца**.

**Аэраплан**, -а, *м.* (*уст.*). Лятальны апарат, цяжэйшы за паветра; самалёт.

**Аэрапланавы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае дачыненне да **аэраплана**.

## Б

**Баба (бабка)**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). Жанчына, якая прымала дзяцей у час родаў.

**Ба́біць** (*уст. разм.*). Прымаць роды.

**Багадзельня**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі: прытулак для бяздомных, інвалідаў, непрацаздольных.

**Багамаз**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Іканапісец.

**Багамолец**, -льца, *м.* (*уст.*). Чалавек, які ходзіць на **багамолле**.

**Багамолле**, -я, *н.* (*уст.*). Паломніцтва, хаджэнне набожных людзей на маленне да святых мясцін.

**Багамольня**, -і, *ж.* (*уст.*). Памяшканне для малення.

**Багдыхан**, -а, *м.* (*гіст.*). Тэрмін, якім у рускіх граматах XVI-XVII ст. называлі імператараў Кітая.

**Багдыханскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **багдыхана**.

**Багоўня (бажніца)**, -і, *ж.* (*уст.*). Паліца з абразамі.

**Байдак**, -а, *м.* На Беларусі ў XVI-XVIII ст.: пласкадоннае драўлянае грузавое судна з двухсхільным дахам і мачтай.

**Балаган**, -а, *м.* 1. Часовае лёгкае збудаванне з дошак для тэатральных, цыркавых паказаў, для гандлёвых патрэб, жылля і пад. 2. Народны вандроўны тэатр; тэатральнае відовішча камічнага характару з прымітыўным сцэнічным афармленнем.

**Балаганшчык**, -а, *м.* 1. Гаспадар балагана. 2. Балаганны камедыянт, штукар.

**Балагол**, -а, *м.* Той, хто займаецца перавозам грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы.

**Балагольскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **балагола**, уласцівы **балаголу**.

**Балагольства**, -а, *н.* Занятак, промысел **балагола**.

**Балахон**, -а, *м.* Старадаўняе: вопратка з парусіны, палатна свабоднага крою, якую насілі сяляне.

**Балонка**, -і, *ж.* (*уст.*). Старонка кнігі, часопіса.

**Бальшавізм**, -у, *м.* (*савет.*). Плынь у рабочым руху, якая ўзнікла ў Расіі ў пачатку XX ст. і заснавана на марксісцкай тэорыі, развітай затым партыяй бальшавікоў.

**Бальшавіцкі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **бальшавіка**.

**Бальшавік**, -а, *м.* (*савет.*). Член бальшавіцкай партыі.



**Бамбамёт**, -а, *м.* Гармата для кідання бомб на невялікую адлегласць.

**Бамбарда**, -ы, *ж.* Адна з першых артылерыйскіх гармат, якія ў XIV-XVI ст. выкарыстоўваліся для аблогі і абароны крэпасцей.

**Бамбардзір**, -а, *м.* (*ваен.*). Салдат-артылерыст у арміі і флоце Расійскай імперыі.

**Бамбардзірскі**, -ая, -ая (*ваен.*). Які мае адносіны да **бамбардзіра**.

**Банбаньерка**, -і, *ж.* Старадаўняе: прыгожа аздобленая скрыначка для цукерак.

**Бар'ер**, -а, *м.* Рыса перад кожным з удзельнікаў дуэлі, якую яны не павінны пераступаць пры стральбе.

**Барка (барліна)**, -і, *ж.* Драўлянае пласкадоннае несамаходнае рачное судна без палубы для перавозкі грузаў.

**Басурман**, -а, *м.* (*уст.*). Пра чалавека іншай веры, увогуле пра іншаземца.

**Басурманка**, -і, *ж.* *Жан.* да **басурман**.

**Басурманскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **басурмана**.

**Баталія**, -і, *ж.* (*уст.*). Бітва, бой.

**Батлейка**, -і, *ж.* Беларускі народны лялечны тэатр з XVI па пачатак XX ст. [Ад Betleem польская назва г. Віфлеема, паводле біблейскіх звестак – месца нараджэння Хрыста].

**Батлейкавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **батлейкі**.

**Батог, батага**, *м.* Старадаўняе: кій, які прымяняўся для цялеснай кары.

**Батожыць**. Учыняць кару, катаваць **батагом** ці чым-н. іншым.

**Батрак**, -а, *м.* Наёмны рабочы, які працаваў на памешчыцкай гаспадарцы; парабак.

**Батрацкі**, -ая, -ае. Які належыць **батраку**, уласцівы **батраку**; складаецца з **батракоў**.

**Батрацтва**, -а, *н.* Становішча **батрака**.

**Батрачка**, -і, *ж.* *Жан.* да **батрак**.

**Батрачыць**. 1. Працаваць **батраком**. 2. Жыць батрацкім жыццём.

**Батфорт**, -а, *м.*; **батфорты**, -аў, *мн.* Бот з высокай халявай з раструбам уверсе.

**Баявік, баевіка**, *м.* У Расійскай імперыі ў 1905-1907 гг.: член рабочай баявой дружыны.

**Баядэра (баядэрка)**, -ы, *ж.* Танцоўшчыца, якая ўдзельнічала ў рэлігійных цырымоніях, а таксама выступала ў рэстаранах, прыватных дамах і інш.

**Баян**, -а, *м.* (*гіст.*). Усходнеславянскі паэт, пясняр.

**Баярка**, -і, *ж.* (*уст.*). Шаферка, дружка маладой у час вяселля.

**Баярства**, -а, *н.* 1. *зб.* Баяры, баярскае саслоўе. 2. Сан, званне **баярына**.

**Баярын**, -а, *м.* У Расіі да пачатку XVIII ст.: буйны землеўладальнік, які належыў да вярхоў пануючага класа.

15094555


Установа культуры «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» г. Брэст

**Баярскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **баярына**.
**Баярыня**, -і, *жс.* Жонка **баярына**.
**Беглы**, -ая, -ае. Той, які ўратаваўся ўцёкамі.
**Безгалосы**, -ая, -ае (*уст.*). Той, які не мае права голасу.
**Бекеша**, -ы, *жс.* Старадаўняе: верхняя мужчынская вопратка, падбітая футрам, са зборкамі ў таліі.
**Белагвардзеец**, -дзейца, *м.* У гады грамадзянскай вайны: член белай гвардыі – рускіх ваенных фарміраванняў, што змагаліся супраць савецкай улады.
**Белагвардзейскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **белагвардзейца**, уласцівы яму.
**Белапанскі**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **белапанская Польшча.** Неафіцыйная назва буржуазна-памешчыцкай Польшчы 1918-1939 гг.
**Бемскі**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **бемскае шкло** (дакладней багемскае шкло) (*уст.*). Тоўстае, буйнапамернае шкло высокай якасці.
**Бенефіцый**, -ю, *м.* Адна з форм зямельнага ўладання ў эпоху феадалізму.
**Бе́ркавец**, -каўца, *м.* На Беларусі ў XVI-XVIII ст.: мера масы, роўная 74,96 кг.
**Беспасажніца**, -ы, *жс.* Бедная дзяўчына, якая выходзіла замуж без пасагу.
**Бібліёлаг** ,-а, *м.* (*уст.*). Спецыяліст у галіне **бібліялогіі**.
**Бібліялогія**, -і, *жс.* (*уст.*). Кнігазнаўства.
**Біва́к**, -а, *м.* (*гіст.*). Прывал войск па-за населеным пунктам для адпачынку ці начлегу.
**Більдапарат**, -а, *м.* (*уст.*). Прылада для перадачы па тэлеграфе малюнкаў, фатаграфій, тэкстаў і пад.
**Біржа**, -ы, *жс.* Вулічная стаянка **рамізнікаў**.
**Бірка**, -і, *жс.* 1. Зашпілька ў выглядзе кавалачка дрэва замест гузіка. 2. Палачка або дошчачка, на якой нарэзамі вёўся ўлік чаго-н.
**Благароддзе**, -я, *н.* У Расійскай імперыі: тытулаванне, наданае афіцэрам да **штабс-капітана** і роўным па чыне цывільным чыноўнікам (ужывалася з займеннікамі *ваша*, *яго*, *іх*).
**Блазан** (**блазен**), **блазна**, *м.* Асоба пры двары манарха ці феадала, якая павінна была весяліць гаспадара і гасцей.
**Блазенскі**, -ая, -ае. Уласцівы **блазну**.
**Блазенства**, -а, *н.* Паводзіны, учынкі **блазна**; блазнаванне, крыўлянне.
**Блудніца**, -ы, *жс.* (*уст.*). Жанчына лёгкіх паводзін, распусніца.
**Блуза**, -ы, *жс.* 1. Мужчынская верхняя рабочая кашуля без пояса. 2. Прасторная хатняя жаночая кофта.
**Богазневажальнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто неспаважна ставіцца да бога і рэлігійных догматаў.
**Богазневажальны**, -ая, -ае (*уст.*). Які выяўляе **богазневажанне**.



**Богазневажанне**, -я, *н.* (*уст.*). Зневажанне бога або догматаў веры.
**Бонна**, -ы, *жс.* Выхавальніца малых дзяцей (звычайна іншаземка) у дваранскіх і буржуазных сем´ях царскай Расіі.
**Бортнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто займаецца **бортніцтвам**; пчаляр.
**Бортніцтва**, -а, *н.* (*уст.*). Лясное пчалярства, заснаванае на ўтрыманні пчол у штучных дуплах – борцях.
**Бортнічаць** (*уст.*). Займацца **бортніцтвам**.
**Борцевы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **борці**.
**Борць**, -і, *жс.* (*уст.*). Вулей у выглядзе выдзеўбанай калоды або дупло ў дрэве, дзе жывуць пчолы.
**Бочка**, -і, *жс.* На Беларусі ў XVI-XVIII ст.: мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, роўная 406,7 л.
**Бош**, -а, *м.*; **бошы**, -аў, *мн.* (*пагард.*). Мянушка немцаў у Францыі, якая з'явілася ў час першай сусветнай вайны 1914-1918 гг.
**Бравэрка**, -і, *жс.* На Беларусі ў XIX – пачатку XX ст.: мужчынскі доўгі аднабортны пінжак з даматканага сукна; верхняя кароткая мужчынская вопратка, звычайна з аўчын, абцягнутых саматканым сукном.
**Брамнік**, -а, *м.* (*уст.*). Вартаўнік, дзяжурны пры браме, пры ўваходзе куды-н.
**Брамніца**, -ы, *жс.* *Жан.* да **брамнік**.
**Брандмайстар**, **брандмайстра**, *м.* (*уст.*). Начальнік пажарнай каманды.
**Брандмайстарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **брандмайстра**.
**Бра́ны**, -ая, -ае (*уст.*). Вытканы ўзорамі, перабіраны.
**Браняносец**, **браняносца**, *м.* Вялікі браніраваны ваенны карабель з магутнай артылерыяй на борце (у канцы XIX – пачатку XX ст.).
**Бра́тчына**, -ы, *жс.* (*гіст.*). Сялянская гулянка з пачастункам, якая арганізоўвалася ў складчыну пасля збору ўраджаю ці ў святочныя дні.
**Брацтва**, -а, *н.*; **брацтвы**, -аў, *мн.* 1. Рэлігійна-нацыянальная арганізацыя беларускага і украінскага гарадскога насельніцтва ў XVI –XVIII ст. 2. Аб'яднанне гарадскіх рамеснікаў (часам сялян) у сярэдневякоўі. На Беларусі існавала з канца XV да XVIII ст.
**Бровар**, -а, *м.* Вінакурны завод (**вінакурня**), вытворчая пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку.
**Брук**, -у, *м.* Выкладзеная каменем праезджая частка вуліцы, дарогі, плошчы.
**Брукаванка**, -і, *жс.* (*разм.*). Брукаваная дарога, шаша.
**Брукар** (**брукаўшчык**), -а, *м.* Рабочы, спецыяліст па ўкладцы **бруку**.
**Брыг**, -а, *м.* 1. Марское парусное двухмачтавае судна XVIII-XIX ст. з прамымі парусамі на абедзвюх

мачтах і косым парусам на грот-мачце. 2. Клас баявых караблёў паруснага флоту XVIII-XIX ст. водазмяшчэннем 200-400 тон, з парусным аснашчэннем.

**Брыгадзір**, -а, *м.* Ваенны чын у Расіі ў XVIII ст., сярэдні паміж палкоўнікам і генералам.

**Брыгадзіраў**, -ава. Які належыць **брыгадзіру**.

**Брыгадзірка**, -і, *ж. Жан.* да **брыгадзір**.

**Брыгадзірскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **брыгадзіра**.

**Брыганціна**, -ы, *ж.* 1. Марское парусное двухмачтавае судна з прамымі парусамі на насавой мачце і косымі на кармавой. 2. Парусна-вёславае судна ў рускім флоце XVIII ст. для перавозкі войск і грузаў.

**Брэгет**, -а, *м.* Гадзіннік асобай канструкцыі, які адбіваў гадзіны і долі гадзін і паказваў лічбы месяца. [Ад імя франц. майстра – Breguet (1747-1823)].

**Брэцёр**, -а, *м.* Чалавек, які шукае повада, каб змагацца на дуэлі; дуэлянт, забіяка.

**Брэцёрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **брэцёра**.

**Будачнік**, -а, *м.* Той, хто нясе каравульную службу ў будцы, жыве ў каравульнай чыгуначнай будцы.

**Будзёнавец**, -наўца, *м.* (*савет.*). Баец першай Коннай арміі, якой камандаваў С.М. Будзённы ў гады грамадзянскай вайны.

**Будуар**, -а, *м.* У царскай Расіі: маленькая гасцінная багатай жанчыны для прыёму найбольш блізкіх знаёмых.

**Будуарны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **будуара**.

**Бужане**, -жан, *мн.* (*гіст.*). Назва ўсходнеславянскага народа, які ў VI-IX ст. засяляў басейн Заходняга Буга.

**Бу́кі**, *нескл.*, *н.* (*уст.*). Стараславянская назва літары ‘б’.

**Букля**, -і, *ж.*; **буклі**, -яў, *мн.* (*уст.*). Завітая кольцамі пасма валасоў.

**Булава**, -ы, *ж.* 1. Старадаўняе: халодная зброя бліжняга бою, якая мела форму **паліцы** (даўжыня 0,5-0,8 м) з галоўкай рознай канфігурацыі. 2. У XVI–XVIII ст.: сімвал вайсковага старшынства.

**Булат**, -а і -у, *м.* 1. -у. Старадаўняе: узорыстая цвёрдая сталь для клінкоў. 2. -а. Клінок (меч, шабля, кінжал) з такой сталі (*гіст.*).

**Булачнік**, -а, *м.* (*уст.*). Уладальнік булачнай або прадавец булак ці пекар, які іх выпякае.

**Булачніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **булачнік**.

**Бунчук**, -а, *м.* (*ваен.*). Рэгалія ў выглядзе дрэўка з шарам ці вастрыём на верхнім канцы, з пасмамі конскіх валасоў і двума сярэбранымі кутасамі як сімвал улады (турэцкіх пашоў, у XVI-XVIII ст.: гетманаў ВКЛ і Польшчы, казацкіх атаманаў).

**Бургамістр**, -а, *м.* 1. Выбарная асоба, якая ўзначальвала мясцовае самакіраванне ў сярэдневяковых гарадах, дзе дзейнічала магдэбургскае права. 2. У час Вялікай Айчыннай вайны на акупаванай тэрыторыі Беларусі нямецкія фашысты пад выглядам мясцовага самакіравання прызначалі ў гарадах і раёнах як з мясцовых жыхароў, так і з асоб, якія прыбылі разам з акупантамі і супрацоўнічалі з імі.

**Бурлак**, -а, *м.* 1. На Беларусі ў XVII-XIX ст.: наёмны рабочы ў арцелі, якая цягнула рачныя судны ўручную пры дапамозе канатаў і вёслаў. 2. Бяздомны халасты або ўдовы бяздзетны мужчына, які вёў гаспадарку адасоблена.

**Бурлацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **бурлака, бурлакоў.**

**Бурлачыць.** Працаваць **бурлаком**.

**Бурмістр**,-а, *м.* Выбарная асоба ў **магістрат** – адміністрацыйны і судовы орган гарадскога самакіравання ў гарадах Беларусі, якія мелі магдэбургскае права ў XIV–XVIII ст.

**Бурнос**, -а, *м.* Старадаўняе: даўгаполая з шырокімі рукавамі сялянская вопратка з саматканага сукна.

**Бурса**, -ы, *ж.* 1. Інтэрнат для бедных студэнтаў пры сярэдневяковых універсітэтах. 2. У Расійскай імперыі: інтэрнат пры духоўным вучылішчы і семінарыі.

**Бурсак**, -а, *м.* Навучэнец **бурсы.**

**Бурсацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **бурсака**.

**Бусел**, -сла, *м.* (*уст. разм.*). Высокая бутэлька гарэлкі.



**Бягун**, **бегуна**, *м.* (*уст.*). 1. Уцякач. 2. Хуткі на хаду конь.

**Бядняк**, -а, *м.* Бедны селянін, якога ў мінулым эксплуатавалі багачы.

**Бязбожнік**, -а, *м.* (*уст. і лаянк.*). Пра несумленнага, нахабнага чалавека.

**Бярданка**, -і, *ж.* (*ваен.*). Аднназарадная вінтоўка калібру 10,67 мм., якая была на ўзбраенні рускай арміі ў 1868-1891 гг.

**Бярдыш**, -а, *м.* (*ваен.*). Старадаўняе: халодная зброя ў выглядзе насаджанай на драўлянае дрэўка (даўж. 1,8–2 м) сякеры з лязом у форме паўмесяца (даўж. 0,4-1 м).

**Бясконны**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які не мае каня, коней. 2. Без каня.

**Бясчассе**, -я, *н.* (*уст.*). Пара непаладак, час грамадскага і культурнага застою.

## В

**Вака́була**, -ы, *ж.* Іншамоўнае слова з перакладам, прызначанае для запамінання пры вывучэнні замежнай мовы.

**Вакацыі**, -ый, *толькі мн.* (*уст.*). Канікулы.

**Вакацыйны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **вакацый**.

**Вакхана́лія**, -і, *ж.*; **вакханаліі**, -ій, *мн.* У старажытным Рыме: свята ў гонар бога віна і весялосці Вакха.

**Вакха́нка**, -і, *ж.* 1. У старажытным Рыме: жрыца бога Вакха, удзельніца вакханалій.

2. Пра юрлівую страсную жанчыну (*уст.*).

**Вакхічны**, -ая, -ае. Звязаны з культам Вакха.

**Валанцёр**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто добраахвотна паступаў на вайсковую службу; добраахвотнік.

**Валанцёрскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае дачыненне да **валанцёра**.

**Валапюк**, -а, *м.* Першая штучная мова, створаная нямецкім мовазнаўцам І.Шлеерам у 1879 г.

**Валасніца**, -ы, *ж.* Старадаўняе: грубая валасяная (шарсцяная) вопратка, якую надзявалі на голае цела пустэльнікі-манахі ў знак пакоры.

**Валачобнік**, -а, *м.* (*уст.*). Песеннік, які ходзіць у велікодныя дні па дварах з віншавальнымі песнямі.

**Валачобны**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да валачобнікаў. 2. Уласцівы **валачобніку**, такі, як у **валачобніка**.

**Валока**, -і, *ж.* Асноўная зямельная мера (21,36 га) і адзінка абкладання сялян павіннасцямі ў ВКЛ у XVI-XVIII ст.

**Валоўня**, -і, *ж.* (*уст.*). Хлеў для валоў.

**Валочнік**, -а, *м.* Заможны селянін, які меў у сваім уладанні **валоку** зямлі.

**Вальтаж**, -у, *м.* (*уст.*). Назва напружання ў электрычным ланцугу ў вольтах.

**Вандалы**, -аў, *мн.* Старажытнагерманскае плсмя, якое заваявала частку Рымскай імперыі і разрабавала Рым.

**Вара́гі**, -аў, *мн.* 1. У Візантыі любы наёмны воін. 2. Назва выхадцаў скандынаваў (продкаў датчан, нарвежцаў і шведаў) ва Усходняй Еўропе ў другой палове IX – першай палове XI ст.

**Варшта́т**, -а, *м.* (*уст.*). Станок.

**Васпа́н**, -а, *м.* Форма ветлівага звароту да мужчыны ў асяроддзі шляхты; ваша міласць.

**Васпа́ні**, *нескл.*, *ж.* *Жан.* да **васпа́н**.

**Васьмак**, -а, *м.* Старажытная чатырохкапеечная манета.

**Васьмушка**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). Восьмая доля, частка (якога-н. прадмета або якой-н. адзінкі вымярэння).

**Васьмярык**, -мерыка, *м.* Старадаўняе: мера вагі, аб'ёму і пад. на восем якіх-н. адзінак; прадмет з васьмі частак.

**Ватэрклазет**, -а, *м.* (*уст.*). Прыбіральня з водаправодным прыстасаваннем для прамывання ўнітаза.

**Вахмістр**, -а, *м.* У царскай арміі: званне **фельдфебеля** ў кавалерыі, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Вахмістрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **вахмістра**.

**Ваявода**, -ы, *м.* 1. У старажытнай Русі і іншых славянскіх краінах: начальнік княжацкай дружыны або кіраўнік народнага апалчэння. 2. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай: службовая асоба, кіраўнік мясцовай адміністрацыі ў **ваяводстве**. 3. На тэрыторыі Заходняй Беларусі з 1921 да 1939 гг. і ў Польшчы: кіраўнік



**ваяводства**. 4. Назва гаспадара Валахіі і Малдовы ў XIV-XVIII ст.

**Ваяводскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ваяводы**.

**Ваяводства**, -а, *н.* 1. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў старажытнай Русі, якой кіраваў **ваявода**. 2. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў ВКЛ у XV–XVIII ст. 3. У 1921–1939 гг. адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Заходняй Беларусі.

**Вояж**, -а, *м.* (*уст.*). Падарожжа, паездка; вандроўніцтва.

**Ваяжор**, -а, *м.* (*уст.*). Падарожнік, вандроўнік.

**Ваяжыраваць** (*уст.*). Падарожнічаць; вандраваць.

**Ваяка**, -і, *м.* (*уст.*). Вопытны і храбры воін.

**Ве́дзі**, *нескл.*, *н.* (уст.). Стараславянская назва літары 'в'.

**Велічальны**, -ая, -ае (*уст.*). Віншавальны.

**Велічанне**, -я, *н.* (*уст.*). Віншаванне песнямі.

**Велічаць** (*уст.*). Віншаваць песнямі.

**Венцаносец**, -носца, *м.* (*уст.*). Манарх, гасудар.

**Венцаносны**, -ая, -ае (*уст.*). Урачысты эпітэт манархаў.

**Вераадступнік**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які адрокся ад сваёй веры.

**Вераадступніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **вераадступнік**.

**Вераадступніцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **вераадступніка, вераадступніцтва**.

**Вераадступніцтва**, -а, *н.* (*уст.*). Адрачэнне ад сваёй веры.

**Вермахт**, -а, *м.* Узброеныя сілы фашысцкай Германіі ў 1933-1945 гг.

**Вернападданы**, -ага, *м.* (*уст.*). Чалавек, які захоўвае вернасць манарху.

**Версіфікатар**, -а, *м.* (*уст.*). Паэт, які добра валодае тэхнікай вершаскладання.

**Версіфікатарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **версіфікатара**.

**Версіфікацыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Складанне, пісанне вершаў.

**Вершатворац**, -рца, *м.* (*уст.*). Складальнік вершаў; паэт.

**Вершатворства**, -а, *н.* (*уст.*). Тое, што і **вершапісанне**.

**Вершапісанне**, -я, *н.* (*уст.*). Пісанне вершаў.

**Весніцы**, -ніц, *толькі мн.* Плот з варотамі ў канцы вёскі.

**Вестготы**, -аў, *мн.* Заходняе адгалінаванне **готаў**, якія жылі на тэрыторыі сучаснай паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі, а ў III–IV ст. рассяліліся паміж Днястром і панізоўем Дуная.

**Веча**, -а, *н.* У старажытнай і сярэдневяковай Русі і на Беларусі: народны сход гараджан для вырашэння грамадскіх спраў, а таксама месца такога сходу.

**Вешчы**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Мудры, здольны прадракаць. 2. Які прадказвае, прарочыць што-н.

**Відок**, -а, *м.* (*уст.*). Сведка.

**Віёла**, -ы, *ж.* Старадаўняе: смы-

чковы музычны інструмент у выглядзе скрыпкі, але вялікіх памераў.

**Віж**, -а, *м.* У ВКЛ: судовая службовая асоба, якая выконвала следчыя функцыі і наглядала за судаводствам у копных судах.

**Візіцёр**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто прыходзіць з візітам; наведвальнік.

**Вікінг**, -а, *м.* Старажытнаскандынаўскі марскі воін, удзельнік марскіх паходаў.

**Вінакур**, -а, *м.* Той, хто займаецца вінакурэннем.

**Вінакурня**, -і, *ж.* Прадпрыемства, дзе вырабляюць спірт, гарэлку; бровар.

**Віна́рка**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). Вінная бутэлька, пасудзіна для віна.

**Віначэрп**, -а, *м.* У старажытнасці: службовая асоба, якая загадвала віннымі склепамі, разлівала і разносіла пітво на банкетах.

**Віціна**, -ы, *ж.* Крытае судна для перавозкі збожжа па рацэ.

**Віцмундзір**, -а, *м.* У царскай Расіі: форменны **сурдут** цывільных чыноўнікаў.

**Віцязь**, -я, *м.* У старажытнай Русі: храбры воін, герой.

**Віхляй**, -я, *м.* (*уст.*). Гультай.

**Воблі́ў**, **воблі́ва**, *м.* (*уст.*). Галалёдзіца.

**Водкуп**, -а, *м.* У царскай Расіі: права на спагнанне дзяржаўных падаткаў, на манапольнае вядзенне гандлю, якое перадавалася казной прыватным асобам за грашовы ўзнос.

**Водруб**, -а, *м.*; **адрубы**, -оў, *мн.* Участак зямлі, які атрымліваў селянін (у 1906–1916 гг.) у прыватную ўласнасць пры выхадзе з абшчыны.

**Войскі**, -ага, *м.* Службовая пасада ў Польшчы (з XIII ст.) і ВКЛ (з XVI ст.).

**Войт**, -а, *м.* 1. Службовая пасада ў ВКЛ. Узначальваў мясцовае (гарадское або сельскае) кіраванне ці самакіраванне. 2. Асоба, якая наглядала за працай прыгонных сялян і выкананнем імі павіннасцей. 3. Кіраўнік гміны ў Заходняй Беларусі ў 1921 –1939 гг.

**Войтаўна**, -ы, *ж.* Дачка **войта**.

**Волак**, -у, *м.* Назва месца найбольшага збліжэння дзвюх суседніх рэк, дзе найкарацейшымі найзручнейшым шляхам рачныя судны,чаўны перацягвалі (валаклі) на катках і колах па сушы або выгружаныя з іх тавары перавозіліся на фурманках з аднаго воднага басейна ў другі.

**Воласць**, -і, *ж.* 1. На Русі і ў ВКЛ: сукупнасць зямельных уладанняў, якія належылі адной асобе. 2. На Русі і ў ВКЛ: адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, населеная сялянамі-даннікамі, якія ўтваралі тэрытарыяльную абшчыну. 3. У Расійскай імперыі: ніжэйшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, якая ўваходзіла ў склад паветаў.

**Вольнаадпушчанік**, -а, *м.* Раб ці прыгонны, адпушчаны на волю.



**Вольнаадпушчаны**, -ая, -ае. Адпушчаны на свабоду (пра раба, прыгоннага).

**Вольная**, -ай, *ж.* Дакумент, з якім раней адпускалі прыгонных на волю.

**Вольніца**, -ы, *ж.* Беглае насельніцтва, пераважна прыгонныя сяляне, якія асядалі на ўскраінах Маскоўскай дзяржавы і дамагаліся сваёй незалежнасці.

**Ворвань**, -і, *ж.* (*уст.*). Тлушч, здабыты з рыб або марскіх жывёл.

**Вотчына**, -ы, *ж.* Зямельнае ўладанне, якое пераходзіла дзецям у спадчыну ад бацькоў на Русі XII-XVIII ст.

**Вотчыннік**, -а, *м.* Уладальнік **вотчыны**.

**Вотчынны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **вотчыны**.

**Вуглякоп**, -а, *м.* (*уст.*). Шахцёр.

**Вучком**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: вучнёўскі камітэт (у школе ў СССР у 30-я гг. XX ст).

**Выезд**, -у, *м.* Коні з **экіпажам** і вупражжу.

**Выра́за**, -ы, *ж.* (*уст.*). Выраз.

**Вы́рак**, -у, *м.* (*уст.*). Пастанова, рашэнне суда; прыгавор.

**Высакароддзе**, -я, *н.* У царскай Расіі: у спалучэнні з займеннікамі *ваша, яго, яе, іх* – тытулаванне цывільных чыноўнікаў пятага класа (стацкіх саветнікаў).

**Высокасць**, -і, *ж.* У царскай Расіі:тытулаванне членаў царскага дому (у спалучэнні з займеннікамі *ваша, іх, яго, яе*).

**Выязны**, -ая, -ае (*уст.*). Нерабочы. *Выязны конь.*

**Вядро**, -а, *н.* У ВКЛ: мера аб'ёму, роўная 11,29 літра. Звычайна выкарыстоўвалася для вымярэння мёду.

**Вязь**, -і, *ж.* Старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, у якім літары звязаны ў непарыўны арнамент, а таксама злучэнне, спляценне сумежных літар у адзін складаны знак.

**Вязьмо**, -а, *н.* (*уст.*). Складанае спляценне чаго-н.; вузел.

**Вялікакняжацкі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да вялікага **князя**; належыць, уласцівы вялікаму **князю**.

**Вяльможа**, -ы, *м.* Знатны і багаты саноўнік.

**Вяльможны**, -ая, -ае. 1. Які з'яўляецца **вяльможам**, знатны. 2. Уласцівы **вяльможу**, зняважліва-паблажлівы (*іран. неадабр.*).

**Вянец**, -нца, *м.* Каштоўны галаўны ўбор, які надзяваўся на каго-н. у знак высокага звання або асаблівых заслуг.

**Вярста**, -ы, *ж.* 1. У ВКЛ: мера даўжыні, роўная 1554,6 м. 2. Дарожны слуп, які адзначае гэту меру.

**Вяршок**, -шка, *м.* Мера даўжыні, роўная 4,4 см, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Вяршэнства**, -а, *н.* (*уст. паэт.*). Пануючае, кіруючае становішча.

**Вяршэнстваваць** (*уст.*). Быць галоўным дзе-н., у чым-н., узначальваць, панаваць.

**Вятрыла**, -а, *н.* (*уст. паэт.*). Ветразь.

**Вяшчальнік**, -а, *м.* Асоба, якая ўсенародна апавяшчала што-н.

# Г

**Гавот**, -а, *м.* Старадаўняе: французскі танец, а таксама музыка да гэтага танца.

**Газэта**, -ы, *ж.* (*уст.*). Газета.

**Гайдамак**, -а, *м.* 1. Удзельнік народна-вызваленчай барацьбы на Правабярэжнай Украіне і поўдні Беларусі супраць польска-шляхецкага прыгнёту ў XVII і XVIII ст. 2. Салдат асобых конных атрадаў у час грамадзянскай вайны на Украіне ў 1918-1920 гг.

**Гайдамацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гайдамака**.

**Гайдамаччына**, -ы, *ж.* Паўстанскі рух на Правабярэжнай Украіне і поўдні Беларусі супраць польска-шляхецкага прыгнёту.

**Гайдук**, -а, *м.* 1. Паўстанец-партызан на Балканах і ў Венгрыі ў эпоху турэцкага ўладарніцтва. 2. Слуга, выязны лакей часоў прыгоннага права.

**Галава**, -ы, *ж.* (*уст.*). Кіраўнік, начальнік.

**Га́лган**, -а, *м.* (*уст. лаянк.*). Галадранец, нягоднік.

**Галоід**, -у, *м.*; **галоіды**, -аў, *мн.* (*уст.*). Галаген.

**Галоп**, -у, *м.* Старадаўняе: танец у хуткім тэмпе, а таксама музыка да гэтага танца.

**Га́лы**, -аў, *мн.* 1. Рымская назва старажытных кельцкіх плямён, што насялялі тэрыторыю сучаснай Францыі. 2. Французы (*уст. паэт.*).

**Гама́рня** (**гамэ́рня**), -і, *ж.* (*уст. разм.*). Металаапрацоўчая майстэрня.

**Гама́ш**, -а, *м.*; **гамашы́**, -аў, *мн.* (*уст.*). Мужчынскі чаравік, туфель.

**Гантáр**, -а, *м.* 1. Чалавек, які займаецца вырабам гонт. 2. Той, хто пакрывае стрэхі гонтамі.

**Гарадавы́** (**гарадавік**), -а, *м.* У Расійскай імперыі: ніжэйшы чын паліцэйскай аховы ў горадзе; паставы паліцэйскі.

**Гараднічы**, -ага, *м.* Начальнік павятовага горада ў Расіі да сярэдзіны XIX ст.

**Гардэмарын**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: званне выхаванца старшага класа марскога кадэцкага корпуса, а таксама чын (ніжэйшы за мічмана) на флоце.

**Гарлівы**, -ая, -ае (*уст.*). Шчыры, старанны.

**Га́рнец**, **га́рца**, *м.* Адна з асноўных адзінак вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасцей у сістэме мер ВКЛ, роўная 3,28 літра, а таксама пасудзіна такой ёмістасці.

**Гарніла**, -а, *н.* (*уст.*). Горна.

**Гаспода**, -ы, *ж.* Дом, жыллё гаспадара.

**Гасудар**, -а, *м.* (*гіст.*). У старажытнай Русі і ў царскай Расіі: кіраўнік дзяржавы, цар.

**Гасударыня**, -і, *ж.* (*гіст.*). *Жан.* да **гасудар**.

**Гаўляйтар**, -а, *м.* У час Вялікай Айчыннай вайны: вярхоўны правіцельв вобласці, акупаванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Гаўптва́хта**, -ы, *ж.* Галоўны караул у крэпасці, горадзе; каравульнае памяшканне з пляцоўкай для вывядзення каравула.



**Гекатомба**, -ы, *ж.* Ахвярапрынашэнне ў старажытнай Грэцыі (першапачаткова са 100 быкоў або іншых жывёл).

**Геліёграф**, -а, *м.* (*уст.*). Прыстасаванне для перадачы светлавых сігналаў на адлегласць.

**Гелікаптэр**, -а, *м.* (*уст.*). Верталёт.

**Генерал-аншэф**, -а, *м.* (*уст.*). Генерал арміі.

**Генерал-губернатар**, -а, *м.* У Расійскай імперыі і некаторых іншых краінах: начальнік краю, надзелены вышэйшай ваеннай і адміністрацыйнай уладай.

**Генерал-губернатарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **генерал-губернатара**.

**Генерал-пракурор**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: вышэйшы ўрадавы чыноўнік, які наглядаў за законнасцю дзейнасці дзяржаўнага апарату і ўзначальваў Сенат.

**Германцы**, -аў, *мн.* 1. Назва старажытных плямён індаеўрапейскай моўнай групы, што жылі ў цэнтральнай, заходняй і паўднёва-заходняй Еўропе. 2. Немцы (*уст.*).

**Гетман**, -а, *м.* 1. У Чэхіі ў XV ст.: камандуючы войскамі табарытаў. 2. У Польшчы з XV ст. да 1795 г.: пасада камандуючага войскамі. 3. У ВКЛ пасада найвышэйшага (з сярэдзіны XVI ст. – вялікага) **гетмана** створана ў канцы XV ст. на ўзор польскай. 4. На Украіне ў другой палове XVI – першай палове XVII ст.: камандуючы рэестравымі казакамі, што знаходзіліся на дзяржаўнай службе. 5. У Малдове ў XVII ст.: кама́ндуючы войскамі.

**Гетманскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гетмана**, належыць яму.

**Гетманства**, -а, *н.* Праўленне, улада **гетмана**.

**Гетманшчына**, -ы, *ж.* Перыяд, калі на Украіне былі гетманы (XVI-XVIII ст.).

**Гетэ́ра**, -ы, *ж.* У старажытнай Грэцыі: адукаваная незамужняя жанчына, якая вяла свабодны, незалежны лад жыцця. Звычайна **гетэ́ра** вызначалася розумам, адукаванасцю і прыгажосцю, вакол яе гуртаваліся мастакі, паэты, філосафы.

**Гешэфт**, -у, *м.* (*уст. разм.*). Спекуляцыйная, выгадная здзелка.

**Гідраплан**, -а, *м.* (*уст.*). Гідрасамалёт.

**Гільдыя**, -і, *ж.* 1. У сярэдневяковай Еўропе: аб'яднанне купцоў або рамеснікаў, якое абараняла інтарэсы або цэхавыя прывілеі сваіх членаў. 2. У Расійскай імперыі: адзін з трох саслоўна-падатковых разрадаў, на якія падзялялася купецтва ў залежнасці ад велічыні капіталу.

**Гільяціна**, -ы, *ж.* Прыстасаванне для абезгалоўлівання асуджаных на пакаранне смерцю, уведзенае ў час Французскай рэвалюцыі 1789-1799 гг. па прапанове ўрача Ж. Гіятэна.

**Гільяцінаваць**. Пакараць (караць) на **гільяціне**.

**Гіпнатызм**, -у, *м.* (*уст.*). Гіпноз.

**Гістарыёграф**, -а, *м.* (*уст.*). Гісторык.

**Гіцаль**, -цля, *м.* (*уст. і абл.*). Скуралуп, скурадзёр.

**Глаголіца**, -ы, *ж.*; *толькі адз.* (*філал.*). Адна з дзвюх стараславянскіх азбук, якая адрозніваецца ад **кірыліцы** абрысамі літар.

**Глаголь**, -я, *м.* (*уст.*). Назва літары "г".

**Гладыятар**, -а, *м.* У старажытным Рыме: барэц з рабоў або ваеннапалонных, які змагаўся на арэне цырка з другім такім барцом або дзікімі звярамі.

**Гладыятарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гладыятара**, належыць яму.

**Глас**, -а, *м.* (*уст. і царк.- кніжн.*). Голас.

**Гласны**, -ага, *м.* У царскай Расіі: член гарадской думы, гарадскі дэпутат.

**Гнастыцызм**, -у, *м.* Рэлігійна-філасофская плынь ранняга хрысціянства, у аснове якой – містычнае вучэнне пра "гносіс" як асаблівае пазнанне, быццам бы здольнае раскрыць таямніцы жыцця і шляхі для выратавання душы.

**Гнастычны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гнастыцызму**.

**Гноман**, -а, *м.* Астранамічны інструмент – вертыкальны шост з падстаўкай, пры дапамозе якога вызначалі вышыню Сонца над гарызонтам.

**Гон**, -у, *м.*: *у словазлучэнні* **бабровыя гоны** (*уст.*). Месца, дзе вадзіліся і лавіліся бабры.

**Гоні**, -ей, *толькі мн.* Адрэзак паласы ворнай зямлі.

**Гонта**, -ы, *ж.*, *зб.* Дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, востра саструганых з аднаго боку і з пазам – з другога.

**Гонтавы**, -ая, -ае. 1. Прызначаны для вырабу гонт. 2. Зроблены з гонт.

**Горад**, -а, *м.* (*гіст.*). Населенае месца, абгароджанае і ўмацаванае сцяной.

**Готы**, -аў, *мн.* Плямёны ўсходніх германцаў, якія ў пачатку першага тысячагоддзя нашай эры перасяліліся са Скандынавіі на паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

**Гоцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **готаў**, належыць ім.

**Граданачальнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: начальнік з правамі **губернатара**, які кіраваў горадам, што быў вылучаны з губернскага падпарадкавання ў асобную адміністрацыйную адзінку.

**Граданачальніцтва**, -а, *н.* У царскай Расіі: горад з прылеглым да яго наваколлем, выдзелены з **губерні** ў асобную адміністрацыйную адзінку.

**Гражда́нка (грамадзя́нка)**, -і, *ж.* Шрыфт, уведзены ў 1708 г. Пятром І замест царкоўнаславянскага.

**Грамада**, -ы, *ж.* Пазямельная абшчына ў Беларусі і на Украіне да кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., а таксама сход членаў гэтай абшчыны.



**Грамадзянін**, -а, *м.* (*уст.*). Жыхар горада, гараджанін.

**Грамадзянка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **грамадзянін**.

**Грамадзянства**, -а, *н.* (*уст.*). Грамадзяне.

**Грамата**, -ы, *ж.* (*уст.*). Пісьмо, пасланне.

**Гранавіты**, -ая, -ае (*уст.*). Гранёны.

**Граф**, -а, *м.* Дваранскі тытул у царскай Расіі і краінах Заходняй Еўропы, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**Грацыя**, -і, *ж.* (*уст. паэт.*). Красуня, прыгажуня.

**Грос**, -а, *м.* Дванаццаць тузінаў (144 штукі) якіх-н. аднародных прадметаў.

**Грош**, -аў, *м.* Медная манета (да 1838 г. двухкапеечная, а пасля паўкапеечная) у царскай Расіі з 1657 г. да пачатку XX ст.

**Грыдзь**, -і, *ж.* 1. Малодшая княжацкая **дружына** ў старажытнай Русі. 2. -я, *м.* Член гэтай **дружыны**.

**Грыдніца**, -і, *ж.* Памяшканне пры княжацкім двары ў старажытнай Русі, дзе жыла **грыдзь** або прымалі гасцей.

**Грыўня**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. Грашовая адзінка ў старажытнай Русі: залаты або сярэбраны злітак, першапач. вагой каля **фунта**. 2. Залатое ці сярэбранае ўпрыгожанне на шыю ў старажытнай Русі. 3. Сярэбраная або медная дзесяцікапеечная манета ў XVIII-XIX ст. 4. Медная трохкапеечная манета пасля грашовай рэформы 1839–1843 гг.

**Грэнадзёр**, -а, *м.* У царскай арміі: ваеннаслужачы некаторых прывілеяваных палкоў, якія называліся грэнадзёрскімі (першапачаткова – салдат, узброены гранатамі для кідання).

**Грэнадзёрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **грэнадзёра**, **грэнадзёраў**, складаецца з іх.

**Губа**, -ы, *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная акруга ў Рускай дзяржаве XVI-XVII ст., якая адпавядала пазнейшаму **павету**.

**Губерня**, -і, *ж.* 1. Асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў царскай Расіі з пачатку XVIII ст. і ў СССР да 1924-1929 гг. 2. Губернскі горад (*уст.*).

**Гугенот**, -а, *м.*; **гугеноты**, -аў, *мн.* Французскі пратэстант-кальвініст XVI-XVIII ст., які праследваўся каталіцкай царквой і ўрадам.

**Гугеноцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гугенотаў, гугенота**.

**Гудок**, -дка, *м.* Старадаўняе: трохструнны смычковы музычны інструмент.

**Гудошнік**, -а, *м.* Музыка, які іграў на **гудку**.

**Гужпавіннасць**, -і, *ж.* Павіннасць, якую адбываюць на гужавым транспарце.

**Гужпавіннік**, -а, *м.* Той, хто адбывае гужавую павіннасць.

**Гульбішча**, -а, *н.* (*уст.*). Месца народнага гуляння.

**Гульдэн**, -а, *м.* Залатая, а пасля сярэбраная манета ў шэрагу краін Цэнтральнай Еўропы ў XIV-XIX ст.

**Гумалястыка**, -і, *ж.* (*уст.*). Гума, рызіна.

**Гуны**, -аў, *мн.* Качавы народ, які склаўся ў II-IV ст. у Прыураллі з мясцовых уграў і сарматаў і цюркскамоўных хуну, што прыйшлі ў II ст. з Цэнтральнай Азіі.

**Гуртаўшчык**, -а, *м.* Уладальнік гурта (гуртоў), які гандляваў жывёлай.

**Гусар**, -а, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: ваенны з часцей лёгкай кавалерыі, якія насілі форму венгерскага ўзору (уведзенай у XV ст.).

**Гусарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гусара**, гусараў, належыць ім.

**Гусіст**, -а, *м.*; **гусісты**, -аў, *мн.* Паслядоўнік Яна Гуса, ідэолага нацыянальна-вызваленчага і антыкаталіцкага руху ў Чэхіі ў XV ст.

**Гусіцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **гусістаў**, належыць ім.

**Гуслі**, -яў, *толькі мн.* Старажытны струнна-шчыпковы музычны інструмент.

**Гусляр**, -а, *м.* Музыка, які іграў на **гуслях** і часам пад акампанемент спяваў былінна-эпічныя і іншыя народныя песні і прыпеўкі да танцаў.

**Гута**, -ы, *ж.* (*уст.*). Шклозавод.

**Гутнік**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы, які працаваў на **гуце**, вырабляў шкло.

**Гэст**, -а, *м.* (*уст.*). Жэст.

## Д

**Дагератыпія**, -і, *ж.* (*уст.*). Спосаб фатаграфавання на металічную пласцінку, пакрытую слоем ёдзістага серабра.

**Дагератыпны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **дагератыпіі**.

**Даездчык**, -а, *м.* Старшы псяр, які адказвае за гончых на паляванні.

**Даклярацыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Абяцанне зрабіць, даць што-н.

**Далібог (дальбог)**, *выкл.* (*уст.*). Упэўненне ў значэнні *сапраўды, на самай справе. **Далібог**, я тут ні пры чым.*

**Дальме́ны**, -аў, *мн.* Старажытныя пахавальныя збудаванні з вялікіх каменных пліт, пастаўленых вертыкальна і накрытых адной гарызантальнай.

**Дамастрой**, -я, *м.* (з вялікай літары). Помнік рускага пісьменства XVI ст., у якім змяшчаецца звод жыццёвых правіл і павучанняў (пазней стаў агульным абазначэннем кансерватыўнага сямейна-бытавога ўкладу жыцця).

**Дамачадзец**, -дца, *м.*; **дамачадцы**, -аў, *мн.* (*уст.*). Член сям'і, а таксама людзі, якія жывуць у доме на правах членаў сям'і.

**Даніна**, -ы, *ж.* 1. Подаць, якую браў пераможца з пераможанага. 2. Натуральны або грашовы падатак, які ў старажытныя і сярэднія вякі збіраўся **князем**, **феадалам** і інш. са сваіх падданых.

**Даннік**, -а, *м.* Які плоціць **даніну**.

**Дантыст**, -а, *м.* (*уст.*). Зубны доктар.

**Дарэктар**, -а, *м.* (*уст. разм.*). У дарэвалюцыйнай (1917 г.) беларускай вёсцы – хатні настаўнік.



**Дарэформенны**, -ая, -ае. Які адносіцца да часу, што папярэднічаў сялянскай рэформе 1861 г. у Расійскай імперыі.

**Даспехі**, -аў, *звычайна мн.*; *адз.* **даспех**, -а, *м.* Воінская амуніцыя (звычайна **латніка**).

**Дафін**, -а, *м.* Тытул наследніка трона ў Францыі (да ліпеньскай рэвалюцыі 1830 г.), а таксама асоба, якая мела гэты тытул.

**Дваранін**, -а, *м.* Асоба, якая належала да **дваранства**.

**Дваранка**, -і, *ж.* *Жан.* да **дваранін**.

**Дваранскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **двараніна**, **дваранства**.

**Дваранства**, -а, *н.* У феадальным і капіталістычным грамадстве: прывілеяваны пануючы клас (памешчыкаў і вышэйшых чыноўнікаў, якія выслужыліся перад уладай).

**Дваровы**, -ая, -ае. 1. Які належыць да **дворні** (*гіст.*). 2. *у знач. наз.* **дваровы**, -ага, *м.* Прыгонны селянін, узяты ў панскі двор для абслугоўвання **памешчыка**.

**Дварышча**, -а, *н.* 1. Участак з хатай і іншымі гаспадарчымі будынкамі; месца, дзе раней была сядзіба. 2. Месца, дзе быў раней двор, жыллё радавітай асобы (*гіст.*).

**Дварэцкі**, -ага, *м.* У царскай Расіі: старшы слуга, які загадваў хатняй гаспадаркай і кіраваў прыслугай у панскім **маёнтку**.

**Двор**, -а, *м.* Тое, што і **маёнтак**.

**Дворніцкая**, -ай, *ж.* Памяшканне для дворніка.

**Дворня**, -і, *ж.* Пры прыгонным праве: прыслуга пры панскім двары, доме; дваровыя людзі.

**Двухвёрсны**, -ая, -ае. Працягласцю ў дзве **вярсты**.

**Дзед**, -а, *м.* Старадаўняе: прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай **лучыны** ці смалістых корчыкаў.

**Дзедзіч**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Спадкаемца дзедаўскага **двара**, **маёнтка**. 2. Уладар **маёнтка**, атрыманага ў спадчыну ад продкаў.

**Дзекабрыст**, -а, *м.* Удзельнік рускага дваранскага рэвалюцыйна-вызваленчага руху, які завяршыўся паўстаннем 14 снежня 1825 г. супраць самадзяржаўя і прыгоннага права.

**Дзекабрыстка**, -і, *ж.* Жонка **дзекабрыста**.

**Дзеля**, *прыназ.* (*уст.*). Ужываецца пры ўказанні на прычыну або падставу дзеяння. *Юльцы вельмі смачна рабіць тое, чаго няможна. Маці мае дзеля гэтага вялікія клопаты.* З. Бядуля.

**Дзесяціна**, -ы, *ж.* 1. У сярэдневяковай Еўропе: дзесятая частка даходу, якая збіралася царквою з насельніцтва. 2. Старажытная мера зямельных плошчаў, роўная 2400 кв. сажням або 1,09 га.

**Дзесяцкі**, -ага, *м.* На Беларусі ў XVIII – пачатку XX ст.: выбарная службовая асоба з сялян (звычайна ад кожных дзесяці двароў), якая дапамагала ўладам пры вышуку і ў судзе.

**Дзесяцярычны**, -ая, -ае (*уст.*). Павялічаны ў дзесяць разоў; дзесяцікратны.
**Дзеяць** (*уст.*). Рабіць, чыніць што-н. каму-н.
**Дзіда**, -ы, *ж.* Старажытная колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам; піка.
**Дзядзінец**, -нца, *м.* (*гіст.*). 1. Цэнтральная частка старажытнага горада, умацаваная валамі, а пазней мураванымі сценамі і драўлянымі вежамі. 2. Прасторны двор, агароджаны пляц (звычайна перад **маёнткам**, царквой) (*разм.*).
**Дзядзькаванне**, -я, *н.* (*гіст.*). Звычай у беларускіх землях канца XVI – пач. XVIII ст. аддаваць дзяцей шляхты ў сялянскую сям'ю, каб выхаваць у іх station фізічныя і духоўныя якасці простага народа: працавітасць, сілу, непатрабавальнасць да ежы і адзення, любоў да зямлі і вернасць ёй.
**Дзяк**, -а, *м.* У старажытнай Русі: пісец у **князя**, у XIV-XVII ст.: службовая асоба, якая займала адказныя пасады ў дзяржаўных установах.
**Дзякла (дзякло)**, -а, *н.* (*гіст.*). У ВКЛ: від прадуктовай феадальнай **рэнты** за зямельны надзел, якая збіралася на карысць землеўладальніка з сялян.
**Дзясніца**, -ы, *ж.* (*уст. і царк.-кніжн.*). Рука.
**Дож**, -а, *м.* Тытул правіцеля Венецыянскай і Генуэзскай рэспублік да канца XVIII ст., а таксама асоба, якая мела гэты тытул.
**Доля**, -і, *ж.* Мера масы, роўная 44 мг, якая ўжывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы.
**Дом**, -у, *м.* (*уст.*). Дынастыя, род.
**Доўгацярпенне**, -я, *н.* (*уст.*). Трывалае, доўгае цярпенне.
**Доўгацярплівы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае доўгае цярпенне.
**Драгун**, -а, *м.* У царскай Расіі і ў некаторых краінах Еўропы: салдат або афіцэр некаторых кавалерыйскіх часцей, здольных весці бой і ў спешаным страі.
**Драгунскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **драгуна**, належыць ім.
**Драпак**, -а, *м.* (*уст.*). Спружыноўка.
**Драўляне**, -лян, *мн.* Старажытнае ўсходнеславянскае племя, якое жыло ў VI-X ст. на Прыпяцкім Палессі.
**Драхма**, -ы, *ж.* Адзінка аптэкарскай вагі, роўная 3,73 г, якая ўжывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы мер.
**Дрожкі**, -жак, *толькі мн.* Лёгкі адкрыты **экіпаж**.
**Дроцік**, -а, *м.* Кідальная зброя ў выглядзе невялікага **кап'я**.
**Дружына**, -ы, *ж.* У старажытнай Русі: група з прыбліжаных **князя**, якая складала асноўнае яго войска і прымала ўдзел у кіраванні **княствам**.
**Дружыннік**, -а, *м.* Член **дружыны**.
**Дружынніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **дружыннік**.
**Дружынны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **дружыны**.



**Дрыгавічы**, -оў, *мн.*; *адз.* **дрыгавіч**, -а, *м.*, **дрыгавіча́нка**, -і, *ж.* (*гіст.*). Адно з племянных усходнеславянскіх аб'яднанняў, якое пазней разам з **крывіча́мі** і **радзімічамі** ўвайшло ў склад беларускай народнасці.
**Дублон**, -а, *м.* Старадаўняе: іспанская залатая манета, якая змяшчала каля 7,5 г золата.
**Дукат**, -а, *м.* Агульнаеўрапейская назва залатой манеты, якую з 1284 г. чаканіла Венецыя, а пазней Венгрыя, Чэхія, ВКЛ і інш.
**Дурань**, -рня, *м.* (*уст.*). Юродзівы.
**Дуумвіра́т**, -а, *м.* У старажытным Рыме: кіраванне дзвюх асоб.
**Душа**, -ы, *ж.*: *у словазлучэнні* **чарнільная душа** (*уст.*). Канцылярскі чыноўнік-фармаліст.
**Душагрэйка**, -і, *ж.* Старадаўняе: цёплая жаночая сукенка без рукавоў.
**Душапрыказчык**, -а, *м.* У царскай Расіі: асоба, на якую завяшчальнік ускладваў выкананне завяшчання.
**Дыба**, -ы, *ж.* Сярэдневяковае прыстасаванне, на якім расцягвалі цела абвінавачанага падчас допыту.
**Дыктатар**, -а, *м.* У старажытным Рыме: службовая асоба, якая прызначалася **сенатам** у выпадку знешняй або ўнутранай небяспекі для дзяржавы і мела неабмежаваныя паўнамоцтвы.
**Дыктатура**, -ы, *ж.* У старажытным Рыме: паўнамоцтвы, улада **дыктатара**; час панавання **дыктатара**.
**Дыліжанс**, -а, *м.* Мнагамесная карэта для перавозкі пасажыраў і пошты да пашырэння чыгуначных і аўтамабільных зносін.
**Дынама** (**дынама-машына**), *нескл.*, *н.* (*уст.*). Генератар пастаяннага электрычнага току.
**Дынар**, -а, *м.* Старажытная арабская залатая манета.
**Дынарый**, -я, *м.* Сярэбраная манета ў старажытным Рыме.
**Дырэкторыя**, -і, *ж.* Кіруючы орган дзяржаўнай улады ў эпоху французскай буржуазнай рэвалюцыі (1795–1799 гг.).
**Дыспазіцыя**, -і, *ж.* 1. У XVIII–XIX ст.: пісьмовы загад войскам на бой або на марш. 2. План размяшчэння войск для бою (*уст.*).
**Дыфірамб**, -а, *м.* У старажытнай Грэцыі: урачыстая харавая песня ў гонар бога Дыяніса.
**Дыялектык**, -а, *м.* (*уст.*). Асоба, якая добра валодае **дыялектыкай.**
**Дыялектыка**, -і, *ж.* (*уст.*). Уменне спрачацца, прымяняць лагічныя довады ў спрэчках.
**Дэбаркадэр**, -а, *м.* (*уст.*). Крытая платформа на чыгуначнай станцыі.
**Дэвіз**, -а, *м.* Кароткі сімвалічны надпіс на гербе, шчыце, ордэне і пад.
**Дэізм**, -у, *м.* Рэлігійна-філасофскае вучэнне (XVII–XVIII ст.), якое прызнае бога першапрычынай, тварцом свету, але адмаўляе яго ўмяшанне ў

з`явы прыроды і грамадскага жыцця.

**Дэіст**, -а, *м.* Паслядоўнік **дэізму**.

**Дэістычны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **дэізму**.

**Дэмакрат**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто вядзе просты спосаб жыцця.

**Дэман**, -а, *м.* (*уст. перан.*). Увасабленне якой-н. страсці, заганы і інш.

**Дэмікатон**, -у, *м.* Тоўстая бавоўняная тканіна, якой карысталіся ў XIX ст.

**Дэмікато́навы**, -ая, -ае. Зроблены з **дэмікато́ну**.

**Дэпартамент**, -а, *м.* У царскай Расіі і некаторых капіталістычных краінах: аддзел міністэрства ці іншай вышэйшай дзяржаўнай установы або самастойны орган.

**Дэпеша**, -ы, *ж.* (*уст.*). Тэлеграма.

**Дэпо**, *нескл.*, *н.* (*уст.*). Склад.

**Дэсань**, -і, *ж.* (*уст.*). Узор.

## Е

**Егер**, -а, *м.* 1. Паляўнічы-прафесіянал (*уст.*). 2. Салдат асобых стралковых (егерскіх) палкоў у некаторых еўрапейскіх арміях XVII – сярэдзіны XIX ст.

**Егерскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **егера**.

**Ез**, -а, *м.* (*уст.*). Плеценая перагародка папярок ракі для затрымання і лоўлі рыбы.

**Есаул**, -а, *м.* Афіцэрскі чын у казацкіх войсках царскай арміі, роўны чыну капітана ў пяхоце і **ротмістра** ў кавалерыі, а таксама асоба, якая мела гэты чын.

**Есаульскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **есаула**, належыць яму.

**Еры**, *нескл.*, *н.* (*уст.*). Назва літары і гука ‘ы’.

## Ж

**Жабо**, *нескл.*, *н.* 1. Карункавыя або кісейныя брыжы вакол каўняра і на грудзях у мужчынскай кашулі. 2. Высокі палатняны каўнер мужчынскай кашулі, які закрываў ніжнія часткі шчок.

**Жагна́цца** (*уст.*). Хрысціцца.

**Жагна́ць** (*уст.*). 1. Хрысціць крыжам каго-н., што-н. 2. Благаслаўляць.

**Жазло**, -а, *н.* Посах або кій вызначанай формы, што служылі сімвалам улады, ганаровага звання, становішча.

**Жакет (жакетка)**, -а, *м.* Старадаўняе: верхняе кароткае мужчынскае адзенне; пінжак.

**Жакоб**, *нескл.*, *м.* Назва стылю мэблі з чырвонага дрэва з упрыгожаннямі з бронзы (у XVIII ст.), пазней (у XIX ст.) з упрыгожаннямі ў выглядзе наклееных палосак з латуні. [Ад прозвішча сям'і франц. майстроў XVIII – першай паловы XIX ст. Jakob].

**Жакт**, -а, *м.* (*савет. афіц.*). Скарачэнне: жыллёва-арэнднае кааператыўнае таварыства.

**Жактоўскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **жакта**, належыць яму.

**Жалаванне**, -я, *н.* (*уст.*). Заработная плата.



**Жалезка**, -і, *м.* (*уст. разм.*). Чыгунка (пераважна ў мове партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны 1941–1945 гг.).

**Жаўнер**, -а, *м.* (*уст.*). Салдат польскай арміі.

**Жаўнерка**, -і, *ж.* Жонка **жаўнера**.

**Жаўнерскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **жаўнера**, жаўнераў, належыць ім.

**Жмудзь**, -і, *ж.* Назва літоўскага племя **жэмайты**.

**Жмудскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **жмудзі**, належыць ёй.

**Жуі́р**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто шукае ў жыцці толькі асалоды, уцехі.

**Жуіраваць** (*уст.*). Жыць толькі асалодамі, уцехамі; весці жыццё **жуі́ра**.

**Жупан**, -а, *м.* Старадаўняе: верхняе мужчынскае і жаночае адзенне з каляровага сукна ў беларусаў, палякаў і ўкраінцаў.

**Журфікс**, -а, *м.* Вечар для прыёму гасцей у загадзя вызначаны дзень тыдня.

**Жыве́це**, *нескл.*, *н.* (*уст.*). Назва літары ‘ж’.

**Жывот**, -вата, *м.* (*уст.*). Жыццё.

**Жырандоль**, -і, *м.* Вялікі фігурны падсвечнік для некалькіх свечак.

**Жыронда**, -ы, *ж.* Палітычная групоўка ў перыяд французскай буржуазнай рэвалюцыі XVIII ст., якая адлюстроўвала інтарэсы буйной буржуазіі і перайшла на бок контррэвалюцыі.

**Жытніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Памяшканне для захоўвання збожжа; свіран.

**Жэмайты**, -аў, *мн.* Старажытнае літоўскае племя, якое ў XIII–XV ст. жыло ў заходняй частцы Літвы.

## З

**Забрала**, -а, *н.* Пярэдняя частка шлема, якая апускаецца ўніз для аховы твару ў час бою.

**Заезд**, -а, *м.* Заезны дом.

**Заказ**, -у, *м.* (*уст.*). Забарона.

**Заказаць** (*уст.*). Забараніць, зрабіць недаступным.

**Закладная**, -ой, *ж.* (*уст.*). Дакумент аб закладзе маёмасці.

**Закладчык**, -а, *м.* (*уст.*). Асоба, якая здае ў заклад рэчы, маёмасць.

**Заклящце**, -я, *н.* (*уст.*). Заклінанне, клятва, зарок.

**Законавучыцель**, -я, *м.* У царскай Расіі: выкладчык Закону Божага ў школе.

**Закуп**, -а, *м.* На Русі і ў ВКЛ: селянін, які атрымаў пазыку ад землеўладальніка і трапіў да яго ў залежнасць.

**Закупіць** (*уст.*). Падкупіць гасцінцамі.

**Залажыць**. 1. Запрэгчы ў **экіпаж**. 2. Прыгатаваць **экіпаж**, запрэгчы ў яго каня, коней.

**Залатар**, -а, *м.* (*уст.*). 1. Майстар па вырабу розных рэчаў з золата; ювелір. 2. Асенізатар (*іран.*).

**Залатнік**, -а, *м.* Мера масы, роўная 1/96 фунта (каля 4,26 г), якая ўжывалася да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Залатнікова**, -ая, -ае. Масаю ў адзін **залатнік**.

**Залатоўка**, -і, *ж.* Манета ў 15 капеек.
**Замак**, -мка, *м.* 1. Палац і крэпасць **феадала**. 2. Назва некаторых палацаў, турмаў (*уст.*).
**Заморскі**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які знаходзіцца за морам, за граніцай або прывезены адтуль. 2. Пра гандаль, які вядзецца з заграніцай.
**Запарожац**, -жца, *м.* Казак з Запарожскай сечы – украінскага казацкага войска XVI–XVIII ст.
**Запіс**, -у, *м.* (*уст.*). Дакумент, акт.
**Запрыгоніць**. Зрабіць прыгонным, закабаліць.
**Застава**, -ы, *ж.* 1. У Расіі ў XVI–XIX ст.: падраздзяленне (каманда) памежнай вартавой службы. 2. Месца ўезду ў горад або выезду з яго ў XVI–XIX ст., якое ахоўвалася вартай, дзе правяраліся дакументы і збіралася пошліна.
**Застрэльшчык**, -а, *м.* Салдат у рассыпным страі, які першым сустракаўся з праціўнікам.
**Засценак**, -нка, *м.* (*гіст.*). Невялікае сельскае паселішча дробнай шляхты на тэрыторыі Заходняй Беларусі; хутар.
**Засцянковы**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **засценка**.
**Затым**, *прысл.* (*уст.*). Таму, па той (гэтай) прычыне.
**Заходніцтва**, -а, *н.* Грамадская плынь у Расіі ў 30-50-я гады XIX ст., прадстаўнікі якой, у адрозненне ад **славянафілаў**, адстойвалі для Расіі заходнееўрапейскі, капіталістычны шлях развіцця.
**Заштатны**, -ая, -ае (*уст.*). Які не ўваходзіць у штат установы, прадпрыемства; пазаштатны.
**Заштукаваць** (*уст.*). Закрыць адтуліну, забіўшы, заклаўшы чым-н.
**Збег**, -а, *м.* (*уст.*). Уцякач, бягляк.
**Збіцень, збітню**, *м.* Гарачае пітво на Беларусі ў XVIII–XIX ст. У кіпень з мёдам, цукрам ці патакай дабаўлялі спецыі (перац, гваздзіка, карыца, мускатны арэх, лаўровы ліст і іншыя), часам піва ці спірт.
**Збройнік**, -а, *м.* (*уст.*). Спецыяліст па вырабе зброі.
**Зверыяда**, -ы, *ж.* 1. Жаргонная назва тайнай традыцыйнай развітальнай пагулянкі выпускнікоў кадэцкіх карпусоў і ваенных вучылішчаў з выпіўкай і закускай. 2. Калектыўны вершаваны твор або песня, падрыхтаваныя для такой вечарынкі, дзе ў сатырычнай форме характарызуецца кожны выпускнік.
**Зверыядавец**, -даўца, *м.* Выпускнік кадэцкага корпуса, удзельнік развітальнай вечарынкі (**зверыяды**).
**Зборня**, -і, *ж.* Памяшканне, дзе адбываліся сходы грамады.
**Званне**, -я, *н.* У царскай Расіі: саслоўная прыналежнасць, саслоўны стан.
**Здольнік**, -а, *м.* Селянін, які арандаваў зямлю на правах **здольшчыны**.
**Здольшчына**, -ы, *ж.* Разнавіднасць арэнды зямлі, за якую плата бралася часткай (доляй) ураджаю.
**Землеапісанне**, -я, *н.* (*уст.*). Геаграфія.



**Землепраходзец**, -дца, *м.* (*уст.*). Падарожнік-даследчык, які адкрываў невядомыя для яго часу землі.
**Земскі**, -ая, -ае. 1. *гл.* **земства**. 2. Агульнадзяржаўны.
**Земства**, -а, *н.* У царскай Расіі: мясцовае самакіраванне ў сельскіх мясцовасцях з перавагай **дваранства** ў яго органах.
**Земшчына**, -ы, *ж.* Частка Рускай дзяржавы, выдзеленая Іванам Грозным у кіраванне баярам (у адрозненне ад **апрычніны**).
**Зіпун**, -а, *м.* Старадаўняе: верхняе сялянскае адзенне з даматканага сукна ў выглядзе **кафтана**.
**Зламысны**, -ая, -ае (*уст.*). Які заключае у сабе злы намер; злачынны.
**Злітава́цца** (*уст.*). Спаяцца.
**Злотнік**, -а, *м.* (*уст.*). Тое, што і **залатар**.
**Злоты**, -ага, *м.* Манета вартасцю 15 капеек.
**Злоязычнік**, -а, *м.* (*уст.*). Пра чалавека, здольнага да злых нагавораў, рэзка адмоўнай ацэнкі каго-, чаго-н.
**Злоязычніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **злоязычнік**.
**Злоязычны**, -ая, -ае (*уст.*). Схільны да злых нагавораў, рэзка адмоўнай ацэнкі каго-, чаго-н.
**Злуч**, -а, *м.* (*уст*). Злучнік.
**Знатны**, -ая, -ае. Які належыць да **знаці**[2].
**Знаць**[1], *інф. у знач. вык.* (*уст.*). Відаць, можна заўважыць.
**Знаць**[2], -і, *ж.* Вышэйшы слой прывілеяванага класа ў буржуазна-дваранскім грамадстве.
**Золатапагоннік**, -а, *м.* (*пагард.*). Афіцэр царскай арміі.
**Зрэбнікі**, -аў, *толькі мн.* Старадаўняе: штаны са зрэбнага палатна.
**Зубалячэбніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Лячэбніца па зубных хваробах.
**Зыск**, -у, *м.* (*уст.*). Прыбытак.
**Зямля**, -і, *ж.* (*уст.*). Назва літары 'з'.
**Зяніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Зрэнка, вока.
**Зярцала**, -а, *н.* 1. Увянчаная двухгаловым арлом трохгранная прызма з наклеенымі па баках указамі Пятра I, якая як эмблема "законнасці" ставілася на стол у судзе і іншых установах царскай Расіі. 2. *толькі мн.* (**зярцалы**, -аў). Металічныя даспехі з дзвюх палавінак для засцярогі грудзей і спіны, якія прымяняліся ў XIV-XVII ст. 3. Люстэрка (*уст.*).

## І

**Іератычны**, -ая, -ае (*уст.*). Свяшчэнны, жрэцкі.
**Ізагра́ф**, -а, *м.* (*уст. кніжн.*). Мастак-іканапісец.
**Ізгой**, -я, *м.* У старажытнай Русі: чалавек, які страціў сувязь са сваёй сацыяльнай групай, напрыклад: прыгонны селянін, які выкупіўся на волю, купец, які збанкрутаваў.
**Ілюзіён**, -а, *м.* (*уст.*). Кінатэатр.
**Імасць**, -і, *ж.* Форма ветлівага звароту да таго, каго лічаць вышэйшым па званні, становішчы ў грамадстве і пад.
**Імбрычак**, -чка, *м.* (*уст.*). Чайнік для заваркі чаю.

**Імбрычкавы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **імбрычка**.
**Імперыял**, -а, *м*. Залатая манета з 1775 г. вартасцю дзесяць рублёў, а пасля 1887 г. да 1917 г. – пятнаццаць рублёў у Расійскай імперыі.
**Інвестытура**, -ы, *ж*. Акт перадачы зямельнага ўладання **феадалу**.
**Інжынерыя**, -і, *ж*. (*уст.*). *зб*. Інжынерства.
**Інквізітар**, -а, *м*. Суддзя **інквізіцыі**.
**Інквізіцыя**, -і, *ж*. У XIII– XIX ст.: следчы і карны орган каталіцкай царквы, які дзейнічаў надзвычай жорсткімі метадамі ў барацьбе з ерэтыкамі.
**Інкі**, -аў, *мн*. Старажытны народ высокай культуры, які жыў на тэрыторыі Перу.
**Інкуна́була**, -ы, *ж*.; **інкуна́булы**, -бул, *мн*. Кніга, надрукаваная ў пачатковую пару кнігадрукавання – да 1501 г. (па афармленні падобная на рукапісную).
**Інстытут**, -а, *м*. У царскай Расіі: сярэдняя навучальная ўстанова закрытага тыпу для жанчын шляхецкага паходжання.
**Інстытутка**, -і, *ж*. У царскай Расіі: выхаванка жаночага **інстытута**.
**Інсурге́нт**, -а, *м*. (*уст.*). Удзельнік узброенага паўстання супраць урада; паўстанец.
**Інсурге́нцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **інсурге́нта**.
**Інфантэрыя**, -і, *ж*. (*уст.*). Пяхота, пяхотнае войска.
**Інфлюэнца**, -ы, *ж*. (*уст.*). Грып.
**Іншаверац**, -рца, *м*. (*уст.*). Чалавек іншай, не пануючай веры або рэлігіі.
**Іншавер'е**, -я, *н*. (*уст.*). Іншая ў параўнанні з чыёй-н. вера, рэлігія; прыналежнасць да іншага веравызнання; не пануючае веравызнанне.
**Іншаверка**, -і, *ж*. (*уст.*). *Жан*. да **іншаверац**.
**Іншаверны**, -ая, -ае (*уст.*). Які прытрымліваецца іншага веравызнання.
**Іншаверскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **іншаверцаў**, належыць ім.
**Іншародзец**, -дца, *м*. У царскай Расіі: афіцыйная назва прадстаўніка нярускай народнасці, звычайна ўраджэнца ўсходняй ускраіны.

## К

**Кабала́**, -ы, *ж*. У старажытнай і сярэдневяковай Русі: даўгавое абавязацельства, якое ставіла пазычальніка ў асабістую маёмасную залежнасць ад пазыкадаўцы, а таксама сама гэта залежнасць.
**Кабалістыка**, -і, *ж*. Сярэдневяковае містычна-рэлігійнае вучэнне яўрэяў, а таксама звязаныя з ім магічныя абрады.
**Кабальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кабалы**.
**Ка́бат**, -а, *м*. Старадаўняе: род жаночай цёплай камізэлькі; безрукаўка.
**Кабінет**, -а, *м*. У Расіі XVIII – пач. XIX ст.: назва некаторых урадавых установ (асабістая канцылярыя **цара**, кіраўніцтва гаспадарчымі і фінансавымі справамі царскага двара).



**Кабрыялет**, -а, *м*. Лёгкі аднаконны двухколавы **экіпаж** без козлаў з адным сядзеннем.
**Кабыла**, -ы, *ж*. Старадаўняе: лаўка, да якой прывязвалі пры пакаранні розгамі ці бізуном.
**Кавалергард**, -а, *м*. У рускай царскай арміі: салдат або афіцэр асобага палка гвардзейскай цяжкай кавалерыі.
**Кавалергардскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кавалергарда**, кавалергардаў, належыць ім.
**Кавалерыст**, -а, *м*. Ваеннаслужачы **кавалерыі**.
**Кавалерыя**, -і, *ж*. Конніца, коннае войска.
**Кагал**, -у, *м*. Яўрэйскае абшчыннае самакіраванне і сама абшчына ў Польшчы XVI-XVIII ст.
**Кагорта**, -ы, *ж*. Атрад войск у старажытным Рыме, дзесятая частка **легіёна**.
**Кадэт**[1], -а, *м*. У царскай Расіі: выхаванец сярэдняй ваеннанавучальнай установы (кадэцкага корпуса).
**Кадэт**[2], -а, *м*. Член канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі ў царскай Расіі.
**Кадэцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кадэта**[1,2].
**Кажамяка**, -і, *м*. Майстар, які вырабляе сырамятныя скуры.
**Кажамяцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кажамякі**, кажамякаў.
**Каза**, -ы, *ж*. 1. Заплечныя насілкі для пераносу цэглы на будоўлі. 2. Беларускі калядны абрад (*уст.*).
**Казак**, -а, *м*. На Украіне і ў Расіі да пачатку XX ст.: член ваенназемляробчай абшчыны пасяленцаў на ўскраінах дзяржавы, якія актыўна ўдзельнічалі ў абароне дзяржаўных межаў. 2. Селянін, нашчадак гэтых пасяленцаў (на Доне, на Кубані і ў некаторых іншых мясцовасцях), а таксама радавы вайсковай (звычайна кавалерыйскай) часці з гэтых сялян.
**Казакін**, -а, *м*. Старадаўняе: мужчынскае верхняе адзенне на апліках, са зборкамі ззаду.
**Казакінны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **казакіна**.
**Казальніца**, -ы, *ж*. (*уст.*). Амбон.
**Казарма**, -ы, *ж*. У царскай Расіі: інтэрнат для рабочых.
**Казаціна**, -ы, *ж*. (*уст.*). Тое, што і **казакін**.
**Казачок**, -чка, *м*. 1. *гл*. **казак**. 2. У рускіх дваран, памешчыкаў – хлопчык-слуга.
**Каземат**, -а, *м*. 1. Абарончае збудаванне для ўкрыцця ад бомб і снарадаў праціўніка, захоўвання боепрыпасаў і пад., раней – браніраванае памяшканне на караблях (*спец.*). 2. У царскай Расіі: адзіночная камера ў крэпасці для трымання палітычных зняволеных.
**Казематны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **каземата**.
**Казёнка**, -і, *ж*. 1. У царскай Расіі: казённы вінны магазін. 2. Гарэлка, якую прадавалі ў такіх магазінах (*разм.*).
**Казённакоштны**, -ая, -ае (*уст.*). Якога вучылі і трымалі на сродкі **казны**, за казённы кошт.

**Казённы**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да **казны**, належыць ёй; дзяржаўны. 2. Які выдаецца з **казны**, за кошт **казны**, дзяржавы. 3. Той, хто знаходзіўся на дзяржаўнай службе.

**Казіне́т**, -у, *м.* Старадаўняе: від тоўстай баваўнянай або паўшарсцяной тканіны для верхняга адзення.

**Казінетавы**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **казінету**. 2. Зроблены, пашыты з **казінету**.

**Казна**, -ы, *ж.* У гістарычным мінулым сховішча грошай і каштоўнасцей цароў, князёў, манастыроў і інш., а таксама самі гэтыя каштоўнасці (маёмасць).

**Казначэйства**, -а, *н.* У Расійскай імперыі: урадавы фінансавы орган, які адказваў за захаванне, прыём і выдачу дзяржаўных сродкаў.

**Кайданнік**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Арыштант, закаваны ў **кайданы**.

**Кайданы́**, -оў і **Кайда́ны**, -аў, *толькі мн.* У царскай Расіі і многіх іншых краінах: злучаныя ланцугом жалезныя кольцы, якія надзяваюцца на рукі і ногі тым, хто абвінавачваецца ў цяжкіх злачынствах.

**Какошнік**, -а, *м.* Рускі жаночы галаўны ўбор у выглядзе ўпрыгожанага шчытка над ілбом.

**Каланат**, -у, *м.* Форма прыгоннай залежнасці сельскага насельніцтва, якая з`явілася асновай феадальных адносін у Рымскай імперыі і ў раннім сярэдневякоўі.

**Калегаваць** (*уст.*). Сябраваць з кім-н.

**Калегія**, -і, *ж.* 1. Назва цэнтральных урадавых устаноў у Расіі ў XVIII ст. 2. Назва некаторых навучальных устаноў (*уст.*).

**Калежскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **калегіі** (у 1 знач.). 2. Як састаўная частка назваў некаторых грамадзянскіх чыноў у царскай Расіі.

**Калектывізаваць** (*савет.*). Правесці (праводзіць) **калектывізацыю**.

**Калектывізацыя**, -і, *ж.* (*савет.*). Аб'яднанне аднаасобных гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі.

**Калесаваць**. Пакараць (караць) пакутлівай смерцю на спецыяльным коле.

**Калет**, -а, *м.* 1. Кароткі вайсковы мундзір з белага сукна ў царскай рускай арміі і ў некаторых заходнееўрапейскіх арміях. 2. Род шырокага адкладнога каўнера ў сярэдневяковай вопратцы.

**Калёсы**, -лёс, *толькі мн.* (*уст.*). Конная чатырохколавая гаспадарчая павозка.

**Каліка**, -і, *м.* Старац (часам сляпы), які збірае міласціну, спяваючы духоўныя вершы.

**Каліта**, -ы, *ж.* 1. Сумка для грошай; вялікі кашалёк. 2. Грошы, багацце (*уст.*).

**Калодкі**, -дак, *толькі мн.* Старадаўняе: масіўныя драўляныя **кайданы**, якія надзявалі на ногі, рукі і шыю арыштанта для папярэджання ўцёкаў.

**Калоднік**, -а, *м.* Арыштант у **калодках**.



**Калон**, -а, *м.* У старажытным Рыме: арандатар невялікага ўчастка зямлі ў буйнога землеўладальніка.

**Калонаважаты**, -ага, *м.* Малодшы чын у рускай арміі XVIII-XIX ст., афіцэр, які вядзе калону войска.

**Калымага**, -і, *ж.* Карэта з высока размешчаным кузавам.

**Калчан**, -а, *м.* Сумка для стрэл.

**Калчанны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **калчана**.

**Кальчуга**, -і, *ж.* Ахоўнае адзенне з металічных кольцаў у старажытных воінаў.

**Кальчужнік**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Воін у **кальчузе**. 2. Майстар, які вырабляў **кальчугі**.

**Кальчужны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кальчугі**.

**Каляска**, -і, *ж.* Чатырохколавы **экіпаж** на рысорах з адкідным верхам.

**Калясніца**, -ы, *ж.* У старажытных грэкаў, рымлян: двухколая павозка, якой карысталіся ў час трыумфальных шэсцяў, спаборніцтваў, баёў.

**Камандор**, -а, *м.* 1. Вышэйшае званне ў рыцарскім ордэне, а таксама асоба, якая мела такое званне. 2. Начальнік атрада суднаў без адміральскага чыну (*уст.*).

**Камандорскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **камандора**, належыць яму.

**Камаш**, -а, *м.*; **камашы**, -аў, *мн.* (*уст. разм.*). Мужчынскі чаравік, туфель (першапачаткова чаравік з гумавымі ўстаўкамі па баках, без шнуркоў).

**Камбе́давец**, -даўца, *м.* (*савет.*). Член камітэта беднаты.

**Камбе́д**, -а, *м.*; **камбе́ды**, -аў, *мн.* (*савет.*). Скарачэнне: арганізацыя вясковай беднаты, якая існавала з сярэдзіны і да канца 1918 г. (на Беларусі – да 1919 г.) і з`яўлялася галоўнай апорай дыктатуры пралетарыяту на вёсцы.

**Камвуз**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: камуністычная вышэйшая навучальная ўстанова ў 1920-1930 гг.

**Камедыянт**, -а, *м.* (*уст.*). Акцёр.

**Камедыянтка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **камедыянт**.

**Камедыянцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **камедыянта**, камедыянтаў, уласцівы ім.

**Камедыянцтва**, -а, *н.* (*уст.*). Прытворства, крыўлянне.

**Камендант**, -а, *м.* Начальнік войск крэпасці або ўмацаванага раёна.

**Камень**, -я, *м.* Старадаўняе: мера масы, роўная 14,993 кг.

**Камердынер**, -а, *м.* У буржуазна-дваранскім побыце: пакаёвы слуга, **лакей**.

**Камердынерскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **камердынера**.

**Камер-калегія**, -і, *ж.* Заснаваная пры Пятры I установа, якая ведала рознымі грашовымі зборамі.

**Камер-лакей**, -я, *м.* Старшы прыдворны лакей.

**Камерыстка**, -і, *м.* У буржуазна-дваранскім побыце: служанка пры **пані**.

**Камзол**, -а, *м.* Старадаўняе: мужчынская верхняя вопратка, звычайна без рукавоў.

**Камзольны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **камзола**.

**Камора**, -ы, *ж.* 1. Гаспадарчая пабудова або памяшканне для захоўвання збожжа, прадуктаў харчавання; сховішча найбольш каштоўнай маёмасці. 2. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай у канцы XV – XVIII ст.: мытня, дом, дзе ацэньваўся тавар, які правозілі купцы і інш. гандляры, і спаганялася **мыта**. 3. У XIX – пачатку XX ст.: кантора пры лясніцтве.

**Каморнік**, -а, *м.* 1. У Польшчы ў XII–XIII ст.: слуга або дваранін пры дварах князёў, каралёў. Кіраваў хатняй маёмасцю, прадстаўляў інтарэсы і замяшчаў гаспадара пры выкананні малазначных спраў. 2. У ВКЛ у XVI–XVII ст.: геадэзіст-землеўпарадчык, член падкаморскага суда. 3. У бытавым ужытку ў XIX – пачатку XX ст. – землямер.

**Каморніцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **каморніка**.

**Каморніцтва**, -а, *н.* (*уст.*) Занятак **каморніка**, каморніцкая справа.

**Камсамол**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: Усесаюзны Камуністычны Саюз Моладзі – грамадская арганізацыя моладзі ў СССР (1918-1991 гг.).

**Камсамольскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **камсамола**, **камсамольца**.

**Камсамолец**, -льца, *м.* (*савет.*). Член **камсамола**.

**Камсамолка**, -і, *ж.* (*савет.*). *Жан.* да **камсамолец**.

**Камсорг**, -а, *м.* (*савет.*). Камсамольскі арганізатар – выбарны кіраўнік пярвічнай камсамольскай арганізацыі.

**Канавал**, -а, *м.* Знахар, які лечыць коней.

**Канавод**, -а, *м.* Чалавек, які наглядае за коньмі, калі коннікі спешваюцца.

**Кананір**, -а, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: радавы артылерыі.

**Кананірскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кананіра**.

**Кандацьер**, -а, *м.* Начальнік наёмнай дружыны ў сярэдневяковай Італіі.

**Кандуіт**, -а, *м.* У царскай Расіі: журнал, у які заносіліся звесткі пра паводзіны вучняў або ваеннаслужачых (пераважна ў духоўных навучальных установах і кадэцкіх корпусах).

**Кандуітны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кандуіта**.

**Кандыцыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Умова дагавору, пагадненне.

**Кан'ектура**, -ы, *ж.* (*уст.*). Меркаванне, здагадка.

**Канта́та**, -ы, *ж.* (*уст.*). Урачысты лірычны верш; ода.

**Канторшчык**, -а, *м.* (*уст.*). Работнік канторы.

**Кантрада́нс**, -а, *м.* Старадаўняе: танец (род кадрылі), які выконваецца чатырма, шасцю або васьмю парамі, а таксама музыка да гэтага танца.

**Канты́чка**, -і, *ж.* Зборнік каталіцкіх царкоўных песень і кантаў.

**Канфідэнт**, -а, *м.* (*уст.*). Тайны агент, агент разведкі.

**Канфірма́цыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Прысуд, зацверджаны вышэйшай уладай.



**Канцлер**, -а, *м.* (*гіст.*). Начальнік канцылярыі вялікага **князя** ВКЛ, хавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі.

**Канцылярыст**, -а, *м.* (*уст.*). Служачы канцылярыі.

**Капа́**[1], -ы, *ж.* Старадаўняе: адзінка лічэння – шэсцьдзесят штук чаго-н.

**Капа́**[2], -ы, *ж.* На Беларусі і Украіне ў часы феадалізму: сход сялян, які разглядаў судовыя справы і зямельныя спрэчкі.

**Кап'ё**, -я, *н.* Колючая або кідальная зброя ў форме доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам.

**Капііст**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які здымае копіі з дакументаў, рукапісаў.

**Капітул**, -а, *м.* У царскай Расіі: установа, якая займалася ўзнагароджваннем ордэнамі.

**Капот**, -а, *м.* Старадаўняе: жаночае хатняе плацце свабоднага пакрою з рукавамі і разрэзамі спераду; род халата.

**Капрал**, -а, *м.* Воінскае званне малодшага камандзіра ў арміях некаторых краін і ў рускай арміі з XVII да першай паловы XIX ст., а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Капральскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **капрала**, належыць яму.

**Каптэрна́мус**, -а, *м.* Службовая асоба ў арміі, у абавязкі якой уваходзіла захаванне і выдача маёмасці, абмундзіравання, харчу.

**Кап'яносец**, -носца, *м.* У старажытнасці: воін, узброены **кап'ём**; кап'ёўшчык.

**Карабейнік**, -а, *м.* Дробны гандляр, які разносіў па вёсках тавары (мануфактуру, галантарэю, кнігі, дробныя рэчы асабістага ўжытку і інш.).

**Карабельшчык**, -а, *м.* (*уст.*). 1. Уладальнік карабля. 2. Той, хто плавае на караблі.

**Карабінер**, -а, *м.* Узброены карабінам салдат асобай вайсковай часці адборных стралкоў у арміях краін Заходняй Еўропы і Расіі да сярэдзіны XIX ст.

**Карабінерны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **карабінераў**, складаецца з **карабінераў**.

**Каравела**, -ы, *ж.* Чатырох- або трохмачтавае судна ў краінах Міжземнамор`я.

**Каралевіч**, -а, *м.* (*уст. і нар.-паэт.*). Сын **караля**.

**Каралеўна**, -ы, *ж.* (*уст. і нар.-паэт.*). Дачка **караля**.

**Караняслоў**, -лова, *м.* (*уст.*). Слоўнік карэнных слоў і вытворных ад іх; этымалагічны слоўнік.

**Карбава́ць** (*уст.*). Рабіць на чым-н. зарубкі, ставіць меткі; значыць.

**Карбанарый**, -я, *м.* Член тайнага таварыства, заснаванага ў Італіі ў пачатку XIX ст. для барацьбы супраць чужаземнага прыгнёту, за ўз'яднанне Італіі.

**Карбункул**, -у, *м.* (*уст.*). Каштоўны камень чырвонага колеру; чырвоны гранат.

**Карвет**, -а, *м.* Трохмачтавае ваеннае судна ў парусным флоце XVIII-XIX ст.

**Карнет**, -а, *м.* У царскай арміі: афіцэрскі чын у кавалерыі, роўны

**падпаручніку** пяхоты, а таксама афіцэр, які меў гэты чын.

**Каронны**, -ая, -ае (*уст.*). У манархічных краінах: дзяржаўны, урадавы.

**Карса́ж**, -а, *м.* Старадаўняе: частка жаночага адзення, якая аблягае грудзі, спіну, бакі.

**Карса́р**, -а, *м.* Марскі разбойнік, пірат (прыблізна з XIV ст.).

**Картуз**, -а, *м.* На Беларусі ў XIX – XX ст.: мужчынскі летні галаўны ўбор з аколышкам і цвёрдым казырком.

**Картуна**, -ы, *ж.* (*уст.*). Баваўняная тканіна.

**Картэль**, -я, *м.* Пісьмо з выклікам на дуэль.

**Карчага**, -і, *ж.* На Беларусі ў X – пачатку XX ст.: вялікая гліняная пасудзіна для захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў.

**Карчма**, -ы, *ж.* Заезны дом з начлегам у Беларусі, на Украіне, у Польшчы да пачатку XX ст.

**Карчмар**, -а, *м.* Гаспадар **карчмы.**

**Карчмарка**, -і, *ж.* *Жан.* да **карчмар**.

**Карчмарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **карчмара**.

**Карэ**, *нескл.*, *н.* Пастраенне пяхоты ў форме чатырохвугольніка, якое прымянялася ў еўрапейскіх арміях са старажытнасці да другой паловы XIX ст. для адбіцця атак кавалерыі.

**Карэспандаваць** (*уст.*). 1. Быць ў перапісцы, перапісвацца. 2. Быць карэспандэнтам; накіроўваць карэспандэнцыю ў газету, часопіс і інш.

**Карэта**, -ы, *ж.* Чатырохколавы закрыты конны **экіпаж** на рысорах у XVII – пачатку XX ст. пры дварах буйных магнатаў Еўропы і Расіі.

**Карэтнік**, -а, *м.* Майстар, які рабіў карэты, экіпажы.

**Карэ́ц, карца́**, *м.* 1. Беларуская старажытная мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасцей, якая раўнялася 102 л. 2. Пасудзіна, вялікая конаўка з ручкай.

**Кастапраў**, -права, *м.* Лекар, які ўмеў ставіць на месца вывіхнутыя суставы або правільна скласці пераломы.

**Катакомба**, -ы, *ж.*; **катакомбы**, -аў, *мн.* У старажытным Рыме і іншых гарадах Рымскай імперыі: падзямелле ў выглядзе доўгіх і вузкіх калідораў, якое служыла для першых хрысціян сховішчам, месцам набажэнства і пахавання.

**Каталажка**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). Турма, месца зняволення.

**Катапульта**, -ы, *ж.* Ваенная машына для кідання на вялікую адлегласць (250- 850 м) камення, ядраў, запальных снарадаў і інш., якая выкарыстоўвалася пры аблозе крэпасцей і ў палявым баі з V ст. да н.э. (Старажытная Грэцыя і Рым, затым Візантыя і інш.) да XV ст. (Еўропа).

**Катарга**, -і, *ж.* 1. Від пакарання асуджаных, які заключаецца ў зняволенні і цяжкіх прымусовых работах, а таксама месца прымусовых работ для ссыльныхзлачынцаў. 2. Вясельнае судна, род галеры, на якім грабцамі былі асуджаныя.

**Катаржанін**, -а, *м.* Чалавек, які адбывае **катаргу** або быў на **катарзе** (часцей пра асоб, асуджаных за палітычную дзейнасць).

**Катаржанка**, -і, *ж.* *Жан.* да **катаржанін**.

**Катаржнік**, -а, *м.* Тое, што і **катаржанін**.

**Катаржніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **катаржнік**.

**Катаржны**, -ая, -ае: *у знач. наз.* **катаржны**, -ага, *м.*; **катаржная**, -ай, *ж.* (*уст.*). Тое, што і **катаржанін, катаржанка**.

**Катыльён**, -а, *м.* Старадаўняе: бальны танец (род кадрылі), фігуры якога чаргуюцца з элементамі вальса, мазуркі, полькі, а таксама музыка да гэтага танца.

**Катэр**, -а, *м.* Старадаўняе: парусное аднамачтавае судна.

**Кафейня**, -і, *ж.* (*уст.*). Кафэ.

**Кафтан**, -а, *м.* 1. Мужчынскае верхняе адзенне магнатаў і гарадской знаці ў XVI–XVII ст. Прыйшоў з Персіі і Турцыі ў Рэч Паспалітую, адтуль трапіў у Расію. 2. Мужчынская і жаночая вопратка менш заможных слаёў насельніцтва.

**Кашавар**, -а, *м.* (*уст.*). Повар у воінскай часці або ў рабочай арцелі.

**Каша́ра**, -ы, *ж.* (*уст.*). Казарма.

**Кашталя́н**, -а, *м.* У ВКЛ: камендант замка, памочнік **ваяводы**, галоўная службовая ў кашталяніі – цэнтральным **павеце ваяводства**.

**Каюк**, -а, *м.* Старадаўняе: рачное вёслава-паруснае грузавое судна.

**Квадрант**, -а, *м.* Вугламерны астранамічны прыбор, які служыў для вызначэння вышыні нябесных цел.

**Квадрыга**, -і, *ж.* Двухколавая антычная **калясніца**, запрэжаная чацвёркай у адзін рад.

**Ква́рта**, -ы, *ж.* 1. Адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасцей у сістэме мер ВКЛ, роўная чацвёртай частцы **гарца** (0,7057 л). 2. Металічная пасудзіна з ручкай для піцця такой ёмістасці.

**Кватэрма́йстар**, -тра, *м.* 1. У XVI-XX ст. службовая асоба (афіцэр, генерал) у органах кіравання войскамі многіх еўрапейскіх краін, у тым ліку Расіі (з пачатку XVIII ст.), якая напачатку (XVI ст.) займалася размяшчэннем войск лагерам ці па кватэрах, а пазней (XVII–XX ст.) пераважна аператыўнымі пытаннямі. 2. Начальнік тылавой гаспадаркі палка ў рускай арміі, войсках ВКЛ і Польшчы. 3. Начальнік службаў харчовага і рэчавага забеспячэння ў палку Чырвонай Арміі (да 1928 г., называўся кватармістр). 4. Пасада **унтэр-афіцэра** карабельнай службы ВМФ Расіі (да 1917 г.).

**Кватэра**, -ы, *ж.* Лясніцтва, памяшканне, дзе жыў ляснічы.

**Керагаз**, -а, *м.* Награвальны газавы прыбор, род бясшумнага прымуса.

**Кесар**, -а, *м.* Візантыйская, стараславянская і агульнаўсходнеславянская назва рымскага імя і імператарскага тытула Цэзар праз грэч. kaisar – манарх, уладар.

**Кесараў**, -ава (*уст. кніжн.*). Які належыць **кесару**.

**Кібітка**, -і, *ж.* Крыты дарожны воз.

**Ківер**, -а, *м.* Цвёрды высокі галаўны ўбор цыліндрычнай або конусападобнай формы, які насілі ў еўрапейскіх арміях у XVIII- XIX ст.

**Кімвал**, -а, *м.* Старадаўняе: ударны музычны інструмент, які складаецца з дзвюх медных талерак.

**Кімвальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **кімвала**.

**Кіраса**, -ы, *ж.* Латы, металічны панцыр на спіну і грудзі.

**Кірасір**, -а, *м.* У заходнееўрапейскіх і рускай арміях (да пачатку XX ст.): салдат або афіцэр цяжкай кавалерыі, якія насілі **кірасу** ў парадынай форме.

**Кірыліца**, -ы, *ж.*, *толькі адз.* *(філал.)*. Адна з дзвюх старaславянскіх азбук (*параўн.* **глаголіца**), якая была ўзята за аснову царк.-слав. і беларускага алфавіта. [Ад імя славянскага асветніка Кірылы Філосафа].

**Кісліна**, -ы, *ж.* (*уст.*). Кіслата.

**Кісцень**, -ценя, *м.* Зброя ў выглядзе кароткага кія, на адным канцы якога падвешваўся металічны шар ці іншы цяжар для нанясення ўдараў, а на другім была пятля для надзявання на руку.

**Клавесін**, -а, *м.* Старадаўняе: клавішна-струнны шчыпковы музычны інструмент, папярэднік фартэпіяна.

**Клавесінны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **клавесіна**.

**Клавікорды**, -аў, *толькі мн.* Старадаўняе: клавішна-струнны ўдарны музычны інструмент.

**Кла́ксан**, -а, *м.* (*уст.*). Назва прыстасавання для падачы гукавога сігналу ў аўтамабілі, а таксама сам сігнал.

**Клас**, -а, *м.* У царскай Расіі: адно з падраздзяленняў у табелі аб рангах, якое адпавядала пэўнаму чыну.

**Класік**, -а, *м.* У царскай Расіі: той, хто закончыў класічную гімназію.

**Ключар**, -а, *м.* Той, хто захоўвае ключы ад чаго-н.

**Ключнік**, -а, *м.* 1. У ВКЛ: асоба, якая выконвала функцыі галоўнага вартаўніка горада, замыкала на ноч вароты замка і захоўвала ключы. 2. Слуга ў панскім маёнтку, у распараджэнні якога знаходзіліся прадукты харчавання і ключы ад месц іх захоўвання.

**Ключніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **ключнік**.

**Кляйноты, кляйнот**, *толькі мн.* (*уст.*). Каштоўнасці.

**Кляўза**, -ы, *ж.* (*уст.*). Прыдзірлівы дробны судовы іск.

**Кмет (кмець)** -а, *м.* Воін, віцязь, дружыннік у старажытнай Русі.

**Кнігавыдавец**, -даўца, *м.* (*уст.*). Уласнік выдавецтва.

**Кніжнік**, -а, *м.* Перапісчык або друкар; выдавец кніг.

**Кніжніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **кніжнік**.

**Кніксен**, -а, *м.* (*уст.*). Рэверанс.

**Княгіня**, -і, *ж.* Жонка **князя**.

**Княжацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **князя**.

**Княжна**, -ы, *ж.* Тое, што і **князёўна**.

**Княжыць**. Правіць **княствам**.

**Князёўна**, -ы, *ж.* Незамужняя дачка **князя**.

**Князь**, -я, *м.* Прадстаўнік вышэйшай арыстакратыі ў славян



і некаторых іншых народаў, уладар **княства**.

**Княства**, -а, *н.* Дзяржаўнае ўтварэнне з пэўным узроўнем суверэнітэту ці аўтаноміі, якое кіравалася **князем**; феадальнае ўладанне **князя.**

**Кобза**, -ы, *ж.* Украінскі шчыпковы струнна-музычны інструмент.

**Кодэкс**, -а, *м.* Рукапіс у пераплёце.

**Козлы**, -аў, *толькі мн.* Сядзенне для **фурмана** ў передку **экіпажа**.

**Комік**, -а, *м.* (*уст.*). Аўтар камедыі.

**Конка**, -і, *ж.* Да ўвядзення трамвайнага руху: гарадская рэйкавая дарога, па якой хадзілі вагоны на коннай цязе, а таксама вагон такой дарогі.

**Коначны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **конкі**.

**Коннагвардзеец**, -дзейца, *м.* 1. Той, хто служыць у гвардзейскай **кавалерыі**. 2. У царскай арміі: ваеннаслужачы лейб-гвардыі коннага палка.

**Коннік**, -а, *м.* Конны воін, **кавалерыст**.

**Конніца**, -ы, *ж.* Коннае войска, **кавалерыя**.

**Консул**, -а, *м.* У старажытным Рыме: тытул кожнай з дзвюх выбраных вышэйшых службовых асоб, а таксама асоба, якая мела гэты тытул.

**Корд**, -а, *м.* Кароткі меч.

**Корпус**, -а, *м.* У царскай Расіі: сярэдняя ваенна-навучальная ўстанова.

**Корх**, -а, *м.* Старадаўняе: мера даўжыні на шырыню далоні.

**Кошка**, -і, *ж.* Старадаўняе: раменны бізун з некалькімі хвастамі.

**Крамола**, -ы, *ж.* (*уст.*). Дзяржаўная змова, мяцеж, бунт.

**Крамольнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто займаецца **крамолай**; змоўшчык, мяцежнік.

**Крамольніцкі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **крамольніка**, уласцівы яму.

**Крамольны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **крамолы**, звязаны з ёй; мяцежны.

**Краўчы**, -ага, *м.* Пасада і прыдворны чын у Рускай дзяржаве XV – пачатку XVIII ст.: баярын, які ведаў царскім сталом.

**Краявы**, -ая, -ое (*уст.*). Краязнаўчы.

**Кроза**, -ы, *ж.* (*уст.*). Летуценне, мара.

**Кроніка**, -і, *ж.* (*уст.*). Хроніка.

**Кругавід**, -у, *м.* (*уст.*). Гарызонт.

**Кручок**, -чка, *м.* Старадаўняе: мера гарэлкі, роўная 175 г.

**Крывіцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **крывічоў**, **крывіча**.

**Крывічы**, -оў, *мн.*; *адз.* **крывіч**, -а, *м.*, **крывічанка**, -і, *ж.* (*гіст.*). Усходнеславянскае племянное аб'яднанне VI-X ст., якое займала тэрыторыю ў вярхоўях Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі.

**Крыжак**, -а, *м.* (*разм.*). Тое, што і **крыжаносец**.

**Крыжаносец**, -носца, *м.* Удзельнік крыжовага паходу. *(Крыжовыя паходы – захопніцкія паходы заходнееўрапейскіх рыцараў у XI–XIII ст. на Блізкі Усход).*

**Крэ́йцэр**, -а, *м.* Аўстрыйская і нямецкая дробная манета, якая была ў абароце да канца XIX ст.

**Крэменязём**, -у, *м.* (*уст.*). Двухвокіс крэмнію, распаўсюджаны ў прыродзе ў выглядзе крэменю, кварцу, горнага крышталю, аметысту.

**Крэпасць**, -і, *ж.* Дакумент аб куплі і продажы нерухомай маёмасці ў царскай Расіі.

**Кулак**, -а, *м.* (*савет.*). Багаты селянін-уласнік.

**Куль**, -я, *м.* Старадаўняе: гандлёвая мера сыпкіх рэчываў, роўная 144,78 кг.

**Культпроп**, -а, *м.* (*савет.*). 1. Скарочаная назва аддзела культуры і прапаганды пры партыйных і савецкіх органах (у СССР у 1920-30 гг). 2. Той, хто загадвае культурнай і прапагандысцкай работай у якой-н. арганізацыі, установе (*уст. і разм.*).

**Куля**, -і, *ж.* (*уст.*). Зямны шар.

**Куніца**, -ы, *ж.* 1. Апрацаваная шкурка куніцы, якая ў ВКЛ да XVI ст. выкарыстоўвалася як сродак плацяжу; агульная назва грошай. 2. Адзін з пашыраных відаў **аброку** (**чыншу**) у XV-XVII ст., які плацілі **кунічнікі** за ўзятую ў арэнду зямлю, пчальнікі, права карыстання вадаёмамі і інш. 3. Плата нявесткі-сялянкі, якая выходзіла замуж у чужую **воласць**. 4. Малаўжывальная назва **валокі** ў XVI ст.

**Кунічнікі**, -аў, пераважна *мн.* У ВКЛ у XV-XVII ст.: назва людзей, якія бралі ў арэнду ворную зямлю і інш. угоддзі за пэўную плату – **куніцу**.

**Кунту́ш**, -а, *м.* Старадаўняе: мужчынская верхняя вопратка на Беларусі, Украіне і ў Польшчы ў выглядзе **кафтана** з шырокімі доўгімі адкіднымі рукавамі.

**Купец**, -пца, *м.* Багаты гандляр, уладальнік прыватнага гандлёвага прадпрыемства.

**Курсістка**, -і, *ж.* Слухачка вышэйшых жаночых курсаў у царскай Расіі канца XIX і пачатку XX ст.

**Куртызанка**, -і, *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін, якая мела апекуноў у арыстакратычным асяроддзі.

**Курціна**, -ы, *ж.* 1. Града для кветак або іншых раслін; клумба (*уст.*). 2. Частка крапаснога вала паміж двума бастыёнамі.

**Курэнь, кураня**, *м.* У Запарожскай Сечы: вайсковае падраздзяленне з некалькіх соцень казакоў і назва жылога памяшкання, у якім жылі казакі.

**Кутузка**, -і, *ж.* (*уст.*). Турма, арыштанцкая камера.

**Куфар**, -а, *м.* Старадаўняе: драўляная ёмістасць для захоўвання тканін, адзення, бялізны і каштоўнасцей; від мэблі.

## Л

**Лабагрэйка**, -і, *ж.* (*спец.*). Самая простая жняярка з ручным скідваннем зжатай збажыны.

**Лаба́з**, -а, *м.* Памяшканне для гандлю зернем, мукой, а таксама для захоўвання зерня, мукі.

**Лаба́знік**, -а, *м.* Уладальнік **лаба́за** або прадавец тавару ў **лаба́зе**.

**Лабазны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **лабаза**.



**Ла́ва**[1], -ы, *ж.* Старадаўняе: прадмет сялянскай мэблі – доўгая шырокая дошка на ножках для сядзення, звычайна прыстаўленая да сцяны.

**Ла́ва**[2], -ы, *ж.* Баявы парадак конніцы для адначасовай атакі з флангаў і з тылу, а таксама атрад, пастроены для такой атакі.

**Ла́данка**, -і, *ж.* Маленькі мяшочак з ладанам, талісманам, які носяць на грудзях з мэтай засцерагчы сябе ад няшчасця.

**Ладдзя́**, -і, *ж.* Старажытнае рачное і марское судна ўсходніх славян.

**Ладкі**, -дак, *мн.* Удар лінейкай па далоні як від пакарання ў школе ў Расійскай імперыі.

**Ладунка**, -і, *ж.* Род патранташа ў кавалерыстаў, якім карысталіся да першай сусветнай вайны.

**Лаза́**, -ы, *ж.*, *толькі адз.* Дубец як прадмет пакарання; розга.

**Лазарэт**, -а, *м.* Бальніца для бедных.

**Лазарэтны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **лазарэта**, належыць яму.

**Лазутчык**, -а, *м.* (*уст.*). Разведчык (звычайна ў тыле праціўніка).

**Лакамабіль**, -я, *м.* Паравая перасоўная або стацыянарная ўстаноўка, якая прыводзіць у рух розныя машыны; паравік.

**Лакамабільны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **лакамабіля**.

**Лакей**, -я, *м.* У памешчыцкім і буржуазным асяроддзі: дамашні слуга ў багатым доме, у гасцініцы, рэстаране і пад.

**Лакейнічаць** (*неадабр.*). Быць, служыць **лакеем**.

**Лакейскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **лакея**, належыць **лакею**. 2. *у знач. наз.* **лакейская**, -ай, *ж.* Памяшканне, пакой для **лакеяў**.

**Лакейства**, -а, *н.* 1. Служба, занятак **лакея**. 2. *зб.* Лакеі (*разм.*).

**Лал**, -у, *м.* (*уст.*). Каштоўны чырвоны камень шпінель.

**Ла́лавы**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да **лалу**. 2. Упрыгожаны, аздоблены **лалам**.

**Лан**, -а, *м.* Адзінка вымярэння ў ВКЛ, роўная 3 валокам, або 63 га.

**Ландкарта**, -ы, *ж.* (*уст.*). Геаграфічная карта.

**Ландо**, *нескл.*, *н.* Чатырохмесная карэта з адкідным верхам. [Паводле назвы нямецкага горада Ландау (Landau), месца першага вырабу].

**Ландскнехт**, -а, *м.* Нямецкі наёмны салдат у Заходняй Еўропе ў XV–XVII ст.

**Ландскнехцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ландскнехта, ландскнехтаў**.

**Ланіта**, -ы, *ж.*; **ланіты**, -ніт, *мн.* (*уст. і паэт.*). Шчака.

**Ланкастэрскі**, -ая, -ае. Звязаны з дзейнасцю англ. педагога Дж. Ланкастэра (канец XVIII – першая палова XIX ст.), калі старэйшыя вучні кіруюць малодшымі.

**Ланцэт**, -а, *м.* (*уст. мед.*). Хірургічны нож невялікіх памераў, востры з двух бакоў.

**Лапа**, -ы, *ж.* 1. Удар лінейкай па далоні як від пакарання ў школе ў

Расійскай імперыі. 2. Лінейка, якой білі.
**Лапсардак**, -а, *м.* Старадаўняе: доўгі **сурдут** у польскіх і галіцыйскіх яўрэяў.
**Ларнет**, -а, *м.* Род манокля ў аправе.
**Ларнетны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ларнета**.
**Ласіны**, -сін, *толькі мн.* Шчыльна аблягаючыя штаны з ласінай скуры як частка параднай формы некаторых палкоў арміі Расійскай імперыі.
**Латнік**, -а, *м.* Сярэдневяковы воін у **латах**.
**Латны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **латаў**.
**Латы**, -аў і **лат**, *толькі мн.* У старажытнасці: металічныя **даспехі**, браня, якія засцерагалі воіна ад удараў халоднай, а ў сярэднія вякі і ад агнястрэльнай зброі.
**Лаўка**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). Невялікі гандлёвы магазін.
**Лаўнік**, -а, *м.* У ВКЛ: прысяжны засядацель у гарадах, якія атрымлівалі магдэбургскае права, член войтаўска-лаўніцкага суда.
**Лацінскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да старажытнага Рыма, да рымлян. 2. Каталіцкі (*уст.*).
**Лаціняне**, -нян, *мн.*; *адз.* **лацінянін**, -а, *м.*; **лацінянка**, -а, *ж.* 1. Жыхары старажытнай Італійскай вобласці – Лацыума; рымляне. 2. Католікі (*уст.*).
**Лгар**, -а, *м.* (*уст.*). Ілгун.
**Легат**, -а, *м.* У старажытным Рыме: пасол, а таксама намеснік імператара ў правінцыі.
**Легіён**, -а, *м.* Вялікае вайсковае злучэнне ў старажытным Рыме.
**Лейб-...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: які служыць пры манарху, прыдворны, напрыклад: **лейб-гусары, лейб-медык**.
**Лейб-гвардзейскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **лейб-гвардыі**.
**Лейб-гвардыя**, -і, *ж.* Прывілеяванае войска ў шэрагу манархічных дзяржаў (першапачаткова – ахова манарха).
**Лейб-медык**, -а, *м.* Прыдворны доктар.
**Лексікон**, -а, *м.* (*уст.*). Слоўнік.
**Лемантар**, -а, *м.* (*уст.*). Буквар.
**Лен**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Спадчыннае зямельнае ўладанне ў эпоху феадалізму, якое давалася васалу пры ўмове, калі ён нёс ваенную службу і выконваў іншыя павіннасці; феад. 2. Падатак, які збіраўся з такога зямельнага ўладання.
**Ленд-ліз**, -у, *м.* Сістэма пазыкі і перадачы Злучанымі Штатамі Амерыкі ў арэнду ўзбраення, сыравіны, харчавання і інш. тавараў краінам-саюзніцам у час другой сусветнай вайны.
**Ленінец**, -а, *м.* (*савет.*). Паслядоўнік ленінізму.
**Леннік**, -а, *м.* (*гіст.*). Васал, які атрымаў **лен**.
**Ленны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **лена**, звязаны з **ленам**, з яго уладаннем.
**Лернік**, -а, *м.* (*уст.*). Лірнік.
**Летапіс**, -у, *м.* Пагадовы запіс гістарычных падзей у старажытныя часы; кніга з такімі запісамі.



**Летапісанне**, -я, *н.* Складанне **летапісаў**.
**Летапісец**, -пісца, *м.* Складальнік **летапісаў**.
**Летапісны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **летапісу**.
**Ліберал**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які свабодна мысліць; вальнадумец.
**Лібералізм**, -у, *м.* (*уст.*). Вальнадумства.
**Лібералка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **ліберал**.
**Ліберальнічаць** (*уст.*). Праяўляць вальнадумства.
**Ліберальны**, -ая, -ае (*уст.*). Які праяўляе **лібералізм**.
**Лік**, -у, *м.* (*уст. і высок.*). Твар.
**Лікбез**, -а і -у, *м.* (*савет.*). 1. -у. Ліквідацыя непісьменнасці. 2. -а. Школа для навучання грамаце непісьменных дарослых; **лікпункт**.
**Лікбезнік**, -а, *м.* (*савет.*). Работнік **лікбезу**.
**Лікпункт**, -а, *м.* (*савет.*). Пункт па ліквідацыі непісьменнасці; **лікбез** (у 2 знач.).
**Ліктар**, -а, *м.* У старажытным Рыме: член ганаровай стражы вышэйшай адміністрацыі, які насіў пучок розгаў і сякеру як сімвал улады і пакарання.
**Лілея**, -і, *ж.* (*уст. паэт.*). Лілія.
**Лінейка**, -і, *ж.* Доўгі мнагамесны адкрыты **экіпаж** з падоўжанай перагародкай, у якім сядзяць бокам адносна напрамку руху.
**Лінейны**, -ая, -ае (*уст.*). Які складае аснову баявых злучэнняў арміі; рэгулярны.
**Лінёк, лінька**, *м.* Кароткая смоленая вяроўка з вузлом на канцы, якая служыла на суднах для пакарання матросаў.
**Ліра**, -ы, *ж.* 1. Старажытнагрэчаскі струнны шчыпковы музычны інструмент. 2. У Заходняй Еўропе ў XV–XVIII стст.: струнны смычковы інструмент тыпу **лютні, віёлы**, скрыпкі. 3. Старадаўняе: беларускі народны струнны музычны інструмент з клавішамі і корбай.
**Лірнік**, -а, *м.* На Беларусі (як у Расіі і на Украіне): вандроўны музыка-спявак, які акампануе сабе на **ліры** (у 3 знач.).
**Лірны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ліры**.
**Літава́льнік**, -а, *м.* (*уст.*). Паяльнік.
**Літава́льны**, -ая, -ае (*уст.*). Паяльны.
**Літава́льшчык**, -а, *м.* (*уст.*). Паяльшчык.
**Літава́нне**, -я, *н.* (*уст.*). Паянне, пайка.
**Літава́ць** (*уст.*). Паяць.
**Літоўшчык**, -а, *м.* (*уст.*). Спайшчык.
**Ліўр**, -а, *м.* Грашовая адзінка ў Францыі да ўвядзення ў 1799 г. франка; сярэбраная манета ў сярэдневяковай Францыі.
**Ліхач**, -а, *м.* Фурман **экіпажа**, запрэжанага натурлівым канём, а таксама **экіпаж** з такім канём.
**Ліцэіст**, -а, *м.* Выхаванец **ліцэя**.
**Ліцэй**, -я, *м.* У царскай Расіі: сярэдняя (або вышэйшая юрыдычная) мужчынская навучальная

ўстанова закрытага тыпу для дваранскіх дзяцей.

**Ліцэйскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ліцэя**.

**Лішэнец**, -нца, *м.* (*савет.*). У СССР да прыняцця канстытуцыі 1936 г.: чалавек, пазбаўлены выбарчых і іншых грамадзянскіх правоў па сацыяльных прыкметах.

**Лішэнка**, -нкі, *ж.* (*савет.*). *Жан.* да **лішэнец**.

**Лобны**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **лобнае месца**. Узвышэнне, з якога ў старажытнасці аб'яўляліся царскія ўказы і на якім адбываліся пакаранні смерцю.

**Ловы**, -аў, *толькі мн.* Паляванне без агнястрэльнай і халоднай зброі.

**Ложа**, -а, *н.* (*уст. паэт.*). Месца для спання, пасцель.

**Локаць**, -кця, *м.* Старадаўняе: мера даўжыні, роўная 0,6497 метра, якой карысталіся на Беларусі і ў Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер.

**Ломбер**, -а, *м.* Гульня ў карты, у якой прымаюць удзел звычайна трое.

**Ломберны**, -ая, -ае. Які мае дачыненне да **ломбера**.

**Лона**, -а, *н.* (*уст.*). Грудзі ці чэрава як сімвал мацярынства, пяшчоты, ласкі.

**Лот**, -а, *м.* Старадаўняе: адзінка масы (вагі), роўная 15,288 г, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Лоўчы**, -ага, *м.* У Рускай дзяржаве да XVII ст.: службовая асоба, якая адказвала за дварцовае паляванне і рыбную лоўлю.

**Луідор**, -а, *м.* Асноўная залатая манета Францыі з 1640 па 1795 гг. [Фр. louis d'or, ад Lois – Людовік (імя франц. караля) і d'or – з золата].

**Лук**, -а, *м.* Ручная зброя ў выглядзе гібкай дугі, сцягнутай цецівой для пуску стрэл.

**Лукамор'е**, -я, *н.* (*уст. разм.*). Марскі заліў, бухта.

**Лучнік**[1], -а, *м.* У старажытнасці і сярэдневякоўі: пешы ці конны воін, узброены **лукам**.

**Лучнік**[2], -а, *м.* Старадаўняе: прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай **лучыны** ці смалістых корчыкаў.

**Лучына**, -ы, *ж.* Старадаўняе: тонкая сухая, звычайна доўгая сасновая трэска, якой асвятлялі сялянскія хаты.

**Лучынка**, -і, *ж.* *Памянш.-ласк.* да **лучына**.

**Лучынны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **лучыны**.

**Лушчак**, -а, *м.* (*уст.*). Слюда.

**Льё**, *нескл.*, *н.* Старадаўняе: французская мера даўжыні, роўная 4,5 км.

**Людзі**, -ей, *толькі мн.* (*уст.*). Слугі, парабкі, наймічкі.

**Людскі**, -ая, -ае. 1. Прызначаны для прыслугі (*уст.*). 2. *у знач. наз.* **людская**, -ой, *ж.* Памяшканне для прыслугі пры панскім маёнтку.

**Люнет**, -а, *м.* Палявое ўмацаванне, якое складаецца з аднаго-двух валоў і з ірвом уперадзе.

**Люстрацыя**, -і, *ж.* У заходніх губернях царскай Расіі: перыядычнае апісанне дзяржаўных маёмасцей з мэтай вызначэння іх прыбытковасці.

**Люстрын**, -у, *м.* Старадаўняе: шарсцяная ці паўшарсцяная тканіна з глянцам.



**Люстрынавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **люстрыну**.

**Лютніст**, -а, *м.* У сярэднявеччы: музыкант, які іграе на **лютні**.

**Лютня**, -і, *ж.* У сярэднявеччы: струнны шчыпковы музычны інструмент.

**Ляндар**, -а, *м.* Гаспадар, уладальнік **карчмы**.

**Лячэбнік**, -а, *м.* (*уст.*). Кніга, у якой апісаны спосабы лячэння розных хвароб.

**Ляхі**, -аў, *мн.*; *адз.* **лях**, -а, *м*; **ляшка**, -і, *ж.* (*уст.*). Палякі.

**Ляшскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **ляхаў**, які належыць, уласцівы ім; польскі.

## М

**Магазін**, -а, *м.* На Беларусі, Украіне, у Польшчы, Літве, Расіі ў XVIII – пачатку XX ст.: будынак, у якім захоўваліся грамадскія запасы прадуктаў (збожжа, крупы, мука, соль і інш.).

**Магаметанін**, -а, *м.* (*уст.*). Мусульманін.

**Магаметанка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **магаметанін**.

**Магаметанства**, -а, *н.* (*уст.*). Рэлігія, заснаваная, паводле арабскіх паданняў, Магаметам у VII ст. н.э.; мусульманства.

**Магерка**, -і, *ж.* На Беларусі ў XVI-XIX ст.: круглая высокая мужчынская шапка з лямцу; род капелюша.

**Магістр**, -а, *м.* У сярэднія вякі: тытул кіраўніка каталіцкага духоўна-рыцарскага ордэна, а таксама асоба, якая мела такі тытул.

**Магістрат**, -а, *м.* 1. Дзяржаўная пасада (консул, трыбун і інш.) у старажытным Рыме, а таксама асоба, якая займала гэту пасаду. 2. Выбарны адміністрацыйны і судовы орган гарадскога самакіравання, якія мелі права на самакіраванне (магдэбургскае права). У ВКЛ уводзіліся з канца XIV-XV ст.

**Магістратура**, -ы, *ж.* 1. У некаторых заходнееўрапейскіх краінах і ў царскай Расіі – судовае ведамства. 2. *зб.* Асобы, якія займаюць судовыя пасады. 3. *зб.* Вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў старажытным Рыме, а таксама асобы, якія займалі гэтыя пасады.

**Магістрацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **магістрата**.

**Магістэрства**, -а, *н.* Праўленне **магістра**.

**Магнат**, -а, *м.*; **магнаты**, -аў, *мн.* Буйны феадал-землеўладальнік, прадстаўнік радавітай знаці, прадстаўнік арыстакратычных вярхоў класа феадалаў у некаторых краінах Еўропы, у тым ліку і ў ВКЛ.

**Магнацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **магната**, **магнатаў**, належыць ім.

**Магнацтва**, -а, *н.* 1. Званне **магната**. 2. *зб.* **Магнаты**, радавая знаць.

**Магнэ́с**, -а, *м.* (*уст.*). Магніт.

**Мадам**, *нескл.*, *ж.* 1. Зварот да замужняй жанчыны ў Францыі, царскай Расіі і некаторых іншых краінах. 2. У буржуазна-дваранскім асяроддзі царскай Расіі: выхавальніца-іншаземка ў багатай сям'і. 3. Гувернантка (*уст. разм.*).

**Мадрыгáл**, -а, *м.* (*уст.*). Камплімент, пахвала.

**Мадыстка**, -і, *ж.* Жанчына, якая займаецца шыццём моднага жаночага адзення і галаўных убораў.

**Маёнтак**, -тка, *м.* Агульная назва землеўладання з панскай гаспадаркай (жылыя і гаспадарчыя будынкі, прадпрыемствы і г.д.) у феадальным і капіталістычным грамадствах.

**Маёнткавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **маёнтка**.

**Маёўка**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі: нелегальны сход рабочых у дзень 1-га Мая (звычайна за горадам).

**Майстравы́**, -ога, *м.* Рабочы, рамеснік.

**Малако**, -а, *н.* (*уст.*). Семявая вадкасць рыб, а таксама семявыя залозы рыб.

**Маларусы**, -аў, *мн.*; *адз.* **маларус**, -а, *м.* Афіцыйная назва ўкраінцаў у царскай Расіі.

**Малатарня**, -і, *ж.* (*спец.*). Машына для абмалоту сельскагаспадарчых культур.

**Малойчык**, -а, *м.* (*уст. і нар.-паэт.*). Малады хлопец.

**Мамелюк**, -а, *м.* 1. Прадстаўнік ваенна-феадальнай касты ў Егіпце, заснавальнікамі якой былі рабы-чэркесы, што складалі з XIII ст. асабістую гвардыю султана. 2. Конны гвардзеец з асабістай аховы Напалеона Банапарта, набранай у час паходу на Егіпет.

**Мамка**, -і, *ж.* (*уст.*). Жанчына, якая корміць грудзьмі чужое дзіця; нянька.

**Манаполька**, -і, *ж.* (*уст. разм.*). У Расійскай імперыі: дзяржаўная крама, у якой прадавалі гарэлку.

**Манапольшчык**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Прадавец (сядзелец) у **манапольцы**.

**Манахорд**, -а, *м.* Старажытны грэчаскі аднаструнны шчыпковы музычны інструмент.

**Мандарын**, -а, *м.* (*гіст.*). Еўрапейская назва дзяржаўнага чыноўніка ў феадальным Кітаі.

**Мандарынскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **мандарына**.

**Манкіраваць** (*уст.*). Нядбайна аднесціся да каго-н., чаго-н., пагрэбаваць (грэбаваць) чым-н.

**Манускрыпт**, -а, *м.* Старажытны рукапіс.

**Мануфактура**, -ы, *ж.* (*уст.*). 1.Фабрыка, пераважна тэкстыльная. 2. *зб.* Тканіна, тэкстыльныя вырабы.

**Мануфактурыст**, -а, *м.* (*уст.*). Уладальнік **мануфактуры**.

**Маравы́**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **мору**.

**Маралітэ**, *нескл.*, *н.* Павучальная драма заходнееўрапейскага тэатра XV-XVI ст. з алегарычнымі дзеючымі асобамі.

**Мараход**, -а, *м.* (*уст.*). Марапла-вец, марак.

**Маргавое**, -ага, *н.* У XVI-XVIII ст. у ВКЛ: плата сялян феадалам за карыстанне агародамі і зямельнымі надзеламі (вымяраліся маргамі).

**Марка**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. Пагранічная вобласць з ваенным кіраваннем у раннефеадальнай Франкскай дзяржаве і ў сярэдневяковай Германіі. 2. Сялянская абшчына ў сярэдневяковай Заходняй Еўропе.

**Маркграф**, -а, *м.* (*гіст.*). Тытул правіцеля **маркі** (у 1 знач.), а таксама асоба, якая мае такі тытул. 2. Спадчынны тытул некаторых германскіх князёў, а таксама асоба, якая мае такі тытул.

**Маркграфіня**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. Тытул правіцельніцы **маркграфства** (у 1 знач.). 2. Жонка ці дачка **маркграфа**.

**Маркграфскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **маркграфа**, маркграфаў, належыць ім.

**Маркграфства**, -а, *н.* (*гіст.*). 1. Княства, утворанае ў працэсе феадалізацыі з **маркі** (у 1 знач.). 2. Званне **маркграфа**.

**Маркітáнт**, -а, *м.* У эпоху феадалізму: дробны гандляр прадуктамі харчавання і прадметамі салдацкага ўжытку, які суправаджаў войска ў паходах, на манеўрах і вучэннях, а таксама ў час вайны; меў сваю краму ў ваенным гарнізоне.

**Маркітáнтка**, -і, *ж.* *Жан.* да **маркітáнт**.

**Маркітанцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **маркітанта**.

**Марціра**, -ы, *ж.* Караткаствольная артылерыйская гармата.

**Марцірны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **марціры**.

**Маршалак**, -лка, *м.* (*гіст.*). Урад (пасада) у Вялікім княстве Літоўскім.

**Маскатэль**, -і, *ж.* (*уст.*). Хімічныя рэчывы (фарбы, клей і інш.) як прадмет гандлю.

**Маскатэльны**, -ая, -ае (*уст.*). Які з'яўляецца **маскатэллю**.



**Масон**, -а, *м.* Член масонскай секты, паслядоўнік **масонства**.

**Масонскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **масона, масонства**.

**Масонства**, -а, *н.* Рэлігійна-філасофскі рух XVIII – XIX ст. у Еўропе, у якім ідэі буржуазнага антыклерыкалізму спалучаліся з элементамі рэлігійнага містыцызму; франкмасонства.

**Масоўка**, -і, *ж.* (*разм.*). У Расійскай імперыі: тайны сход рэвалюцыйна настроеных рабочых.

**Масцеравы**, -ога, *м.* (*уст.*). Рамеснік.

**Масянжовы**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да **мосенжу**; зроблены з **мосенжу**. 2. Колеру **мосенжу**, бронзавы.

**Матацыклет**, -а, *м.* (*уст.*). Матацыкл.

**Матрыкул**, -а, *м.* 1. Заліковая кніжка (*уст.*). 2. Афіцыйны спіс якога-н. саслоўя, установы, складак, даходаў і г.д.

**Маўчальнік**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Чалавек, які даў зарок маўчання пад уплывам рэлігійных меркаванняў.

**Мацiца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Перламутр.

**Мацiцовы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **мацiцы**.

**Машастовы**, -ая, -ае (*уст.*). Зроблены, пашыты з **мошасту**.

**Машна (машонка)**, -ы, *ж.* Мяшочак для грошай, скураны капшук.

**Маярат**, -у, *м.* (*спец.*). 1. У феадальным і буржуазным праве: парадак атрымання спадчыны, пры якім зямельнае ўладанне пераходзіць старэйшаму сыну або старэйшаму ў родзе. 2. Памесце,

маёнтак, на які пашыраецца такое права.
**Маяратны**, -ая, -ае (*спец.*). Які мае адносіны да **маярату**, з'яўляецца **маяратам**.
**Маярацтва**, -а, *н.* (*спец.*). 1. Права на валоданне **маяратам** (у 2 знач.). 2. Тое, што і **маярат**.
**Мезальянс**, -у, *м.* Шлюб з асобай ніжэйшага сацыяльнага становішча ў дваранска-буржуазным грамадстве.
**Мемарыял**, -а, *м.* (*уст.*). Кніга для запісаў.
**Менестрэль**, -я, *м.* Вандроўны паэт-музыкант у Францыі і Англіі ў сярэднія вякі.
**Ментар**, -а, *м.* (*уст.*). Настаўнік, выхавальнік, кіраўнік.
**Ментарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **ментара**, уласцівы **ментару**; павучальны.
**Мерка**, -і, *ж.* Плата збожжам за памол у млыне.
**Мерсі**, *часц.* (*уст. разм.*). Дзякуй.
**Месніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **месніцтва**.
**Месніцтва**, -а, *н.* У Маскоўскай Русі XV-XVII ст.: парадак замяшчэння дзяржаўных пасад баярамі ў залежнасці ад знатнасці роду, а не ад асабістых паслуг.
**Места**, -а, *н.* (*уст.*). Горад.
**Меставы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **места**.
**Месячнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Прыгонны селянін, які атрымліваў **месячыну**.
**Месячына**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Натуральная плата, якую штомесяц выдаваў **памешчык** беззямельным прыгонным сялянам.
**Металоід**, -у, *м.* (*уст. спец.*). Хімічны элемент, які не адносіцца да металаў; неметал.
**Металоідны**, -ая, -ае (*уст. спец.*). Які мае адносіны да **металоіду**.
**Метода**, -ы, *ж.* (*уст.*). Метад.
**Метраполія**, -і, *ж.* (*гіст.*). У старажытнай Грэцыі: горад-дзяржава (поліс) у адносінах да заснаваных ім калоній на тэрыторыі іншых краін.
**Метрдатэль**, -я, *м.* Старшы **лакей** у багатым дваранска-памешчыцкім доме.
**Мецэнат**, -а, *м.* Багаты апякун навук і мастацтва.
**Мецэнатка**, -і, *ж.* (*разм.*). *Жан.* да **мецэнат**.
**Мецэнацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **мецэната**, мецэнатаў, уласцівы ім.
**Мецэнацтва**, -а, *н.* Практыка матэрыяльнай і духоўнай падтрымкі мастацтва і навукі з боку прыватных асоб. [Ад імя Гая Цыльнія Мецэната, прыдворнага рымскага імператара Актавіяна Аўгуста, апекуна паэтаў Вергілія і Гарацыя].
**Мецэнацтвавацъ**. Займацца **мецэнацтвам**.
**Меч**, -а, *м.* Сякучая або сякуча-колючая зброя блізкага бою, падобная да **шаблі**, вострай з абодвух бакоў.
**Мечаносец**, -носца, *м.* (*гіст.*). 1. Член нямецкага рыцарскага ордэна, заснаванага ў 1202 г. для захопу Прыбалтыкі, гербам якога быў меч і крыж. 2. Сярэдневяковы воін, узброены **мячом**. 3. Слуга **рыцара**, які насіў за ім **меч**.
**Мечнік (мечны)**, -а, *м.* Пасада (урад) у ВКЛ у канцы XV- XVIII ст.



**Мешчанін**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: асоба гарадскога саслоўя, якое складалася з рамеснікаў, гандляроў, ніжэйшых чыноў служачых і пад.
**Мілаваць** (*уст.*). Выказваць увагу, любіць.
**Мінезінгер**, -а, *м.* Прыдворны пясняр у сярэдневяковай Германіі.
**Мір**, -а, *м.* (*уст.*). Сельская грамада.
**Міравы́**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **міравы́ суд**. У царскай Расіі і ў некаторых іншых краінах: звязаны з судовымі органамі, якія займаюцца дробнымі грамадзянскімі і крымінальнымі справамі.
**Міракль**, -я, *м.* Сярэдневяковы вершаваны твор рэлігійнага характару.
**Мірза**, -ы, *м.* У цюркскіх народаў царскай Расіі – буйныя феадалы.
**Містэрыя**, -і, *ж.* 1. У старажытнай Грэцыі, старажытным Рыме і краінах старажытнага Усходу: тайныя рэлігійныя абрады ў гонар бажаства, у якіх маглі прымаць удзел толькі даверанныя асобы. 2. Рэлігійная драма на біблейскія сюжэты ў сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе.
**Міталёгія**, -і, *ж.* (*уст.*). Міфалогія.
**Мніх**, -а, *м.* (*уст.*). Манах.
**Мнішка**, -і, *ж.* (*уст.*). Манашка.
**Множыцца** (*уст.*). Размнажацца.
**Могільнік**, -а, *м.* Старажытныя могілкі.
**Могільнікавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **могільніка**.
**Модлы**, -аў, *толькі мн.* (*уст.*). 1. Малітва. 2. Моцная просьба, маленне.
**Мор**, -у, *м.* (*уст.*). Павальная смерць, эпідэмія.
**Морг**, -а, *м.* Старадаўняе: мера зямельнай плошчы (0,71 га).
**Мосенж**, -у, *м.* (*уст.*). Латунь.
**Мошаст**, -у, *м.* (*уст.*). Крэп, аксаміт.
**Мужык**, -а, *м.* 1. Селянін (*уст.*). 2. Аб грубым, нявыхаваным чалавеку (*уст. і лаянк.*).
**Мужыцкі**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да **мужыка** (у 1 знач.), належыць мужыкам. 2. Такі, як у **мужыка**, уласцівы **мужыку** (у 1 знач.).
**Мужычка**, -і, *ж.* (*уст. і лаянк.*). *Жан.* да **мужык** (у 1, 2 знач.).
**Мужыччо**, -а, *н.* (*уст. пагард.*) *зб.* Мужыкі.
**Мужычы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **мужыка**, належыць **мужыку** (у 1, 2 знач.).
**Мужычына**, -ы, *м.* (*уст. лаянк.*). Мужык (у 2 знач.).
**Мурза**, -ы, *м.* Тытул татарскай феадальнай знаці ў XV ст., а таксама асоба, якая мае такі тытул.
**Му́рын**, -а, *м.* (*уст.*). Негр, арап.
**Мухая́р**, -у, *м.* Старадаўняе: бавоўняная тканіна з дабаўленнем шэрсці або шоўку.
**Мухая́равы**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **мухая́ру**. 2. Пашыты з **мухая́ру**.
**Мушкет**, -а, *м.* Буйнакаліберная ружжо з кнотам для запальвання пораху.
**Мушкетны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **мушкета**; прызначаны для **мушкета**.
**Мушкецёр**, -а, *м.*, Узброены **мушкетам** салдат у арміях

еўрапейскіх краін, у тым ліку ВКЛ, XVI – пачатку XVIII ст.

**Мушкецёрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **мушкецёра**; які складаецца з **мушкецёраў**.

**Мыслеце**, *нескл.*, *н.* (*уст.*). Назва літары 'м'.

**Мыта (мыт)**, -у, *н.* (*гіст.*). Грашовы збор, які бралі ў ВКЛ з мясцовых купцоў за ўвоз з-за мяжы або вываз тавараў за мяжу і з іншаземцаў за продаж тавараў на мясцовых рынках ці правоз іх па тэрыторыі дзяржавы.

**Мэтр**, -а, *м.* (*уст.*). Настаўнік; майстар у якой-небудзь галіне.

**Мядніца**, -ы, *ж.* Старадаўняе: мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасці на Беларусі, роўная 33,84 л.

**Мясцком**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: мясцовы камітэт савецкага прафсаюза.

**Мясцкомаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **мясцкома**.

**Мяшчанка**, -і, *ж.* *Жан.* да **мешчанін**.

**Мяшчанскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **мешчаніна**, **мяшчан**.

**Мяшчанства**, -а, *н.* 1. У Расійскай імперыі: гарадское саслоўе, якое складалася з рамеснікаў, гандляроў, ніжэйшых чыноў служачых і пад. 2. *зб.* Асобы, якія належалі да гэтага саслоўя; мяшчане.

## Н

**Набат**, -а, *м.* Вялікі барабан у войсках старажытнай Русі.

**Набілітэт**, -а, *м.* (*гіст.*). Кіруючыя вярхі рабаўладальніцкага класа ў старажытнай Рымскай рэспубліцы.

**Набой**, -ю, *м.* (*уст.*). Баявы снарад, патрон і інш.

**Нагруднік**, -а, *м.* Частка сярэдневяковых даспехаў у выглядзе шчытка або панцыра, які засцерагаў грудзі.

**Над**, *прыназ.* (*уст.*). Ужываецца пры называнні аб'екта параўнання, супастаўлення.
*Над яе няма прыгажэйшай.*

**Надзел**, -у, *м.* (*гіст.*). У Расійскай імперыі: зямельны ўчастак, які выдзяляўся сялянскай сям'і (памешчыкамі ці рэформай 1861 г.).

**Надзельны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **надзелу**.

**Наезніцтва**, -а, *н.* Наезды невялікіх атрадаў кавалерыі або асобных коннікаў на непрыяцеля.

**Наказ**, -у, *м.* (*уст. прастамоўн.*). Загад або распараджэнне.

**Наказаць** (*уст. прастамоўн.*). Даць **наказ**, распараджэнне.

**Наказны**, -ая, -ае (*уст.*). У якім змешчаны **наказ**.

**Налітава́ць** (*уст.*). Напаяць.

**Наложніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Палюбоўніца.

**Наложніцтва**, -а, *н.* (*уст. кніжн.*). Стан і становішча **наложніцы**; пазашлюбнае сужыццё.

**Намеснік**, -а, *м.* 1. У ВКЛ у XIV-XV ст.: прадстаўнік вялікага **князя**, якому належала адміністрацыйна-гаспадарчая, фінансавая і судовая ўлады на тэрыторыі былых самастойных княстваў. 2. У XVI-XVII ст.: памочнікі **старосты** і **ваяводы**, якія ажыццяўлялі адміністрацыйна-судовую ўладу ў паветах і ваяводствах ВКЛ.



3. У Расійскай імперыі: урадавая асоба мясцовай адміністрацыі, тое, што і **генерал-губернатар**.

**Намесніца**, -ы, *ж.* Жонка **намесніка**.

**Намесніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **намесніка**, **намесніцтва**.

**Намесніцтва**, -а, *н.* 1. У ВКЛ: адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, якой кіравалі намеснікі вялікага **князя**. 2. У Расійскай імперыі ў 1778-1796 гг. называліся губерні, у тым ліку створаныя на беларускіх землях у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай.

**Намітка**, -і, *ж.* Старадаўняе: галаўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі.

**Напеніць** (*уст.*). Напоўніць пеністай вадкасцю.

**Наперснік**, -а, *м.* 1. Блізкая даверaная асоба або таварыш, якому давяраюць свае тайны (*уст.*). 2. Традыцыйны персанаж у класічных трагедыях XVII–XVIII ст. – сябар галоўнага героя.

**Наперсніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). 1. *Жан.* да **наперснік**. 2. Палюбоўніца, наложніца.

**Наплечнік**, -а, *м.* 1. Частка воінскіх даспехаў, якая засцерагала плячо ад удараў. 2. У царскай Расіі: папярочны пагон, які насілі як знак адрознення ваенныя і некаторыя чыноўнікі (*разм.*).

**Нарадаволец**, -льца, *м.* (*гіст.*). Член тайнай палітычнай арганізацыі народнікаў "Народная воля".

**Нарадавольніцкі**, -ая, -ае (*гіст.*). Тое, што і **нарадавольскі**.

**Нарадавольскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **нарадавольца**, **нарадавольства**.

**Нарадавольства**, -а, *н.* (*гіст.*). Грамадска-палітычны рух у Расіі, на чале якога стаяла арганізацыя народнікаў "Народная воля".

**Нардом**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: народны дом – установа для правядзення культурных мерапрыемстваў.

**Наркамат**, -а, *м.* (*савет. афіц.*). Скарачэнне: народны камісарыят. У СССР (1917–1946 гг.): орган дзяржаўнага кіравання, які адпавядае міністэрству.

**Наркаматаўскі**, -ая, -ае (*савет. афіц.*). Які мае адносіны да **наркамата**.

**Нарком**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: народны камісар. Кіраўнік **наркамата**.

**Наркомаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **наркома**, належыць **наркому**.

**Нарманскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **нарманаў**, належыць **нарманам**.

**Нарманы**, -аў, *мн.* (*гіст.*). Назва, пад якой былі вядомы ў Заходняй Еўропе народы Скандынавіі, якія ў VIII–XI ст. рабілі грабежніцкія, захопніцкія паходы ў краіны Еўропы.

**Народазнавец**, -знаўца, *м.* (*уст.*). Спецыяліст па **народазнаўству**; этнограф.

**Народазнаўства**, -а, *н.* (*уст.*). Этнаграфія.

**Народазнаўчы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **народазнаўства**.

**Народнік**, -а, *м.* Паслядоўнік народніцтва.
**Народніца**, -ы, *ж. Жан.* да **народнік**.
**Народніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **народніцтва**; які выражае погляды **народніцтва**, **народнікаў**.
**Народніцтва**, -а, *н.* Грамадска-палітычны рух у Расіі ў другой палове XIX ст., які ідэалізаваў сялянскую абшчыну і імкнуўся пры яе дапамозе ажыццявіць ідэі сялянскай дэмакратыі і пераходу да сацыялізму, мінуючы капіталізм.
**Народны**, -ая, -ае. У Расійскай імперыі: створаны спецыяльна для ніжэйшых слаёў грамадства.
**Нарукаўнік**, -а, *м.*; **нарукаўнікі**, -аў, *мн.* Манжэт, які прышываўся да рукава сукенкі, кофты.
**На́ручы**, -аў, *толькі мн.* У старажытнасці: частка **латаў**, якая надзявалася на рукі.
**Нарэз**, -а, *м.* (*гіст.*). Тое, што і **надзел**.
**Натр**, -у, *м.* (*уст.*). Вокіс натрыю.
**На́травы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **натру**.
**Натура**, -ы, *ж.* (*уст.*). Прырода.
**Начдыў**, -ва, *м.* (*уст.*). Начальнік дывізіі.
**Начлежка**, -і, *ж.* (*уст.*). Начлежны дом.
**Неадменны**, -ая, -ае. У Расійскай імперыі: уваходзіла ў склад назваў некаторых пасад (у значэнні: пастаянны).
**Нерва́цыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Нервовае расстройства.
**Не́хрысць**, -я, *м.* (*уст. разм.*). Чалавек нехрысціянскай веры, а таксама чалавек, які не верыць у Бога.
**Нечытэльнасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Нечытальнасць.
**Нечытэльны**, -ая, -ае (*уст.*). Нечытальны.
**Нешляхетны**, -ая, -ае. Недваранскага паходжання.
**Нігілізм**, -у, *м.* Напрамак у асяроддзі рускай разначыннай інтэлігенцыі 60-х гг. XIX ст., прыхільнікі якога адмоўна ставіліся да буржуазна-дваранскіх традыцый і прыгонніцтва.
**Нігіліст**, -а, *м.* Прадстаўнік разначыннай інтэлігенцыі 60-х гг. XIX ст. у Расіі, які адмоўна ставіўся да буржуазна-дваранскіх традыцый і **прыгонніцтва**.
**Нігілістка**, -і, *ж. Жан.* да **нігіліст**.
**Нігілісцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **нігіліста**; уласцівы **нігілісту**.
**Ніжнік**, -а, *м.* (*уст.*). Малодшая фігура ў ігральных картах; валет.
**Нізкі**, -ая, -ае (*уст.*). Вельмі простыя, неўрачысты, не прыняты ў літаратуры (пра стыль мовы).
**Ном**, -а, *м.* 1. Грэчаская назва акругі ў старажытным Егіпце. 2. У старажытных грэкаў і ўсходніх народнасцей – песня, гімн.
**Нотабена**, *нескл.*, *ж.* Адзнака ў школе (у значэнні папярэджання пры непаспяховасці або дрэнных паводзінах).
**Нулёўка**, -і, *ж.* 1. У СССР: падрыхтоўчы клас пры пачатковай школе да 1926 г. 2. *м.* і *ж.* Вучань (вучаніца) такога класа.
**Нэп**, -а, *м.*, *толькі адз.* (*савет.*). Скарачэнне: новая эканамічная палітыка, якая праводзілася Савецкай дзяржавай у 20-х – пачатку 30-х гадоў XX ст. з мэтай пераадольвання разрухі, адраджэння народнай гаспадаркі пры часовым дапушчэнні капіталістычных элементаў, аднак пры захаванні камандных вышынь у руках пралетарскай дзяржавы.



**Нэпаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **нэпа**, уласцівы **нэпу**.
**Нэпман**, -а, *м.* (*савет. пагард.*). Прыватны прадпрымальнік перыяду **нэпа**; гандляр.
**Нэпманка**, -і, *ж.* (*савет. пагард.*). 1. *Жан.* да **нэпман**. 2. Жонка **нэпмана**.
**Нэпманскі**, -ая, -ае (*савет. пагард.*). Які мае адносіны да **нэпмана**, уласцівы **нэпману**.
**Няверны**, -ая, -ае: *у знач. наз.* **няверны**, -ага, *м.*; **няверная**, -ай, *ж.* (*уст.*). Той (тая), хто прыняў чужое веравызнанне.
**Няволіць** (*уст.*). Пазбаўляць волі; трымаць у няволі.
**Нядоімка**, -і, *ж.* Частка падатку, збору, не ўнесеная сялянамі ў тэрмін.
**Нядоімкавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **нядоімкі**.
**Нядоімшчык**, -а, *м.* Плацельшчык, за якім лічыцца **нядоімка**.
**Нядоімшчыца**, -ы, *ж. Жан.* да **нядоімшчык**.
**Нянаскі**, -ая, -ае (*уст.*). Не наш, не свой; далёкі.
**Нятленнасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Уласцівасць **нятленнага**.
**Нятленны**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які не паддаецца гніенню, тленню. 2. Які ніколі не знікае; вечны (*перан.*).

## О

**Обер-** 1. Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае старшынства ў пасадзе, чыне, напрыклад: **обер-афіцэр**, **обер-пракурор**. 2. Першая састаўная частка складаных слоў, якія абазначаюць найбольшую наяўнасць адмоўных якасцей, напрыклад: обер-бандыт (*разм.*).
**Обер-афіцэр**, -а, *м.* Афіцэрскі чын у царскай і некаторых іншых арміях ад прапаршчыка да капітана ўключна, а таксама асоба, якая мае такі чын.
**Обер-кандуктар**, -а, *м.* (*уст.*). Галоўны кандуктар.
**Обер-кандуктарка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **обер-кандуктар**.
**Обер-пракурор**, -а, *м.* 1. Службовая асоба, якая ўзначальвала дэпартамент Сената ў царскай Расіі. 2. Вышэйшая службовая асоба, якая ўзначальвала Сінод на правах міністра ў царскай Расіі.
**Омнібус**, -а, *м.* У Заходняй Еўропе ў XVII – пачатку XX ст.: шматмесны конны **экіпаж** з платнымі месцамі для пасажыраў; першы від грамадскага транспарту.
**Омнібусны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **омнібуса**.
**Отрак**, -а, *м.* (*гіст.*). Член малодшай **дружыны князя** ў старажытнай Русі.
**Ордэн**, -а, *м.* Арганізацыя, таварыства з пэўным статутам (манаская або, у сярэднія вякі, рыцарская і інш.).
**Охабень**, -бня, *м.* Старадаўняе: адзенне ў выглядзе **кафтана** з ча-

тырохвугольным адкладным каўняром.

## П

**Паасобнік**, -а, *м.* (*уст.*). Экземпляр чаго-н.

**Павет**, -а, *м.* 1. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў ВКЛ, якая ўваходзіла ў склад ваяводстваў. 2. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі і ў СССР да 1924 г., якая ўваходзіла ў склад **губерні**. 3. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Заходняй Беларусі ў 1919-1939 гг.

**Павіту́ха**, -і, *ж.* Жанчына, якая прымае роды.

**Павойнік**, -а, *м.* Старадаўняе: галаўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі; тое, што і **намітка**.

**Павытчык**, -а, *м.* (*гіст.*). Службовая асоба канцылярыі, якая кіравала справаводствам у судзе ў Расіі XVI-XVII ст.

**Павятовы**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **павета**, абслугоўвання **павета**. 2. Які з'яўляецца галоўным у **павеце**.

**Паганец**, -нца, *м.* (*уст.*). Нехрысціянін, чалавек іншай веры.

**Пагост**, -а, *м.* (*уст.*). Сельскія могілкі.

**Падарожная**, -ай, *ж.* (*гіст.*). Дакумент на права карыстання ў дарозе казёнымі коньмі.

**Падарожны**, -ая, -ае: *у словазлучэнні* **падарожныя грошы**. Грошы за праезд на паштовых конях ці за праезд па чыгунцы афіцэраў і чыноўнікаў у царскай Расіі ў XVIII-XIX ст.

**Падбор**, -а, *м.* (*уст.*). Абцас, зроблены з кавалкаў скуры.

**Падвальны**, -ая, -ае: *у знач. наз.* **падвальны**, -ага, *м.* Рабочы, які працаваў у вінным падвале.

**Падвей**, -ю, *м.* (*уст.*). Хвароба, якая здараецца, калі прахопіць скразняком; параліч.

**Падвор'е**, -я, *н.* (*уст.*). Дом, які належыць загараднаму манастыру або архірэю.

**Падгры́фак**, -фка, *м.* (*уст.*). Пласцінка на струнных інструментах, да якой прывязваюцца ніжнія канцы струн.

**Падданства**, -а, *н.* (*уст.*). Падпарадкаванне каму-н.

**Падданы**, -ага, *м.* (*уст.*). Асоба, якая падпарадкуецца каму-н., залежыць ад каго-н.

**Пад'есаул**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: афіцэрскі чын у казацкіх войсках ніжэй **есаула**, а таксама асоба ў гэтым чыне.

**Падземка**, -і, *ж.* (*уст.*). Падземная чыгунка (пра метрапалітэн).

**Падзёншчык**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы з падзённай аплатай.

**Падзёншчыца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **падзёншчык**.

**Падзёншчына**, -ы, *ж.* (*уст.*). Падзённая работа.

**Падзол**, -у, *м.* Сумесь попелу з вапнай, якая ўжывалася ў гарбарнай прамысловасці.

**Падзячны**, -ая, -ае (*уст.*). Які выказвае падзяку, удзячнасць.

**Падкайданнік**, -а, *м.*; **падкайданнікі**, -аў, *мн.* Падкладка (скураная або з якога-н. іншага матэрыялу) пад **кайданы**.



**Падкамо́ры**, -ага, *м.* Службовая асоба ў ВКЛ.

**Падка́нцлер**, -а, *м.* У ВКЛ у XVI-XVIII ст.: службовая асоба, намеснік **канцлера**.

**Падкідны**, -ая, -ае (*уст.*). Які тайна падкідваецца.

**Падкулацкі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **падкулачніка**.

**Падкулачнік**, -а, *м.* (*савет.*). Селянін, які дзейнічаў згодна з інтарэсамі **кулака**.

**Падкулачніца**, -ы, *ж.* (*савет.*). 1. *Жан.* да **падкулачнік**. 2. Жонка **падкулачніка**.

**Падкухцік**, -а, *м.* Хлопчык, які служыў на кухні.

**Падлітава́ць** (*уст.*). Падпаяць.

**Падлоўчы**, -ага, *м.* (*уст.*). 1. Старшы аб'ездчык; ляснічы. 2. Старшы егер.

**Паднаглядны**, -ая, -ае: *у знач. наз.* **паднаглядны**, -ага, *м.* У царскай Расіі: чалавек, які знаходзіўся пад наглядам.

**Падпаручнік**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: афіцэрскі чын, які рангам ніжэйшы за **паручніка**, а таксама асоба, якая мела гэты чын.

**Падпаручніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **падпаручніка**.

**Падста́ва**, -ы, *ж.* Зменныя коні ў дарозе, а таксама месца змены коней.

**Падстаўны́**, -ая, -ае. Прызначаны для замены (пра коней).

**Падсусед**, -а, *м.*; **падсуседзі**, -яў, *мн.* Беззямельны селянін у ВКЛ у XVI – першай палове XVII ст., які жыў на чужых дварах у вёсках і гарадах.

**Падсценак**, -нка, *м.* (*уст.*). Мураваны выступ у сцяне для ўстойлівасці; ніжняя частка **сцяны**.

**Падушны**, -ая, -ае (*гіст.*). 1. Які бярэцца з кожнага чалавека, з душы. 2. *у знач. наз.* **падушнае**, -ага, *н.* Асабісты падатак з падатковых саслоўяў, уведзеных Пятром I у Расіі.

**Падхарунжы**, -ага, *м.* У Расійскай імперыі: афіцэрскае званне ў казацкіх войсках, роўнае падпрапаршчыку, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Падчашы**, -ага, *м.* Пасада ў ВКЛ. **Падчашы** павінен быў падаваць вялікаму **князю** ВКЛ напоі, папярэдне паспытаўшы іх сам.

**Падымнае**, -ага, *н.* Асноўны дзяржаўны пазямельны падатак у Рэчы Паспалітай у XVII- XVIII ст.

**Паж**, -а, *м.* 1. У сярэднія вякі: падлетак, юнак дваранскага роду, які служыў пры двары караля або буйнога феадала. 2. У царскай Расіі і краінах Заходняй Еўропы: малодшая прыдворная пасада. 3. У царскай Расіі: выхавальнік Пажскага корпуса.

**Пажскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пажа**.

**Пажуіраваць** (*уст.*). Жуіраваць некаторы час.

**Пакаёўка**, -і, *ж.* Служанка, якая прыбірала пакоі і выконвала некаторыя іншыя работы.

**Пакетбот**, -а, *м.* Старадаўняе: марское паштова-пасажырскае судна.

**Пакоі**, -яў, *толькі мн.* Раскошныя жылыя памяшканні ў царскім палацы, багатых панскіх дамах і інш.

**Пала́бы**, -аў, *мн.*; *адз.* **пала́б**, -а, *м.*; **пала́бка**, -і, *ж.* Група заходнеславянскіх плямён, якія

насялялі ўзбярэжжа Балтыйскага мора ад ракі Лабы (Эльбы) да ракі Одры (Одэра) у I – пачатку II тысячагоддзя.

**Палавецкі**, -ая, -ае. Які мае адносіныда **полаўцаў**, уласцівы ім.

**Палавінны**, -ая, -ае (*гіст.*). Заснаваны на аддачы паловы ўраджаю ўласніку зямлі за карыстанне ёю.

**Палавіншчык**, -а, *м.* (*гіст.*). Селянін, які арандуе зямлю напалову.

**Палавіншчына**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Від зямельнай арэнды, пры якой палова сабранага ўраджаю аддаецца ўласніку зямлі за карыстанне ёю.

**Паладзін**, -а, *м.* 1. Доблесны **рыцар**, адданы свайму гаспадару або даме (*уст.*). 2. У сярэдневяковай літаратуры: паплечнік Карла Вялікага або караля Артура.

**Палата**, -ы, *ж.* 1. *звычайна мн.* **палаты**, -аў. Вялікія пышныя пакоі ў палацы; харомы. 2. Назва некаторых дзяржаўных устаноў у Расійскай імперыі.

**Пала́ткі (пала́ці)**, -так, *толькі мн.* Старадаўняе: у сялянскай хаце – насціл з дошак для сну, які робіцца паміж печчу і сцяной.

**Пала́ш**, -а, *м.* Ручная халодная зброя блізкага бою ў выглядзе доўгага (да 90 см) і простага адналязовага клінка, на канцы завостранага з двух бакоў.

**Паліткатаржанін**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: чалавек, сасланы на катаргу за рэвалюцыйную дзейнасць.

**Палітрук**, -а, *м.* (*савет.*). 1. Ва Узброеных Сілах СССР да 1942 г.: асоба, якая кіравала палітычнай работай у падраздзяленнях вайсковых часцей. 2. Ва Узброеных Сілах СССР з 1935 па 1942 г.: воінскае званне для розных катэгорый палітычнага саставу.

**Палітык**, -а, *м.* (*уст.*). Палітычны зняволены.

**Палітычны**, -ая, -ае (*уст.*). Дыпламатычны, прадбачлівы.

**Па́ліца**, -ы, *ж.* Від прасцейшай старажытнай зброі ўдарнага або кідальнага дзеяння.

**Паліцай**, -я, *м.* У час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах здраднік з мясцовага насельніцтва, які служыў ў фашысцкай паліцыі.

**Паліцма́йстар**, -а, *м.* У царскай Расіі і некаторых іншых краінах – начальнік паліцыі ў буйных гарадах.

**Паліцыя**, -і, *ж.* 1. У царскай Расіі і іншых краінах, а таксама ў час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах – сістэма асобых органаў дзяржаўнага апарату для аховы існуючага ладу і ўстаноўленых парадкаў. 2. *зб.* Паліцэйскія. 3. Памяшканне, дзе знаходзяцца паліцэйскія органы; паліцэйскі ўчастак (*разм.*).

**Паліцыянт**, -а, *м.* (*разм.*). Асоба, якая служыць у **паліцыі**; паліцэйскі.

**Палкоўнік**, -а, *м.* (*уст.*). Камандзір палка.

**Пальчатнік**, -а, *м.* (*уст.*). Гандляр пальчаткамі.

**Палю́ддзе**, -я, *н.* У старажытнай Русі: збор даніны з княжацкіх васалаў.

**Паляне**, -ян, *мн.* Усходнеславянскае племянное аб'яднанне, якое ў



VI-IX ст. займала тэрыторыю лесастэпавага Прыдняпроўя паміж вусцямі Дзясны і Росі.

**Паляя́**, -і, *ж.* Помнік усходнеславянскага пісьменства, у якім падаюцца падзеі, зафіксаваныя ў Старым Запавеце.

**Памесны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **памесця**. 2. Які валодае **памесцем**.

**Памесце**, -я, *н.* Асабістае (у адрозненне ад **вотчыны**) зямельнае ўладанне ў феадальнай Расіі да XVIII ст., якое цар даравў за ваенную і іншую службу дзяржаве.

**Памешчык**, -а, *м.* Сярэдні або буйны землеўладальнік у Расіі з XV ст. да пачатку XX ст.

**Памешчыца**, -ы, *ж.* 1. *Жан.* да **памешчык**. 2. Жонка **памешчыка** (*разм.*).

**Памешчыцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **памешчыка**, належыць яму.

**Паморак**, -рка, *м.* (*уст.*). Мор.

**Пампаду́р**, -а, *м.* (*уст.*). Адміністратар-самадур.

**Пампаліт**, -а, *м.* (*савет.*). Памочнік (камандзіра, начальніка) па палітычнай частцы ( да 1942 г.).

**Пан**, -а, *м.* 1. Уладальнік маёнтка, **памешчык** у Расійскай імперыі. 2. Асоба, якая належала да прывілеяваных (чыноўных, арыстакратычных) слаёў грамадства Расійскай імперыі. 3. (*звычайна пры звароце, часта ў клічнай форме* пане). Форма ветлівага звароту або згадвання асобы, якая належала да прывілеяваных слаёў грамадства Расійскай імперыі (*разм.*).

**Панегірык**, -а, *м.* У старажытнай Грэцыі і Рыме: надмагільная пахвальная прамова, якая ўслаўляе подзвігі памерлага.

**Паненчын**, -а. Які належыць **паненцы**.

**Пані**, *нескл.*, *ж.* *Жан.* да **пан**.

**Паніч**, -а, *м.* Сын **пана**; малады **пан**.

**Панна (паненка)**, -ы, *ж.* 1. Незамужняя дачка **пана**. 2. Маладая дзяўчына, якая належала да прывілеяваных слаёў грамадства ў Расійскай імперыі. 3. Форма ветлівага звароту да маладой дзяўчыны, а таксама форма ветлівага ўпамінання маладой дзяўчыны, якая належала да прывілеяваных слаёў грамадства ў Расійскай імперыі.

**Панок**, -нка, *м.* 1. Небагаты **пан**. 2. Форма ветлівага звароту да **пана**.

**Пансіён**, -а, *м.* 1. Дзяржаўная або прыватная закрытая навучальная ўстанова з інтэрнатам і поўным забеспячэннем вучняў у Расійскай імперыі і некаторых іншых краінах. 2. Невялікая гасцініца, у якой жыльцы забяспечваюцца харчаваннем, абслугоўваннем (у Расійскай імперыі і ў некаторых іншых краінах).

**Пансіёнскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **пансіёна**, пансіянераў, належыць **пансіёну**. 2. Звязаны з **пансіёнам**, з навучаннем у ім. 3. Уласцівы **пансіёну**, такі, як у **пансіёне**.

**Пансіянер**, -а, *м.* 1. Навучэнец **пансіёна** (у 1 знач.). 2. Той, хто жыве ў **пансіёне** (у 2 знач.).

**Пансіянерка**, -і, *ж. Жан.* да **пансіянер**.
**Панскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пана**; належыць **пану**.
**Панства**, -а, *н.* 1. *зб.* Паны. 2. Панаванне, улада паноў.
**Панталоны**, -аў, *толькі мн.* (*уст.*). Штаны.
**Пантэон**, -а, *м.* (*уст.*). Назва літаратурных зборнікаў з творамі розных жанраў.
**Панцыр**, -а, *м.* У старажытнасці і ў сярэднявеччы: адзенне ў выглядзе кашулі, зробленае з пераплеценых дробных металічных кольцаў, якім карысталіся для засцярогі ад удараў халоднай зброяй.
**Панцырны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **панцыра**, з'яўляецца **панцырам**.
**Паншчына**, -ы, *ж.* (*гіст.*). 1. Пры прыгонным праве: дармавая прымусовая праца сялян на **пана**. 2. Прыгоннае права (*разм.*).
**Паншчынны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **паншчыны**.
**Папернік**, -а, *м.* (*уст. і разм.*). Рабочы папяровай прамысловасці.
**Паперня**, -і, *ж.* (*уст.*). Папяровая фабрыка.
**Папірус**, -у, *м.* Пісчы матэрыял, які ў старажытнасці і раннім сярэдневякоўі выраблялі з травяністай расліны папірусу, а таксама рукапісы на гэтым матэрыяле.
**Паплаўнічы**, -ага, *м.* Палявы вартаўнік.
**Папрадуха**, -і, *ж.* (*уст.*). 1. Жанчына, якая займаецца ручным прадзеннем. 2. *толькі мн.* **папрадухі**, -дух. Зборышча, якое наладжвала вясковая моладзь для таго, каб папрасці і павесяліцца, попрадкі.
**Папячыцель**, -я, *м.* У Расійскай імперыі: службовая асоба, якая кіравала некаторымі ўстановамі.
**Папячыцельніца**, -ы, *ж. Жан.* да **папячыцель**.
**Папячыцельскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **папячыцельства**.
**Папячыцельства**, -а, *н.* У Расійскай імперыі: установа для аказання дапамогі каму-н.
**Парабак**, -бка, *м.*; **парабкі**, -оў і **па́рабкі**, -аў, *мн.* Наёмны селянін у памешчыцкай гаспадарцы.
**Парабкоўскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **парабка**.
**Парабкоўства**, -а, *н.* Занятак **парабка**.
**Парабчанка**, -і, *ж. Жан.* да **парабак**.
**Паравік**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Паравоз або цягнік з паравозам.
**Парапе́т**, -а, *м.* Вал, насып у крэпасцях для аховы ад ворага.
**Парапе́тны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **парапета**, парапетаў.
**Парахаўніца**, -ы, *ж.* Сумка або пасудзіна, у якой захоўвалі порах.
**Парвеню́**, *нескл.*, *м.* (*уст. зневаж.*). Асоба, якая хутка дасягнула высокага службовага становішча або прабілася ў вышэйшыя слаі грамадства; выскачка.
**Парода**, -ы, *ж.* (*уст.*). Прыналежнасць да якой-н. сацыяльнай групы; сацыяльнае паходжанне.
**Пародзісты**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Надзелены рысамі, якія сведчаць аб арыстакратычным паходжанні. 2. Які з'яўляецца прыкметай такога паходжання.



**Парсу́на**, -ы, *ж.* Жывапісны свецкі партрэт у Расіі канца XVI-XVII ст.
**Партупей-прапаршчык**, -а, *м.* У царскай Расіі: ніжэйшае армейскае званне канца XVIII ст., якое прысвойвалася дваранам, а таксама асоба, якая мела такое званне.
**Партупей-юнкер**, -а, *м.* У царскай рускай арміі: званне, якое прысвойвалася юнкерам за выдатную службу, а таксама асоба, якая мела такое званне.
**Партыкулярны**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Прыватны, неафіцыйны. 2. Цывільны, не форменны (пра вопратку, адзенне).
**Парусьнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто шые парусы.
**Паручнік**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: афіцэрскі чын, рангам вышэйшы за **падпаручніка** і ніжэйшы за **штабс-капітана**, а таксама асоба, якая мае гэтае званне.
**Паручніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **паручніка**.
**Парфірны**, -ая, -ае (*уст. высок.*). Чырвоны, пурпурны.
**Парфумшчык**, -а, *м.* (*уст.*). Парфумер.
**Парфяне**, -фян, *мн.* Старажытныя плямёны, якія жылі на паўночным усходзе Іранскага нагор'я ў першым тысячагоддзі да н.э. і ў першыя стагоддзі н.э.
**Парцыён**, -у, *м.* (*уст. і спец.*). Паёк, порцыя.
**Парцыённы**, -ая, -ае (*уст. і спец.*). Які мае адносіны да **парцыёну**.
**Пасад**, -а, *м.* 1. У старажытнай і сярэдневяковай Русі: гандлёва-прамысловая частка горада, звычайна па-за гарадской сцяной. 2. Прыгарад, прадмесце. 3. У вясельным абрадзе: месца (звычайна дзяжа, пакрытая кажухом), куды садзілі нявесту.
**Пасада**, -ы, *ж.* (*уст.*). Сядзіба.
**Пасаднік**, -а, (*м. уст.*). У старажытнай і сярэдневяковай Русі: намеснік **князя** для кіраўніцтва горадам, вобласцю, а таксама выбраны вечам правіцель горада.
**Пасадніца**, -ы, *ж.* (*гіст.*). 1. *Жан.* да **пасаднік**. 2. Жонка **пасадніка**.
**Пасадніцкі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **пасадніка**, належыць яму.
**Пасадніцтва**, -а, *н.* (*гіст.*). Служба, абавязкі **пасадніка**.
**Пасадскі**, -ая, -ае (*гіст.*). 1. Які мае адносіны да **пасада** (у 1, 2 знач.). 2. *у знач. наз.* **пасадскі**, -ага, *м.* Жыхар **пасада**.
**Пасланнік**, -а, *м.* (*уст. кніжн.*). Пасланец.
**Паслугач**, -а, *м.* (*уст.*). Слуга.
**Паслугачка**, -і, *ж. Жан.* да **паслугач**.
**Пасто́л**, -тала, *м.*; **пасталы́**, -оў, *мн.* Старадаўняе: мяккі сялянскі абутак з цэлага кавалка скуры, які насіўся з анучамі і прывязваецца да ног аборамі.
**Пастара́ль**, -і, *ж.* Жанр у літаратуры і мастацтве Еўропы XIV-XVIII ст., у якім ідылічна паказваецца жыццё пастухоў і пастушак на ўлонні прыроды.
**Пастарунак**, -нка, *м.* Аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі да 1939 г.

**Пастаялец**, -льца, *м.* (*уст. і разм.*). Той, хто часова наймае ў каго-н. жылое памяшканне, кватэру; кватарант.
**Пастаялка**, -і, *ж. Жан.* да **пастаялец**.
**Пастой**, -ю, *м.* Раскватэраванне, стаянка воінскіх часцей у прыватных дамах.
**Пасцельнічы**, -ага, *м.* Прыдворны чын у Рускай дзяржаве XV-XVII ст., асоба, якая адказвала за пасцель **цара**, яго асабістай казной, майстэрняй, дзе шылі адзенне і бялізну **цару**.
**Пасэсар**, -а, *м.* 1. Уладальнік пасэсійнага завода. 2. Арандатар маёнтка або фальварка.
**Пасэсійны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да выкарыстання на прыватнаўласніцкіх заводах працы прыпісаных да гэтых заводаў сялян.
**Пасэсія**, -і, *ж.* (*уст.*). Зямля, якая арэндуецца.
**Пасяленец**, -нца, *м.* У Расійскай імперыі: сасланы на пасяленне чалавек.
**Пасяленне**, -я, *н.* У Расійскай імперыі: пакаранне, высылка на жыхарства ў аддаленую мясцовасць.
**Патароча**, -ы, *ж.* (*уст. абл.*). Здань, пудзіла.
**Патока**, -і, *ж.* (*уст.*). Паток.
**Патранаж**, -у, *м.* (*уст. кніжн.*). Апякунства з боку каго-небудзь.
**Патранат**, -у, *м.* У старажытным Рыме: асобая форма апекі, якая ўстанаўлівала матэрыяльную залежнасць кліентаў (непаўнапраўных ці бедных грамадзян) ад патронаў.
**Патранеса**, -ы, *ж.* Апякунка ў дабрачыннай установе.
**Патрон**, -а, *м.* У старажытным Рыме: асоба, якая брала пад сваю апеку і залежнасць свабодных, але бедных або непаўнапраўных грамадзян.
**Патрыцый**, -я, *м.* (*гіст.*). 1. У старажытным Рыме: прадстаўнік родавай знаці. 2. У сярэднія вякі ў вольных нямецкіх гарадах: асоба, якая належала да багатага бюргерскага роду, які адыгрываў значную ролю ў гарадскім самакіраванні.
**Патрыцыянка**, -і, *ж.* (*гіст.*). *Жан.* да **патрыцый**.
**Патрыцыянскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **патрыцыя**.
**Патрыцыят**, -у, *м.* (*гіст.*). Вышэйшая, найбольш багатая частка насельніцтва сярэдневяковых гарадоў Заходняй Еўропы, якая замацавала за сабою асобныя правы і прывілеі ў гарадской абшчыне (гандляры, ліхвяры, землеўладальнікі).
**Патэнт**, -а, *м.* (*уст.*). Пасведчанне на права займацца гандлем, промыслам.
**Паўаршына**, *м.* Старадаўняе: палова **аршына**.
**Паўбутэлька** (**паўбутэлек**), -і, *ж.* (*разм.*). Мера вадкасцей, роўная 0,3 л, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы.
**Паўвалока**, -і, *ж.* Старадаўняе: мера зямлі, роўная палове **валокі**.
**Паўвярсты**, *ж.* Старадаўняе: палова **вярсты**.



**Паўвяршка**, *м.* Старадаўняе: палова **вяршка**.
**Паўгроша**, *м.* Манета наміналам у ½ **гроша** ў ВКЛ і шэрагу краін Еўропы ў XIV-XVIII ст.
**Паўдзесяціны**, *ж.* Старадаўняе: мера зямлі, роўная палове **дзесяціны**.
**Паўімперыял**, -а, *м.* Залатая манета ў царскай Расіі, роўная палове **імперыяла** (вартасцю 5 рублёў, а пасля 1897 г. – 7 рублёў 50 капеек).
**Паўкапы**, *ж.* Палова **капы**[1]. 1. Грашова-лікавая адзінка ў 30 **грошаў**, пашыраная ў ВКЛ у сярэдзіне XV – другой паловы XVI ст. 2. Лікавая адзінка ў 30 рэчаў, шырока вядомая па кнігах Магілёўскага магістрата ў другой палове XVII ст.
**Паўкварта**, -ы, *ж.* (*разм.*). Старадаўняе: мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная палове **кварты** (0,35 літра).
**Паўморга**, *м.* Старадаўняе: мера зямлі, роўная палове **морга**.
**Паўпанак**, -нка, *м.* (*разм. іран.*). Той, хто лічыць сябе **панам**, паводзіць сябе як **пан**, не маючы на тое падстаў; панскі памагаты.
**Паўпрэд**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: паўнамоцны прадстаўнік (назва дыпламатычнага прадстаўніка СССР пры замежным урадзе, якая існавала да 1941 г.).
**Паўпрэдства**, -а, *н.* (*савет.*). Скарачэнне: паўнамоцнае прадстаўніцтва (назва дыпламатычнага прадстаўніцтва СССР пры замежным урадзе, якая існавала да 1941 г.).
**Паўпуда**, *м.* Старадаўняе: палова **пуда**.
**Паўсотня**, -і, *ж.* Палова **сотні** як вайсковая адзінка казацкага войска ў царскай Расіі.
**Паўтраця**, *нескл.*, *ліч.* (*уст. разм.*). Два з паловай.
**Паўустаў**, -тава, *м.* Адзін з тыпаў пісьма старажытных грэчаскіх і славянскіх рукапісаў, па характары сярэдні паміж **уставам** і **скорапісам** і які адрозніваецца ад **устава** меншай прамізной і правільнасцю літар.
**Паўуставны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **паўустава**. 2. Напісаны **паўуставам**.
**Паўфунта**, *м.* Старадаўняе: палова **фунта**.
**Паўчварта**, *нескл.*, *ліч.* (*уст. разм.*). Тры з паловай.
**Паўштоф**, -а, *м.* Старадаўняе: бутэлька, якая змяшчае палову **штофа** (гарэлкі).
**Паходня**, -і, *ж.* Пераносная свяцільня ў выглядзе ліхтара на доўгім дрэўку або наматанага на канец кія прасмоленага пакулля; факел.
**Пашаптаць** (*уст.*). Сказаць замову.
**Паштмайстар**, -тра, *м.* (*уст.*). Кіраўнік паштовай канторы.
**Паштмайстарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **паштмайстра**.
**Паядынак**, -нку, *м.* У дваранскім грамадстве: узброеная сутычка двух мужчын у прысутнасці секундантаў як спосаб абароны ўласнай годнасці, дуэль.
**Паязджанін**, -а, *м.* (*уст. абл.*). Той, хто знаходзіцца ў дарозе, едзе куды-н.; падарожнік.

**Паязджанка**, -і, *ж. Жан.* да **паязджанін**.
**Пая́ц**, -а, *м.* (*уст.*). Клоун, блазен.
**Пеа́н**, -а, *м.* Хвалебны гімн у старажытнагрэчаскай паэзіі.
**Пена́ты**, -аў, *толькі мн.* (*уст. і жарт.*). Родны дом, кут. [Ад імя пенатаў – старажытнарымскіх багоў, апекуноў дамашняга ачагу].
**Пенсія**, -і, *ж.* (*уст.*). Заработная плата.
**Пенснэ**, *нескл.*, *н.* Акуляры, якія не маюць дужак і трымаюцца на пераноссі пры дапамозе спружынкі.
**Пенязь**, -я, *м.* Манета, грашовалікавая адзінка і сукупны тэрмін для пазначэння грошай у ВКЛ XIV-XVI ст. і Рэчы Паспалітай XVI-XVII ст.
**Пе́плум**, -а, *м.* Верхняе адзенне старажытных грачанак і рымлянак з лёгкай тканіны ў зборкі, без рукавоў, якое надзявалася на **туніку**.
**Перабудова**, -ы, *ж.* (*савет.*). У СССР у 1985-1991 гг.: працэс змен у эканоміцы і грамадскай свядомасці, скіраваны на развіццё дэмакратыі і галоснасці, на заканчэнне халоднай вайны.
**Пераражагнацца** (*уст.*). Перахрысціцца.
**Пераражагнаць** (*уст.*). Перахрысціць.
**Перакладны**, -ая, -ое: *у словазлучэнні* **на перакладных**. У **экіпажы** з конямі, якія мяняліся на паштовых станцыях.
**Пергамент**, -у, *м.* Пісчы матэрыял з цялячай скуры, якім карысталіся да вынаходства паперы, а таксама рукапіс на такім матэрыяле.
**Пергаментны**,-ая, -ае. 1. Зроблены з **пергаменту**. 2. Які мае адносіны да **пергаменту**.
**Перл**, -а, *м.* (*уст.*). Жэмчуг.
**П'еро**, -а, *м.* Персанаж французскага народнага тэатра XVII-XVIII ст.
**Персі**, -яў, *толькі мн.* (*уст. і паэт.*). Грудзі (у чалавека).
**Перст**, -а, *м.* (*уст.*). Палец.
**Першапрастольны**, -ая, -ае. Які з'яўляецца самым старажытным стольным горадам, сталіцай.
**Першародны**, -ая, -ае (*уст.*). Які нарадзіўся першым, самы першы.
**Першародства**, -а, *н.* (*уст.*). Старшынство па нараджэнню сярод братоў.
**Першасвяшчэннік**, -а, *м.* 1. Вярхоўны жрэц у некаторых старажытных народаў. 2. Духоўная асоба вышэйшага стану.
**Петарда**, -ы, *ж.* Разрыўны снарад у выглядзе металічнай ці кардоннай абалонкі, напоўненай порахам.
**Печанегі**, -аў, *мн.* Саюз цюркамоўных плямён у паўночным Прычарнамор'і ў VIII-XII ст.
**Печанежскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **печанегаў**.
**Піваварня**, -і, *ж.* (*уст.*). Піваварны завод.
**Піка**, -і, *ж.* Колючая халодная зброя, якая з часоў старажытнасці была на ўзбраенні пяхоты і кавалерыі; разнавіднасць доўгага **кап'я**.
**Пікет**, -а, *м.* Гульня ў карты.



**Пілігрым**, -а, *м.* (*уст. кніжн.*). Паломнік, вандроўны багамолец.
**Пілігрымка**, -і, *ж.* (*уст. кніжн.*). *Жан.* да **пілігрым**.
**Пілігрымскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пілігрыма**.
**Пірожнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто пячэ або прадае пірагі.
**Пірожніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **пірожнік**.
**Пісар**, -а, *м.* Службовая асоба ва ўстановах дзяржаўнага і судовага апарата ВКЛ у XIV-XVIII ст.
**Пісарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пісара**, уласцівы **пісару**.
**Пісарства**, -а, *н.* (*разм.*). Занятак, пасада **пісара**.
**Пісарчук**, -а, *м.* (*разм.*). Памочнік **пісара**.
**Пісарыха**, -і, *ж.* (*разм.*). 1. Жонка **пісара**. 2. *Жан.* да **пісар**.
**Піса́цца** (*уст.*). Лічыцца кім-, чым-н., называць сябе як-н. у дакументах, афіцыйных паперах.
**Пістоль**[1], -я, *м.* Іспанская залатая манета, якая чаканілася ў XVI-XVIII ст.
**Пістоль**[2] (**пістоля**), -я, *м.* (*уст.*). Пісталет.
**Пісцовы**, -ая, -ае (*гіст.*). У якім былі перапісаны розныя аб'екты для абкладання падаткамі (пра помнікі справавога пісьменства XV-XVII ст.).
**Пісьмавод**, -а, *м.* (*уст.*). Служачы ў канцылярыі, справавод.
**Пісьмаводства**, -а, *н.* (*уст.*). Вядзенне карэспандэнцыі, справаводства.
**Пісьме́нства**, -а, *н.* (*уст.*). Пісьменнасць.
**Пісьмёны**, -аў, *толькі мн.* 1. Пісьмовыя знакі, літары, пераважна старажытныя. 2. Сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісьма; тое, што напісана з дапамогай гэтых знакаў.
**Пісьмоўнік**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Зборнік узораў пісьмаў рознага зместу. 2. У XVIII ст.: кніга, даведнік для самаадукацыі па мове і літаратуры.
**Піўнічы**, -ага, *м.* Пасада (урад) у ВКЛ. Загадваў велікакняжацкімі піўніцамі, сачыў за якасцю і пастаўкамі піва да стала вялікага **князя** ВКЛ.
**Піфагарэец**, -рэйца, *м.* (*гіст.*). Вучань і паслядоўнік заснавальніка старажытнагрэчаскай рэлігійна-філасофскай школы Піфагора.
**Піфагарэйскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **піфагарэйства**, да піфагарэйцаў.
**Піфагарэйства**, -а, *н.* (*гіст.*). Вучэнне старажытнагрэчаскага філосафа Піфагора, які лічыў, што лік ёсць сутнасць усіх рэчаў, а Сусвет з'яўляецца гарманічнай сістэмай лікаў і іх узаемаадносін.
**Пішчаль**, -і, *ж.* Агульнаўсходнеславянская назва ружжа і артылерыйскай гарматы канца XIV-XVII ст.
**Пішчальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пішчалі**.
**Піянер**, -а, *м.* 1. Салдат інжынерных войск у Францыі, Англіі, Германіі і да пачатку XIX ст. у Расіі; сапёр (*уст.*). 2. Член дзіцячай арганізацыі ў былым СССР і шэрагу дзіцячых

арганізацый у іншых краінах (ад 10 да 16 гадоў) (*савет.*).
**Піянерка**, -і, *ж.* (*савет.*). *Жан.* да **піянер**.
**Піянерскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **піянера**.
**Піянерважаты**, -ага, *м.* (*савет.*). Кіраўнік піянерскага атрада або дружыны.
**Піястр**, -а, *м.* Старажытная грашовая адзінка розпай вартасці ў Іспаніі, Партугаліі і лацінаамерыканскіх краінах.
**Плазма**, -ы, *ж.* (*уст.*). Пратаплазма.
**Плакальшчык**, -а, *м.* У пахавальным абрадзе – мужчына, якога наймалі плакаць па памерлым.
**Плакальшчыца**, -ы, *ж.* (*уст. і разм.*). *Жан.* да **плакальшчык**.
**Плакат**, -а, *м.* (*гіст.*). Пашпарт, які выдаваўся сялянам і мяшчанам у Расійскай імперыі.
**Плакучы**, -ая, -ае (*уст.*). Плаксівы.
**Планіда (планета)**, -ы, *ж.* (*уст. разм.*). Доля, лёс.
**Пластун**, -а, *м.* Казак асобых пяхотных часцей Чарнаморскага і Кубанскага казачых войск, якія камплектаваліся ў XIX – пачатку XX ст. з ліку добраахвотнікаў-разведчыкаў, што спецыялізаваліся на старажавой службе ў чаратах і плаўнях Кубані.
**Плаха**, -і, *ж.* Старадаўняе: вялікая калода, на якой адсякалі галаву прыгаворанаму да пакарання смерцю, а таксама памост, на якім адбывалася пакаранне.
**Плац-парад**, -а, *м.* (*уст.*). Пляцоўка для ваенных вучэнняў, парадаў.
**Плебей**, -я, *м.* 1. У старажытным Рыме: чалавек ніжэйшага саслоўя, асабіста свабодны, але пазбаўлены першапачаткова грамадзянскіх і палітычных правоў. 2. У буржуазна-дваранскім жаргоне: чалавек не арыстакратычнага паходжання.
**Плебейка**, -і, *ж.* *Жан.* да **плебей**.
**Плебейскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **плебея**, належыць яму.
**Плебейства**, -а, *н.* 1. *зб.* Плебеі. 2. Плебейскае паходжанне.
**Плебісцыт**, -у, *м.* У старажытным Рыме: закон або рашэнне, прынятае сходам плебеяў.
**Плебісцытны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **плебісцыту**.
**Племя, племя і племені**, *н.* (*уст.*). 1. Род, сям'я. 2. Народ, нацыянальнасць.
**Плерэзы**, -аў, *толькі мн.* 1. Жалобныя нашыўкі на рукавах або на каўняры. 2. Упрыгожанне з страусавых пёраў на жаночых капелюшах.
**Пліс**, -у, *м.* (*уст.*). Старадаўняе: бавоўняная варсістая тканіна, падобная да аксаміту; бавоўняны аксаміт.
**Плісавы**, -ая, -ае (*уст.*). Зроблены з **плісу**.
**Плоць**, -і, *ж.* (*уст.*). Цела.
**Плывец, плыўца**, *м.* (*уст.*). Той, хто плавае на якім-н. судне.
**Пляц**, -а, *м.* (*гіст.*). Плошча для ваенных парадаў і страявых заняткаў.



**Подаць**, -і, *ж.* (*гіст.*). Падушны падатак, які плацілі сяляне і мяшчане ў Расійскай імперыі.
**Подый**, -я, *м.* (*гіст.*). Узвышэнне ў старажытнарымскім цырку з крэсламі для **імператара**, сенатараў і іншых высокапастаўленых асоб.
**Полаўцы**, -аў, *мн.*; *адз.* **полавец**, -а, *м.*; **палаўчанка**, -і, *ж.* Група плямён цюркскага паходжання, якія качавалі на паўднёвым усходзе Еўропы ў XI–пач. XIII ст.
**Поліс**, -а, *м.* (*гіст.*). Горад-дзяржава; асаблівы тып антычнага горада, грамадства і дзяржавы, які склаўся ў Грэцыі ў сярэдзіне першага тысячагоддзя да н.э.
**Політыпаж**, -а, *м.* Адбітак гравюры на дрэве ў тэксце кнігі.
**По́ртэрны**, -ая, -ае: *у знач. наз.* **по́ртэрная**, -ай, *ж.* (*уст.*). Піўная.
**Поручы**, -аў, *толькі мн.* Старадаўняе: частка брані або лат, якая ахоўвала рукі ад локця да кісці.
**Поршань**, -шня, *м.*; **поршні**, -яў, *мн.* Старадаўняе: абутак з кавалка ялавай або свіной сырамятнай скуры, сабранай на ступні абораю; тое, што і **пастол**.
**Послух**, -а, *м.* (*гіст.*). Сведка на судзе ў старажытнай Русі.
**Праваcхадзіцельства**, -а, *н.* У Расійскай імперыі: тытулаванне некаторых вышэйшых чыноў і іх жонак (ужывалася з займеннікамі *ваша*, *яго*, *яе*, *іх*).
**Праведнасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Уласцівасць **праведнага**.
**Праведнік**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які жыве па запаведзях якой-н. рэлігіі.
**Праведніца**, -ы, *ж.* (*уст. і іран.*). *Жан.* да **праведнік**.
**Праведны**, -ая, -ае (*уст.*). Які не парушае правіл рэлігійнай маралі.
**Правінцыя**, -і, *ж.* 1. Заваяваная старажытнымі рымлянамі тэрыторыя. 2. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расіі XVIII ст. і ў некаторых краінах зараз. 3. Мясцовасць, аддаленая ад сталіцы; перыферыя (*уст.*).
**Правінцыял**, -а, *м.* (*уст.*). Жыхар **правінцыі** (у 3 знач.).
**Правінцыялізм**, -у, *м.* (*уст.*). Погляды і манеры, звязаныя з жыццём у глухой мясцовасці, **правінцыі**.
**Правінцыялка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **правінцыял**.
**Правінцыяльны**, -ая, -ае (*уст.*). Які знаходзіцца ў **правінцыі** (у 3 знач.).
**Правіянт**, -у, *м.* (*уст.*). Прадукты для арміі.
**Правіянцкі**, -ая, -ае (*уст.*). 1. Які мае адносіны да **правіянту**. 2. Прызначаны для **правіянту**.
**Прагімназія**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі: няпоўная сярэдняя агульнаадукацыйная ўстанова.
**Прагностыка**, -і, *ж.* (*уст.*). Прагноз.
**Прадвадзіцель**, -я, *м.*: *у словазлучэнні* **прадвадзіцель дваранства**. У Расійскай імперыі: прадстаўнік **дваранства**, які выбіраўся губернскім ці павятовым дваранскім сходам.
**Прадвадзіцельскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прадвадзіцеля**.

**Прадвадзіцельства**, -а, *н.* Званне, пасада **прадвадзіцеля дваранства** ў Расійскай імперыі.

**Прадвясціць** (*уст.*). Сказаць наперад аб тым, што будзе, што павінна здарыцца.

**Прадзільня**, -і, *ж.* Прадзільная фабрыка або майстэрня.

**Прадмет**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Чалавек, які выклікае пачуццё любові да сябе.

**Прадпарламент**, -а, *м.* (*гіст.*). Часовы савет рэспублікі – дарадчы орган пры Часовым урадзе ў Расіі, вылучаны ў верасні 1917 г. з так званай Дэмакратычнай нарады.

**Прадпіса́нне**, -я, *н.* (*уст.*). Пісьмовае распараджэнне, загад.

**Пражэкт**, -а, *м.* (*уст.*). Праект, план.

**Праконсул**, -а, *м.* (*гіст.*). Намеснік **правінцыі** ў старажытным Рыме.

**Праконсульскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **праконсула**.

**Праконсульства**, -а, *н.* (*гіст.*). 1. Пасада **праконсула**. 2. Час кіравання **праконсула**. 3. Вобласць, якою кіруе **праконсул**.

**Практыка**, -і, *ж.* (*уст.*). Пра работу ўрача (або юрыста) па сваёй спецыяльнасці (звычайна па-за ўстановай).

**Практыкаваць** (*уст.*). Займацца ўрачэбнай ці юрыдычнай практыкай.

**Пракуратар**, -а, *м.* 1. У старажытным Рыме: асоба, якая кіравала чыёй-н. маёмасцю, **маёнткам**, гаспадаркай і пад. 2. У старажытным Рыме: імператарскі чыноўнік, які ведаў фінансамі, зборам падаткаў, харчаваннем і пад.; намеснік у невялікіх правінцыях з вышэйшай адміністрацыйнай і судовай уладай. 3. Прафесійны юрыст-паверааны ў ВКЛ, які займаўся адвакацкай практыкай.

**Пралетарый**, -я, *м.* У старажытным Рыме: грамадзянін, які належаў да саслоўя незаможных.

**Пралетку́льт**, -а, *м. савет.*). Літаратурна-мастацкая і культурна-асветніцкая арганізацыя 1917-1932 гг. у СССР, якая праводзіла заганныя ідэі ўтварэння пралетарскай культуры "лабараторным" шляхам.

**Пралетку́льтавец**, -таўца, *м.* (*савет.*). Член **пралетку́льта**, прыхільнік **пралетку́льта**.

**Пралетку́льтаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **пралетку́льта**.

**Пралётка**, -і, *ж.* Старадаўняе: лёгкі адкрыты двухмесны **экіпаж**.

**Пралётны**, -ая, -ае (*уст. паэт.*). Які хутка праходзіць, праносіцца; мімалётны.

**Прамудрасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Глыбокая мудрасць.

**Прамудры**, -ая, -ае (*уст.*). Які валодае высокай мудрасцю, вельмі мудры.

**Прапазіцыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Прапанова.

**Прапаршчык**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: самы малодшы армейскі афіцэрскі чын, а таксама асоба ў гэтым чыне.

**Прапаршчыцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прапаршчыка**, належыць яму.



**Прарака́льнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто прадказвае будучае; астролаг, прадракальнік.

**Прарака́льніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **прарака́льнік**.

**Прасемінарый**, -я, *м.* Практычныя заняткі ў вышэйшых навучальных установах, мэтай якіх з'яўляецца падрыхтоўка студэнтаў да работы на семінарах.

**Праскрыпцыя**, -і, *ж.* (*гіст.*). У старажытным Рыме: публічнае асуджэнне палітычных праціўнікаў з абвяшчэннем іх па-за законам, а таксама спісы асоб, абвешчаных па-за законам.

**Прасталюдзін**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: чалавек, які належыць да непрывілеяванага саслоўя (селянін, рабочы, мешчанін).

**Пратакаліст**, -а, *м.* Чыноўнік, які вядзе пратаколы.

**Пратэктар**, -а, *м.* (*уст.*). Апякун, заступнік.

**Працадзень**, -дня, *м.* (*савет.*). Адзінка ўліку працы калгаснікаў і размеркавання даходаў па працы ў калгасах.

**Пра́шча**, -ы, *ж.* Старажытная ручная зброя для кідання камянёў.

**Пра́шчнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Воін, узброены **пра́шчай**.

**Прашэнне**, -я, *н.* (*уст.*). 1. Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н. па афіцыйна ўстаноўленай форме.

**Пропуск**, -а, *м.* (*уст.*). Пароль.

**Простанароддзе**, -я, *н. зб.* У Расійскай імперыі: людзі, якія належаць да непрывілеяваных класаў.

**Простанароднасць**, -і, *ж.* Уласцівасць **простанароднага**; наяўнасць рыс, характэрных для простага народа.

**Простанародны**, -ая, -ае. Які належыць, уласцівы працоўнаму народу, непрывілеяваным класам.

**Просты**, -ая, -ае. Які належыць да непрывілеяваных класаў, недваранскі.

**Просьбіт**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто звяртаецца з просьбай, прашэннем да каго-н. або куды-н.

**Просьбітка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **просьбіт**.

**Протары**, -аў, *толькі мн.* (*уст.*). Выдаткі, расходы (звычайна па судовых справах).

**Процьма**, -ы, *ж.* (*уст.*). Бездань, прорва.

**Пруданізм**, -у, *м.* (*гіст.*). Дробнабуржуазная сацыялістычная плынь другой паловы XIX ст., накіраваная супраць рэвалюцыйнага рабочага руху, за ўтапічнае зліццё пралетарыяту і буржуазіі ў адзін клас.

**Пруданіст**, -а, *м.* Прыхільнік **пруданізму**.

**Пруданісцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **пруданізму** і **пруданіста**, уласцівы ім.

**Прусацтва**, -а, *н.* Рэакцыйны, мілітарысцкі, паліцэйска-бюракратычны рэжым, які панаваў у былой Прускай дзяржаве і Германскай імперыі.

**Прусы**, -аў, *мн.*; *адз.* **прус**, -а, *м.*; **прусачка**, -і, *ж.* Група балтыйскіх плямён, якія насялялі паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем рэк Віслы і Нёмана і былі заваяваны ў XIII ст. нямецкімі рыцарамі.

**Прыват-дацэнт**, -а, *м*. У вышэйшых навучальных установах царскай Расіі: пазаштатны выкладчык, роўны па званню дацэнту, а таксама асоба, якая мае гэта званне.
**Прыве́ціць** (*уст. разм*.). Прыязна, ласкава сустрэць каго-небудзь.
**Прывілея**, -і, *ж*. У ВКЛ, Рэчы Паспалітай і іншых феадальных дзяржавах у XIV-XVII ст.: грамата, якая выдавалася асобам, класам, гарадам на выключнае права ў карыстанні чым-н.
**Прыгаварыць** (*уст*.). Прывараджыць.
**Прыгавор**, -у, *м*. (*уст*.). Варажба, чараўніцтва.
**Прыгаворны**, -ая, -ае (*уст*.). Які мае адносіны да **прыгавору**; чараўнічы.
**Прыганяты**, -ага, *м*. Слуга **памешчыка**,які наглядаў за працай сялян у час прыгону; **цівун**.
**Прыгарад**, -а, *м*. У старажытнай Русі: горад, пасяленне, якія адміністрацыйна і эканамічна падпарадкоўваюцца больш буйному гораду.
**Прыгон**, -у, *м*. 1. Грамадскі лад, заснаваны на прыгонным праве; **прыгонніцтва**. 2. Дармавая прымусовая праца сялян на **памешчыка** ў часы прыгоннага права; **паншчына**.
**Прыгоннік**, -а, *м*. 1. **Памешчык**, які карыстаўся прыгонным правам, меў прыгонных сялян. 2. Рэакцыянер, прыхільнік **прыгону**.
**Прыгонніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прыгонніка**, **прыгонніцтва**.
**Прыгонніцтва**, -а, *н*. Грамадскі лад, заснаваны на прыгонным праве.
**Прыгонны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **прыгону**. 2. Які з'яўляецца ўласнасцю **памешчыка**-прыгонніка, належыць яму.
**Прыказ**, -а, *м*. Установа, якая ведала асобнай галіной кіраўніцтва ў Маскоўскай Русі XVI-XVII ст.
**Прыказны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прыказа**.
**Прыказчык**, -а, *м*. 1. Наёмны служачы ў **купца** або ў гандлёвай установе, які выконваў даручэнні гандлёвага характару і па даручэнні гаспадара гандляваў у магазіне; прадавец. 2. Служачы ў **маёнтку**, які кіраваў гаспадаркай **памешчыка** і выконваў розныя гаспадарчыя даручэнні.
**Прыказчыца**, -ы, *ж*. 1. *Жан*. да **прыказчык** (у 1 знач.). 2. Жонка **прыказчыка**.
**Прыказчыцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прыказчыка**; такі, як у **прыказчыка**.
**Прымаўляць** (*уст*.). Угаворваць каго-н. што-н. зрабіць.
**Прымус**, -а, *м*. Награвальны прыбор з помпай, якая падае газу ў гарэлку.
**Прымусны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прымуса**, прызначаны для **прымуса**.
**Прынос**, -у, *м*. (*уст*.). Падарунак.
**Прынцыпал**, -а, *м*. (*уст*.). Начальнік, гаспадар у адносінах да падначаленых.
**Прынцыпат**, -у, *м*. У старажытным Рыме: дзяржаўны лад, пры якім захоўваліся рэспубліканскія ўстановы, але фактычна ўлада належала імператару, які лічыўся першым сярод роўных.



**Прыслуга**, -і, *ж*. 1. Служанка, хатняя работніца (*уст*.). 2. *зб*. Слугі.
**Прыслужваць** (*уст*.). Выконваць абавязкі **слугі**, служанкі.
**Прыслужнік**, -а, *м*. (*уст*.). Той, хто прыслужвае; **слуга**.
**Прыстаў**, -става, *м*. 1. У Расійскай імперыі: начальнік мясцовай паліцыі. 2. У Расійскай імперыі: службовая асоба, якая была прыстаўлена да каго-н., чаго-н. для нагляду.
**Прысяжны**, -ая, -ае. Які прыняў прысягу, прысягнуў каму-н.
**Прытулак**, -лку, *м*. У Расійскай імперыі: дабрачынная ўстанова для сірот, беспрытульных дзяцей, старых і інш.
**Прышэсце**, -я, *н*. (*уст*.). Прыход, з'яўленне.
**Прэзент**, -а, *м*. (*уст. і разм*.) Падарунак, гасцінец.
**Прэзентаваць** (*уст. і разм*.). Даць (даваць) у **прэзент**, падараваць (дараваць).
**Прэмія**, -і, *ж*. У Расійскай імперыі: бясплатны дадатак да часопіса або газеты, а таксама бясплатная прыдача пры пакупцы некаторых тавараў.
**Прэтар**, -а, *м*. У старажытным Рыме: прадстаўнік вышэйшай судовай улады.
**Прэтарыянскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **прэтарыянцаў**.
**Прэтарыянец**, -нца, *м*.; **прэтарыянцы**, -аў, *мн*. У старажытным Рыме: першапачаткова салдат асабістай варты **прэтара**, а потым – салдат імператарскай гвардыі.
**Прэфект**, -а, *м*. У старажытным Рыме: назва розных адміністрацыйных і вайсковых пасад, а таксама асоб, якія займалі гэтыя пасады.
**Прэфектура**, -ы, *ж*. Адзінка адміністрацыйнага падзелу ў Рымскай імперыі.
**Псяр**, -а, *м*. Наглядчык за гончымі і ўдзельнік палявання.
**Псярня**, -і, *ж*. Асобнае памяшканне для сабак (пераважна паляўнічых), сабакарня.
**Пуд**, -а, *м*. Старажытная адзінка масы (16,38 кг) у Беларусі і Расіі, якая афіцыйна выкарыстоўвалася да 1924 г. пры ўзважванні зерня, мёду, воску і інш.
**Пудовы**, -ая, -ае. Які важыць адзін **пуд**; ёмістасцю ў адзін **пуд**.
**Пурпу́р**, -у, *м*. 1. Натуральная каштоўная фарба чырвона-фіялетавага колеру, якая ўжывалася ў старажытнасці для афарбоўкі тканіны. 2. Дарагое адзенне або тканіна ярка-чырвонага колеру з фіялетавым адценнем.
**Пурпуровы** (**пурпурны**), -ая, -ае. Які мае колер **пурпуру**, афарбаваны ў **пурпур**.
**Пурытанізм**, -у, *м*. Рэлігійна-палітычны рух англійскай буржуазіі ў XVI-XVII ст., накіраваны супраць абсалютызму і элементаў каталіцызму ў англійскай царкве.
**Пустэльнік**, -а, *м*. (*уст*.). Чалавек, які з рэлігійных меркаванняў адмовіўся ад зносін з людзьмі і пасяліўся ў бязлюдным месцы.
**Путы**, -аў, *толькі мн*. Вяроўкі, **кандалы**, якімі звязваюць каго-н., каб пазбавіць свабоды рухаў.

**Пушкар**, -а, *м.* (*уст.*). Артылерыст.

**Пядзя**, -і, *ж.* Старажытная мера даўжыні ў Беларусі і Расіі, роўная максімальнай адлегласці па прамой лініі паміж канцамі выцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў рукі чалавека.

**Пяро**, -а, *н.* Завостранае вялікае птушынае пяро, якое ўжывалася для пісання чарнілам да паяўлення металічных пёраў.

**Пярэхрыст**, -а, *м.* (*уст.*). Пра таго, хто перайшоў у хрысціянства з іншай рэлігіі.

**Пясочніца**, -ы, *ж.* 1. Пасудзінка з пяском для пасыпання і высушвання напісанага чарнілам. 2. Урна, плявальніца з пяском.

**Пяцідзесятнік**, -а, *м.* Прагрэсіўны грамадскі дзеяч пяцідзесятых гадоў XIX ст. у Расійскай імперыі.

**Пя́ціна**, -ы, *ж.* Адзін з пяці адміністрацыйных раёнаў, на якія падзялялася Ноўгарадская зямля ў канцы XV ст.

**Пяціпудовы**, -ая, -ае. Які мае пяць **пудоў** вагі.

## Р

**Раброн**, -а, *м.* Старадаўняе: жаночая сукенка з крыналінам.

**Рабселькораўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **рабселькораў**.

**Рабселькор**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: рабочы і сельскі карэспандэнт.

**Рабфак**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: рабочы факультэт (у СССР з 1919 г. да канца 30-х гадоў: агульнаадукацыйная ўстанова для паскоранай падрыхтоўкі рабочых і сялян да навучання ў вышэйшай школе).

**Рабфакавец**, -каўца, *м.* (*савет.*). Навучэнец **рабфака**.

**Рабфакаўка**, -і, *ж.* (*савет.*). *Жан.* да **рабфак**.

**Рабфакаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **рабфака**.

**Равендук (равентух)**, -а, *м.* Старадаўняе: грубая льняная тканіна, парусіна, якая ўжывалася пераважна для парусоў.

**Рагатка**, -і, *ж.* Старадаўняе: жалезны нашыйнік з доўгімі вастрыямі ўнутры, што надзявалі на шыю каму-н. як пакаранне за правіннасць.

**Рага́ціна**, -ы, *ж.* Старажытная халодная зброя, разнавіднасць **дзіды, пікі** або **кап'я**, з шырокім масіўным двухбаковавострым накашечнікам, насаджаным на дрэўка.

**Рага́ч**, -а, *м.* Старадаўняе: драўляная **саха** (у 1 знач.); драўляная частка **сахі** (у 1 знач.).

**Рада**, -ы, *ж.* Народны сход, а таксама савет прадстаўнікоў у розныя гістарычныя перыяды на Беларусі, Украіне, у Літве, Польшчы.

**Радавітасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Прыналежнасць да старога знатнага роду; знатнасць.

**Радавіты**, -ая, -ае (*уст.*). Які належыць да старога знатнага роду.

**Радзімічы**, -аў, *мн.*; *адз.* **радзіміч**, -а, *м.* Саюз усходнеславянскіх плямён, якія ў першым тысячагоддзі займалі міжрэчча



Дняпра і Дзясны па цячэнню ракі Сож і яе прытокаў, а ў XII ст. – большую частку тэрыторыі ў Чарнігаўскай і паўночную частку – у Смаленскіх землях.

**Ра́дца**, -ы, *м.* Выбарны член ад багатых гарадскіх вярхоў у **раду (магістрат)** на Беларусі ў XIV-XVIII ст.

**Рае́шнік**, -а, *м.* Акцёр, які паказвае **раёк** (у 1, 2 знач.).

**Раёк**, **райка**, *м.* 1. Скрынка з павелічальным шклом для разглядвання малюнкаў, а таксама паказ такіх малюнкаў на кірмашах XVIII-XIX ст., які суправаджаўся жартоўнымі тлумачэннямі. 2. Лялечны тэатр (*уст.*). 3. Верхні ярус глядзельнай залы ў тэатры (*уст.*).

**Ражон**, -жна, *м.* (*уст.*). Востры кій.

**Раз'езд**, -у, *м.* Невялікая конная часць (не болей эскадрона), якая высылаецца для разведкі, аховы або сувязі з іншымі часцямі.

**Разлітава́цца** (*уст.*). Распаяцца.

**Разлітава́ць** (*уст.*). Распаяць.

**Разнамыснасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Нязгода ў думках; несупадзенне перакананняў.

**Разнамысны**, -ая, -ае (*уст.*). Які ў думках неаднолькавы з кім-н.

**Разначынец**, -нца, *м.* У Расіі ў XVIII-XIX ст.: прагрэсіўна настроены інтэлігент не дваранскага паходжання, а з дробнага чыноўніцтва.

**Разначынны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **разначынца, разначынцаў**.

**Разрад**, -у, *м.* Цэнтральная ўрадавая ўстанова ў Рускай дзяржаве XVI-XVII ст., якая ведала служылымі людзьмі, вайсковымі справамі і кіраўніцтвам паўднёвых гарадоў і паветаў.

**Разрадны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **разраду**.

**Разьбяр**, -а, *м.* (*уст.*). Скульптар.

**Разьбярскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **разьбяра**.

**Разьбярства**, -а, *н.* (*уст.*). Разьбярская справа.

**Ра́ме**, -я, *н.*; **рамёны**, **рамён**, *мн.* (*уст.*). Плячо.

**Рамеснік**, -а, *м.* 1. Чалавек, які займаецца саматужным рамяством. 2. Вучань рамеснага вучылішча (*разм.*).

**Рамесніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **рамеснік**.

**Рамесніцкі**, -ая, -ае. 1. Тое, што і **рамесны**. 2. Які мае адносіны да **рамесніка** (у 2 знач.), уласцівы яму.

**Рамесніцтва**, -а, *н.* Занятак рамяством, саматужнай работай.

**Рамеснічаць** (*разм.*). Займацца рамяством; быць **рамеснікам** (у 1 знач.).

**Рамесны**, -ая, -ае. 1. Які з'яўляецца **рамяством**, мае адносіны да **рамяства**. 2. *у словазлучэнні* **рамеснае вучылішча**. Вучылішча, якое рыхтавала кадры кваліфікаваных рабочых у СССР (у 1940-1958 гг.).

**Рамізнік**, -а, *м.* 1. **Фурман** наёмнага **экіпажа**. 2. **Экіпаж** з **фурманам**.

**Рамізніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рамізніка, рамізніцтва**.

**Рамізніцтва**, -а, *н.* Занятак **рамізніка**.

**Рандэву**, *нескл.*, *н.* (*уст. разм.*). Раней дамоўленае спатканне (пераважна любоўнае).
**Раскол**, -у, *м.* (*царк.*). 1. Рэлігійна-грамадскі рух у Расіі, які ўзнік у сярэдзіне XVII ст., быў накіраваны супраць царквы і закончыўся ўтварэннем шэрагу сект. 2. Стараверства.
**Раскольнік**, -а, *м.* (*царк.*). Член адной з раскольніцкіх сект, **старавер**.
**Раскольніца**, -ы, *ж.* (*царк.*). *Жан.* да **раскольнік**.
**Раскольніцкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **раскольніка**, належыць або ўласцівы яму. 2. Які складаецца з **раскольнікаў**.
**Раскольніцтва**, -а, *н.* (*царк.*). Тое, што і **раскол** (у 1 знач.).
**Раскулачыць** (*савет.*). Пазбавіць зямлі і сродкаў вытворчасці (**кулака**, кулакоў).
**Ратáй**, -я, *м.* (*уст.*). Араты.
**Ратáйскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **ратая́**, уласцівы яму.
**Рáтман**, -а, *м.* (*гіст.*). Член органа гарадскога ўпраўлення (**магістрата, ратушы**) у царскай Расіі ў XVIII-XIX ст.
**Рáтнік**, -а, *м.* 1. Воін, баец (*уст. і высок.*). 2. У царскай Расіі: радавы салдат дзяржаўнага апалчэння.
**Рáтны**, -ая, -ае (*уст. і высок.*). Ваенны, баявы.
**Ратонда**, -ы, *ж.* Верхняе жаночае цёплае адзенне ў выглядзе доўгай накідкі без рукавоў, распаўсюджанае ў канцы XIX – пачатку XX ст.
**Ратуша**, -ы, *ж.* 1. Орган самакіравання ў гарадах феадальнай Заходняй Еўропы. 2. Орган гарадскога самакіравання ў ВКЛ у XIV-XVII ст., а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся.
**Раут**, -у, *м.* (*уст.*). Урачысты, званы вечар без танцаў; прыём.
**Рацъ**, -і, *ж.* (*уст. і паэт.*). 1. Войска, ваенны атрад. 2. Бітва, вайна.
**Розга**, -і, *ж.* 1. Тонкая гнуткая галінка, дубец як прылада для пакарання. 2. Удары, пакаранне такімі дубцамі.
**Ромб**, -а, *м.* (*савет.*). Назва знака адрознення такой формы на пятліцах у вышэйшага каманднага саставу Савецкай арміі да 1943 г.
**Рондаль**, -я, *м.* (*уст.*). Каструля з ручкай.
**Ростр**, -а, *м.* (*гіст.*). Таран у выглядзе галавы якой-н. жывёлы на насавой частцы старажытнарымскага ваеннага карабля для нанясення ўдараў караблю праціўніка.
**Ростра**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Трыбуна на форуме старажытнага Рыма, упрыгожаная насамі караблёў, захопленых у непрыяцеля.
**Ротмістр**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: афіцэрскі чын у кавалерыі, які адпавядаў чыну капітана ў пяхоце, а таксама асоба ў гэтым чыне.
**Ротмістрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ротмістра**.
**Рудакоп**, -а, *м.* (*уст.*). Горнарабочы ў рудніку; шахцёр.
**Рудня**, -і, *ж.* (*уст.*). Прамысловае прадпрыемства, дзе здабывалі або плавілі руду.
**Ружэйнік**, -а, *м.* Воін, узброены ружжом.



**Рукапіс**, -у, *м.* Рукапісны помнік старажытнага пісьменства.
**Рукапісны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рукапісу**; прызначаны для захоўвання **рукапісаў**.
**Руны, рун**, *мн.*; *адз.* **руна**, -ы, *ж.* 1. Старажытныя пісьмёны, якімі карысталіся пераважна скандынавы і якія захаваліся ў надпісах на камянях і іншых прадметах. 2. Народныя песні ў карэлаў, фінаў і эстонцаў.
**Русаллі**, -лляў, *толькі мн.* У старажытных славян: вясновыя паганскія святкаванні, звязаныя з культам продкаў.
**Русальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **русалляў**.
**Русіфікацыя**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі: гвалтоўнае распаўсюджанне рускай мовы і культуры сярод нацыянальных меншасцей.
**Рыгсдаг**, -а, *м.* (*гіст.*). Дацкі парламент (да 1953 г.).
**Рыдван**, -а, *м.* Старадаўняе: вялікая дарожная карэта.
**Рыдыкюль**, -я, *м.* (*уст.*). Ручная жаночая сумачка.
**Рымлянін**, -а, *м.*; **рымляне**, -ян, *мн.* Грамадзянін старажытнай Рымскай дзяржавы.
**Рындa**[1], -ы, *м.* На Русі ў сярэднія вякі: воін царскай прыдворнай аховы.
**Рындa**[2], -ы, *ж.*: *у словазлучэнні* **рынду біць** (*спец.*). На гандлёвых суднах у старадаўнія часы, а таксама ў парусным флоце: тройчы ўдарыць у звон роўна ў поўдзень.
**Рытар**, -а, *м.* 1. Прамоўца і настаўнік тэорыі красамоўства ў старажытнай Грэцыі і старажытным Рыме. 2. Настаўнік рыторыкі ў брацкіх школах на Беларусі і Украіне ў канцы XVI–XVII ст. 3. Прамоўца, які гаворыць прыгожа, напышліва, але маламястоўна (*уст. кніжн*).
**Рыцар**, -а, *м.* (*гіст.*). У сярэдневяковай Еўропе: **феадал**, які належаў да ваенна-землеўладальніцкага саслоўя, а таксама цяжка ўзброены воін, які знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад свайго **сюзерэна**.
**Рыцарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рыцара**, належыць яму.
**Рыцарства**, -а, *н.* 1. Ваенна-землеўладальніцкае саслоўе ў сярэдневяковай Еўропе (*гіст.*). 2. *зб.* Рыцары. 3. Званне **рыцара**.
**Рэал**, -а, *м.* Старадаўняе: іспанская сярэбраная манета.
**Рэаліст**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: вучань рэальнага вучылішча.
**Рэверáнс**, -а, *м.* Пачцівы паклон з прысяданнем.
**Рэверс**, -а, *м.* У арміі царскай Расіі: грашовае забеспячэнне, залог, які ўносіць малады афіцэр у палкавýю касу пры жаніцьбе.
**Рэвізія**, -і, *ж.* (*гіст.*). У Расійскай імперыі ў XVIII і ў першай палове XIX ст.: перапіс сельскага і гарадскога насельніцтва для ўліку і вылічэння падушнага падатку.
**Рэвізскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **рэвізіі**; вызначаны, устаноўлены ў выніку **рэвізіі**.
**Рэгалія**, -і, *ж.* 1. Прадмет, які з'яўляецца знакам манархічнай улады, *напр.* карона, скіпетр

(*уст.*). 2. *звычайна мн.* Ордэн, знак узнагароды (*уст. і разм.*). 3. У феадальнай Еўропе: манапольнае права каралёў, буйных феадалаў на атрыманне пэўных даходаў (судовыя штрафы, пошліны, распрацоўка, эксплуатацыя зямных нетраў і пад.).

**Рэ́гент**, -а, *м.* Кіраўнічая пасада ў канцылярыях ВКЛ.

**Рэгіме́нт**, -а, *м.* Буйная вайсковая часць у Рэчы Паспалітай у XVII-XVIII ст.

**Рэгіме́нтар**, -а, *м.* 1. У Рэчы Паспалітай у XVII-XVIII ст.: часовы намеснік **гетмана**, які выконваў свае абавязкі ў час адсутнасці апошняга ў выпадку смерці, палону і г.д. 2. Камандуючы ўзброенымі сіламі шляхецкіх канфедэрацый у XVI-XVIII ст.

**Рэду́т**, -а, *м.* У старых арміях: самкнутае палявое ўмацаванне, акружанае ровам і брустверам.

**Рэду́тны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рэду́та**.

**Рэдынго́т**, -а, *м.* Старадаўняе: доўгі **сурдут** шырокага крою для верхавой язды.

**Рэестр**, -а, *м.*; **рэестры**, -аў, *мн.* Спіс, вопіс, а таксама кніга ў судах ВКЛ, куды рабілі запісы аб справах, што падлягалі судоваму разгляду.

**Рэйтар**, -а, *м.* (*гіст.*). Салдат кавалерыі ў Заходняй Еўропе XVI-XVII ст. і ў Расіі XVII ст.

**Рэйтарскі**, -ая, -ае (*гіст.*). 1. Які мае адносіны да **рэйтара**. 2. У склад якога ўваходзяць рэйтары.

**Рэйтаршчына**, -ы, *ж.* Падатак у прыватнаўласніцкіх маёнтках ВКЛ у XVII-XVIII ст., які ішоў на ўтрыманне войска феадалаў.

**Рэйхсвер**, -у, *м.* (*гіст.*). Назва ўзброеных сіл Германіі ў 1919-1935 гг.

**Рэйхсканцлер**, -а, *м.* (*гіст.*). Дзяржаўны канцлер, кіраўнік урада ў Германіі да 1945 года.

**Рэйхстаг**, -а, *м.* (*гіст.*). Назва парламента ў Германіі да 1945 г., а таксама будынак, дзе засядаў гэты парламент.

**Рэкардыст**, -а, *м.* (*уст.*). Рэкардсмен.

**Рэкрут**, -а, *м.* У царскай Расіі з 1705 па 1874 гг.: салдат-навабранец.

**Рэкрутава́ць** (*уст. кніжн.*). Узяць (браць) у рэкруты.

**Рэкрутчына**, -ы, *ж.* У царскай Расіі: рэкруцкая павіннасць.

**Рэкруцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рэкрута**.

**Рэкрэацы́йны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **рэкрэацыі**.

**Рэкрэа́цыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Перапынак паміж урокамі ў школе.

**Рэля́цыя**, -і, *ж.* 1. Пісьмовае данясенне аб дзеяннях войск. 2. Паведамленне пра якія-н. падзеі, факты. 3. Апісанне баявога подзвігу якой-н. асобы ці воінскай часці пры прадстаўленні іх да ўзнагароды.

**Рэма́рка**, -і, *ж.* (*уст.*). Заўвага: памета на палях (рукапісу, кнігі).

**Рэпамэ́**, *нескл.*, *н.* (*уст. і кніжн.*). Усталяваная рэпутацыя, агульная павага.



**Рэнта**, -ы, *ж.* У ВКЛ: даход, не звязаны з непасрэднай прадпрымальніцкай дзейнасцю, які рэгулярна атрымліваў уласнік з зямлі, маёмасці ці капіталу.

**Рэскры́пт**, -а, *м.* Пісьмо манарха да падначаленага з якім-н. прадпісаннем, аб'явай аб узнагародзе, з выказваннем падзякі.

**Рэспе́кт**, -у, *м.* (*уст.*). Пашана, павага.

**Рэстара́тар**, -а, *м.* (*уст.*). Уладальнік, гаспадар рэстарана.

**Рэстара́цыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Рэстаран.

**Рэтраншэме́нт**, -а, *м.* Умацаванне, размешчанае ззаду галоўнай пазіцыі таго, хто абараняецца.

**Рэтыра́да**, -ы, *ж.* 1. Адступленне войск (*уст.*). 2. Умацаванае месца (у крапасных збудаваннях і на палявых пазіцыях) для ўкрыцця і абароны ў выпадку адступлення.

**Рэтыра́дны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **рэтыра́ды**.

**Рэўваенсавет**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: рэвалюцыйны ваенны савет, які існаваў з 1918 па 1934 гг. і ўяўляў сабой калегію Народнага камісарыята па ваенных і марскіх справах СССР.

**Рэўком**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: рэвалюцыйны камітэт – часовы надзвычайны орган савецкай улады ў час грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі (1918–1920 гг.).

**Рэўкомавец**, -маўца, *м.* (*савет.*). Работнік **рэўкома**.

**Рэўкомаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **рэўкома**, належыць яму.

**Рэўтрыбунал**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: рэвалюцыйны трыбунал.

**Рэфармацыя**, -і, *ж.* Сацыяльна-палітычны рух супраць феадалізму ў Заходняй Еўропе ў XVI ст., які набыў форму рэлігійнай барацьбы супраць каталіцкай царквы.

**Рэформа**, -ы, *ж.* Пра адмену прыгоннага права ў Расійскай імперыі ў 1861 г.

**Рэформенны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **рэформы**, да часу адмены прыгоннага права ў Расіі.

**Рэфрактар**, -а, *м.* (*уст.*). Павелічальнае шкло, якое ўзмацняе святло, а таксама лямпа з такім шклом.

## С

**Сабор**, -у, *м.* 1. У царскай Расіі: сход службовых ці выбарных асоб. 2. Сход, з'езд (*уст. і спец.*).

**Саветнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: назва чыноў розных класаў, паводле рангаў іерархіі, якая існавала ў цывільнай службе.

**Сагайдак**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Чахол для лука. 2. Увесь набор зброі конніка: лук з чахлом і калчан са стрэламі.

**Сагайдачны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **сагайдака**.

**Садомскі**, -ая, -ае (*уст. кніжн.*). Распусны, разбэшчаны.

**Сае́та**, -ы, *ж.* Старадаўняе: тонкае высокагатунковае сукно.

**Саечнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: той, хто пёк сайкі ці гандляваў імі.

**Саечніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **саечнік**.

**Саечнічыха**, -і, *ж.* (*разм.*). Жонка **саечніка**.

**Сажань**, -жня, *м.* 1. Мера даўжыні, роўная 3 аршынам, або 2,16 м, якая ўжывалася ў Беларусі і Расіі да 1918 г. 2. Колькасць чаго-н., роўная гэтай меры. 3. Прылада для абмервання зямельных участкаў.

**Сажнёвы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сажня**.

**Саква**, -ы, *ж.* Кавалерыйская сумка для аўса і прадуктаў.

**Сакольнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Той, хто даглядае лоўчых птушак і палюе з імі.

**Сакольнічы**, -ага, *м.* У XV-XVII ст. на Русі: баярын, які быў адказны за царскае сакалінае паляванне.

**Саксы**, -аў, *мн.* Старажытнае германскае племя, якое насяляла паўночна-заходнюю Еўропу і Брытанію.

**Саламандра**, -ы, *ж.* У сярэдневяковых павер'ях і магіі – дух агню.

**Салаш**, -а, *м.* (*уст.*). Шалаш.

**Салон**, -а, *м.* Літаратурны або грамадска-палітычны гурток з вядомых асоб арыстакратычнага асяроддзя, якія пастаянна збіраліся ў доме якой-н. прыватнай асобы.

**Салонны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **салона**. 2. Які прыняты ў **салоне**, такі, як у **салоне**. 3. Разлічаны на густы **салона**; лёгкі, павярхоўны, без зместу, пусты.

**Салякоп**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы, спецыяліст па солездабычы; солездабытчык.

**Самадзержац**, -жца, *м.* У царскай Расіі: манарх.

**Самадзержыца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **самадзержац**.

**Самадзяржаўе**, -я, *н.* У царскай Расіі: неабмежаваная вярхоўная ўлада **цара**, а таксама сістэма праўлення, заснаваная на такой уладзе.

**Самадзяржаўны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **самадзяржаўя**, з'яўляецца **самадзяржаўем**.

**Самакат**, -а, *м.* Веласіпед у арміі ў час першай сусветнай вайны.

**Самакатчык**, -а, *м.* Ваеннаслужачы самакатнай часці.

**Самапал**, -а, *м.* Старажытная гладкаствольная агнястрэльная зброя, якая зараджалася з дула.

**Самапальнік**, -а, *м.* 1. У старажытнасці: воін, узброены **самапалам**. 2. Ружжо наогул (*разм.*).

**Самапрадка**, -і, *ж.* Калаўрот.

**Самаскід**, -а, *м.* (*уст.*). Самазвал.

**Самастрэл**, -а, *м.* Старажытная зброя для кідання стрэл і камення, якая складаецца з лука з прыкладам і спускавога механізма.

**Самастрэльны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **самастрэла**.

**Самаўладар**, -а, *м.* (*уст.*). Правіцель, які валодае аднаасобнай, неабмежаванай уладай;**самадзержац**.

**Самаўладца**, -ы, *м.* (*уст.*). Тое, што і **самаўладар**.

**Самурай**, -я, *м.* Член прывілеяванага ваенна-феадальнага саслоўя дробных дваран у Японіі.

**Самурайскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **самурая**, уласцівы яму.

**Санавітасць**, -і, *ж.* Уласцівасць **санавітага**.



**Санавіты**, -ая, -ае. 1. Які валодае высокім **санам**. 2. Уласцівы чалавеку высокага **сану**.

**Санаторыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Санаторый.

**Санацыйны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **санацыі**.

**Санацыя**, -і, *ж.* Назва дзяржаўнага рэжыму ў Польшчы ў 1926-1939 гг.

**Саначнік**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы, які займаўся адкатам вугалю з забою; адкатчык.

**Санда́л**, -а, *м.* Невялікае судна, якім карысталіся цюркскія народы Прычарнамор'я.

**Сандаля**, -і, *ж.*; **сандалі**, -яў, *мн.* У старажытных грэкаў і рымлян: абутак з драўлянай або скураной падэшвай без абцасаў, якая прымацоўвалася да нагі раменьчыкамі.

**Сандальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сандаляў**.

**Сане́тка**, -і, *ж.* Званок для выкліку **слугі**, які звычайна прыводзіўся ў дзеянне шнурком.

**Санітарыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Гігіена.

**Санкюлот**, -а, *м.* Прадстаўнік гарадской беднаты ў перыяд Вялікай французскай рэвалюцыі (пазней гэты тэрмін служыў саманазвай патрыёта, рэвалюцыянера).

**Саноўнасць**, -і, *ж.* Рысы, паводзіны саноўнага чалавека; напышлівасць, высакамернасць.

**Саноўнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: вяльможа з высокім **санам**, з высокім становішчам.

**Саноўніца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **саноўнік**.

**Саноўны**, -ая, -ае. 1. Які займае высокае службовае становішча, з'яўляецца **саноўнікам**. 2. Звязаны з дзейнасцю саноўнікаў, іх спосабам быцця.

**Саракапудовы**, -ая, -ае. Які важыць сорак пудоў.

**Саракоўка**, -і, *ж.* 1. Манета вартасцю ў 20 капеек. 2. Бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў 1/40 частку вядра.

**Сарацыны**, -аў, *мн.*; *адз.* **сарацын**, -а, *м.*; **сарацынка**, -і, *ж.* 1. У антычных гісторыкаў: качавое племя Заходняй і Паўднёвай Еўропы. 2. У эпоху сярэдневякоўя: арабы і наогул усе мусульмане (*уст.*).

**Сарачня**, -і, *ж.* (*уст.*). Сорак.

**Саркафаг**, -а, *м.* У старажытных народаў: грабніца ў выглядзе труны (звычайна з каменю).

**Саслоўе**, -я, *н.* 1. Грамадская група са спадчыннымі правамі і абавязкамі, якая склалася на аснове класавых адносін у эпоху феадалізму. 2. У царскай Расіі: група асоб, аб'яднаных прафесіянальнымі інтарэсамі. 3. Увогуле група асоб, якія маюць аднолькавы занятак (*разм.*).

**Саслоўнасць**, -і, *ж.* Падзел грамадства на саслоўі.

**Саслоўны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **саслоўя** (у 1 знач.). 2. Абумоўлены прыналежнасцю да якога-н. **саслоўя**. 3. Заснаваны на падзеле грамадства на саслоўі; уласцівы грамадству, падзеленаму на саслоўі. 4. Уласцівы прывілеяваным саслоўям; каставы.

**Сатрап**, -а, *м.* Намеснік правіцеля вобласці, правінцыі ў старажытнай Персіі і Індыі.

**Сатрапія**, -і, *ж.* Вобласць, правінцыя, якой кіраваў **сатрап**.

**Сатурналія**, -і, *ж.*; **сатурналіі**, -ій, *мн.* У старажытным Рыме: свята ў гонар бога Сатурна, якое спраўлялася пасля заканчэння палявых работ.

**Сатысфакцыя**, -і, *ж.* У феадальна-дваранскім грамадстве: задавальненне ў форме паядынку, дуэлі, якое даецца абражальнікам па патрабаванні абражанага для абароны гонару.

**Сатэліт**, -а, *м.* У старажытным Рыме: узброены найміт, які суправаджаў свайго гаспадара.

**Саўінфармбюро**, *нескл.*, *н.* (*савет.*). Скарачэнне: савецкае інфармацыйнае бюро.

**Саўнаргас**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: савет народнай гаспадаркі.

**Саўнаргасаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **саўнаргаса**.

**Саўнарком**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне: Савет Народных Камісараў – назва вышэйшага выканаўчага і распарадчага органа дзяржаўнай улады ў былым СССР у 1917–1946 гг.

**Саўнаркомаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **саўнаркома**.

**Саўпартшкола**, -ы, *ж.* (*савет.*). Скарачэнне: школа для палітычнай і агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі савецкіх і партыйных работнікаў у СССР у 1920–1930-я гг.

**Саха**, -і, *ж.* 1. Прымітыўная драўляная сельскагаспадарчая прылада для ворыва. 2. Зямельны надзел, адзінка абкладання натуральным або грашовым падаткам у ВКЛ і феадальнай Расіі.

**Сацабавязацельства**, -а, *н.* (*савет.*). Абавязацельства па сацыялістычным спаборніцтве.

**Сацбудаўніцтва**, -а, *н.* (*савет.*). Сацыялістычнае будаўніцтва.

**Сацдагавор**, -а, *м.* (*савет.*). Дамова аб сацыялістычным спаборніцтве паміж асобнымі работнікамі або калектывамі.

**Сацспаборніцтва**, -а, *н.* (*савет.*). Сацыялістычнае спаборніцтва.

**Сацыялізм**, -у, *м.* 1. Першая фаза камунізму, грамадскі лад, які ў выніку пралетарскай рэвалюцыі прыходзіць на змену капіталізму і характарызуецца грамадскай уласнасцю на сродкі вытворчасці. 2. Вучэнне аб пабудове сацыялістычнага грамадства.

**Сацыялістычны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **сацыялізму** (у 1 знач.). 2. Уласцівы грамадству, заснаванаму на прынцыпах **сацыялізму**.

**Сачавіца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Аптычная лінза.

**Свабодамыснасць**, -і, *ж.* У дваранска-буржуазным грамадстве: крытычныя або адмоўныя адносіны да пануючых рэлігійных, палітычных поглядаў ці існуючага ладу.

**Свет**, -у, *м.* У буржуазна-дваранскім грамадстве: кола асоб, якія належалі да прывілеяваных класаў.

**Светач**, -а, *м.* (*уст.*). Тое, што і **дзед**.



**Светласць**, -і, *ж.* У царскай Расіі: тытулаванне некаторых уладарных асоб і князёў (ужывалася з займеннікамі *ваша, яго, яе, іх*).

**Светлы**, -ая, -ае (*уст. і нар.-паэт.*). Ужываецца як пастаянны эпітэт **цара**, **князя**, **баярына** і пад.

**Свецкасць**, -і, *ж.* 1. Уласцівасць **свецкага** (у 1 знач.). 2. Паводзіны, манеры, уласцівыя **свецкаму** чалавеку. 3. **Свецкі** ўклад жыцця.

**Свецкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **свету**. 2. Які адпавядае запатрабаванням вышэйшага **свету**; добра выхаваны. 3. Нецаркоўны, недухоўны; грамадзянскі.

**Свінапас**, -а, *м.* Пастух, які пасе свіней.

**Свіння**, -і, *ж.*: *у знач. прысл.* **свіннёй**. Парадак пастраення войск у выглядзе кліна.

**Світа**[1], -ы, *ж.* Афіцэры, якія складалі ваенна-прыдворны штат **цара** ў Расіі.

**Світа**[2] (**світка**), -ы, *ж.* Старадаўняе: доўгая сялянская верхняя вопратка з даматканага сукна.

**Святліца**, -ы, *ж.* Светлы, чысты пакой у хаце, прызначаны звычайна для прыёму гасцей.

**Свяцілішча**, -а, *н.* (*уст.*). Храм.

**Сейм** (**сойм**), -а, *м.* (*гіст.*). Саслоўна-прадстаўнічы орган у ВКЛ у XV – першай палове XVI ст. і Рэчы Паспалітай у другой палове XVI–XVIII ст.

**Сеймік** (**соймік**), -а, *м.* (*гіст.*). У ВКЛ у XVI–XVIII ст.: сход **шляхты** **павета** (**ваяводства**), дзейнасць якога рэгламентавалася нормамі права; форма самарэалізацыі шляхецкай супольнасці **павета** і дзярж.-прававы ін-т, дзякуючы якому шляхецкая супольнасць была здольная прымаць рашэнні.

**Сеймавы**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **сейма**.

**Сеймікавы**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **сейміка**.

**Секунд-маёр**, -а, *м.* Афіцэрскае званне ў рускай арміі XVIII ст., якое пазней адпавядала званню капітана, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Селадон**, -а, *м.* (*уст. і іран.*). Аматар заляцацца да жанчын, валацуга. [Ад імя Селадон – героя рамана франц. пісьменніка XVI–XVII ст. д'Юрфэ].

**Се́льбішча**, -а, *н.* (*уст.*). Селішча.

**Сельгасарцель**, -і, *ж.* Скарачэнне: сельскагаспадарчая арцель.

**Сельджу́кі**, -аў, *мн.* Старажытныя туркменскія плямёны, якія стварылі ў XI ст. у выніку заваёў вялікую дзяржаву на тэрыторыі Малой і Сярэдняй Азіі.

**Селянін**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: прадстаўнік ніжэйшага падатковага саслоўя.

**Семінарыст**, -а, *м.* 1. Навучэнец **семінарыі**. 2. Чалавек, які закончыў **семінарыю**.

**Семінарыя**, -і, *ж.* Сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова ў царскай Расіі і інш. краінах для падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковай школы.

**Семя**, **семя** і **семені**, *н.* (*уст.*). Патомства, род.

**Сенат**, -а, *м.* 1. Савет старэйшын, вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў старажытным Рыме. 2. Вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова ў царскай Расіі.

**Сенатар**, -а, *м.* Член **сената**; званне члена **сената**.

**Сенатарка**, -і, *ж.* *Жан.* да **сенатар**.

**Сенатарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сенатара**, належыць яму.

**Сенатарства**, -а, *н.* Становішча, пасада **сенатара**.

**Сенатарыха**, -і, *ж.* (*разм.*). Жонка **сенатара**.

**Сенацкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **сената**. 2. Звязаны з дзейнасцю **сената**.

**Сенешаль**, -я, *м.* (*гіст.*). 1. У франкскай дзяржаве Меравінгаў: кіраўнік палацавай гаспадаркі. 2. У феадальнай Францыі: службовая асоба, якая ведала юстыцыяй і ваеннымі справамі акругі.

**Сен-сіманізм**, -у, *м.* Вучэнне французскага сацыяліста-утапіста XIX ст. Сен-Сімона і яго паслядоўнікаў.

**Сеньёр**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. У сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе: землеўладальнік, які меў неабмежаваную ўладу на тэрыторыі, якой валодаў. 2. Вярхоўны феадал у адносінах да сваіх васалаў.

**Сеньярыя**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. У сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе: вобласць, якая належала **сеньёру** (у 1 знач.). 2. У сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе: выбарны орган дзяржаўнай улады.

**Сеньярыяльны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **сеньёра**, **сеньярыі**.

**Сера́скер**, -а, *м.* У Асманскай імперыі першапачаткова галоўнакамандуючы арміяй, якога выбіралі з ліку пашоў; у канцы XIX – пачатку XX ст. – ваенны міністр; пазней – ваенны міністр.

**Сербіянін**, -а, *м.*; **сербіяне**, -ян, *мн.* (*уст.*). Серб.

**Серв**, -а, *м.* У сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе: прыгонны селянін, які знаходзіцца ў персанальнай залежнасці ад феадала.

**Сервіту́т**, -у, *м.* У антычным, феадальным і капіталістычным грамадствах: права карыстацца чужой уласнасцю ў пэўных межах; а таксама права на абмежаванне ўласніка ў пэўных адносінах.

**Сервіту́тны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сервіту́ту**.

**Серэнада**, -ы, *ж.* У сярэднія вякі ў Іспаніі і Італіі: вячэрняя песня, якая выконвалася звычайна пад акном каханай, у гонар яе.

**Сестэрцый** (**сестэрцыя**), -я, *м.* У старажытным Рыме: дробная разменная манета.

**Сеч**, -ы, *ж.* (з вялікай літары) (*гіст.*). Самакіравальная арганізацыя ўкраінскага казацтва ў XVI-XVIII ст. *Запарожская Сеч.*

**Сеча**, -ы, *ж.* (*уст. і высок.*). Бой, бітва.

**Сечавік**, -а, *м.* (*гіст.*). Казак Запарожскай Сечы.

**Сівалапы**, -ая, -ае (*уст. разм*). Неадукаваны, грубы.



**Сігуранца**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Назва тайнай палітычнай паліцыі ў манархічнай Румыніі ў 1921–1944 гг.

**Сікафант**, -а, *м.* У старажытных Афінах: прафесійны даносчык, паклёпнік, шантажыст.

**Сіманія**, -і, *ж.* (*гіст.*). Продаж і купля царкоўных пасад, распаўсюджаныя ў сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе.

**Сінаксар**, -а, *м.* (*царк.*). У старажытнай царкоўнай літараратуры: збор жыцій святых.

**Сіндык**, -а, *м.* Абаронца, адвакат у судзе ў старажытнай Грэцыі.

**Сіндыкат**, -а, *м.* (*савет.*). У СССР на пачатку **нэпу** – аб'яднанне трэстаў пэўнай галіны прамысловасці, якое вяло планавую закупку і збыт прадукцыі.

**Сінедрыён**, -а, *м.* 1. Савет старэйшын, вышэйшая дзяржаўная ўстанова з палітычнымі і судовымі функцыямі ў старажытнай Іудзеі (*гіст.*). 2. Сход, савет, судзілішча (*уст. разм. і іран.*).

**Сінекура**, -ы, *ж.* (*царк.*). Царкоўная пасада ў сярэдневяковай Еўропе, не звязаная з пэўнымі абавязкамі.

**Сінкліт**, -а, *м.* (*гіст.*). Сход вышэйшых саноўнікаў у старажытнай Грэцыі.

**Сінод**, -а, *м.* У царскай Расіі: вышэйшы калегіяльны орган Рускай праваслаўнай царквы; цяпер – дарадчы орган пры Патрыярху Маскоўскім і ўсёй Русі.

**Сінопсіс**, -а, *м.* 1. Зборнік звестак, нататак, артыкулаў па якім-н. пытанні, часцей размешчаных храналагічна (*гіст.*). 2. Звод розных поглядаў па якім-н. пытанні (*уст. кніжн*).

**Сіпай**, -я, *м.* (*гіст.*). Наёмны салдат англійскага каланіяльнага войска ў Індыі, якое фарміравалася з мясцовых жыхароў у XVIII–XX ст.

**Сіпайскі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **сіпая**, які належыць, уласцівы яму.

**Сказка**, -і, *ж.* (*гіст.*). Спіс, рэестр.

**Скальд**, -а, *м.* Старажытнаскандынаўскі (нарвежскі або ісландскі) паэт-пясняр.

**Скамароства**, -а, *н.* 1. Занятак, прафесія **скамароха**. 2. *перан.* Камедыянтства, штукарства, крыўлянне (*разм. зневаж.*).

**Скамарох**, -а, *м.* 1. У старажытнай Русі і ў пазнейшы час: спявак-музыкант, жартаўнік і акрабат. 2. *перан.* Пра чалавека, які пацяшае другіх сваімі камедыянцкімі, штукарскімі выхадкамі (*разм. зневаж.*).

**Скамарохаў**, -ава. Які мае адносіны да **скамароха**, уласцівы яму; такі, як у **скамароха**.

**Скамарошнічаць** (*разм. неадабр.*). Паводзіць сябе так, як **скамарох**; крыўляцца.

**Скамарошны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **скамароства** (у 1 знач.).

**Скапец**, -пца, *м.* Член фанатычнай рэлігійнай секты ў Расіі, якая ўзнікла ў канцы XVIII ст. і прапаведавала

барацьбу з плоццю шляхам кастрацыі.

**Скарапісец**, -сца, *м.* Пісец, перапісчык, які піша **скорапісам**.

**Скарб**, -у, *м.* (*уст.*). Дзяржаўная ўласнасць; казна.

**Скарбнік**, -а, *м.* 1. У старажытнай Русі: хавальнік дзяржаўнага **скарбу**. 2. Манах, які загадваў гаспадаркай ў мужчынскім манастыры (*уст.*). 3. У царскай Расіі: кіраўнік казначэйства.

**Скарбніца**, -ы, *ж.* 1. Месца захоўвання дарагіх рэчаў; каштоўнасцей (*уст.*). 2. Казна; месца захоўвання казны.

**Скарбніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **скарбніка**.

**Скарбовы**, -ая, -ае. 1. Гаспадарча-фінансавы (*гіст.*). 2. Які належаў **казне**, казённы; дзяржаўны (*уст.*).

**Ска́рбут**, -у, *м.* (*уст.*). Цынга.

**Ска́рбутны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **ска́рбуту**.

**Скватэр**, -а, *м.* (*гіст.*). Каланіст, які самавольна займаў свабодны неапрацаваны ўчастак зямлі ў перыяд пачатковай каланізацыі (у Амерыцы, Аўстраліі).

**Скіт**, -а, *м.* (*царк.*). 1. У праваслаўных манастырах: жыллё для манахаў-пустэльнікаў, размешчана аддалена ад манастырскага будынка. 2. Стараверскі манастыр або пасёлак манастырскага тыпу ў глухой пустэльнай мясцовасці.

**Скітнік**, -а, *м.* (*царк.*). Манах або **старавер**, які жыве ў **скіце**; пустэльнік.

**Скітніца**, -ы, *ж.* (*царк.*). *Жан.* да **скітнік**.

**Скітніцкі**, -ая, -ае (*царк.*). Які мае адносіны да **скітніка**, уласцівы **скітніку**, належыць яму.

**Скіфы**, -аў, *мн.* Агульная назва розных качавых плямён, якія насялялі Паўночнае Прычарнамор'е ў VII ст. да н.э. – III ст. н.э.

**Скіцкі**, -ая, -ае (*царк.*). 1. Які мае адносіны да **скіта**. 2. Такі, як у **скіце**.

**Склавены**, -аў, *мн.*; *адз.* **склавен**, -а, *м.*; **склавенка**, -і, *ж.* (*гіст.*). Старажытныя заходнеславянскія плямёны, якія паходзілі ад венедаў і насялялі тэрыторыю на поўнач ад сярэдняга і ніжняга Дуная.

**Скорапіс**, -у, *м.* Хуткае злітнае (у адрозненне ад **устава** і **паўустава**) пісьмо ў старажытных рукапісах.

**Скрындола**, -ы, *ж.* Старадаўняе: аглобля **сахі** (у 1 знач.).

**Скрыня**, -і, *ж.* Старадаўняе: драўляная ёмістасць з вечкам і замком для захоўвання рэчаў, каштоўнасцей; тое, што і **куфар**.

**Слабада**, -ы, *ж.* 1. Пасёлак або гарадскі квартал на Беларусі, у Расіі і на Украіне ў XI–XVIII ст., жыхары якога не былі прыгоннымі або часова вызваляліся ад падаткаў і іншых павіннасцей (*гіст.*). 2. Вялікае гандлёвае ці прамысловае сяло, пасёлак. 3. Адасобленая частка вялікага сяла. 4. Пасёлак каля горада; прыгарад (*уст.*).

**Слабаджанін**, -а, *м.* Жыхар **слабады, слабодкі**.

**Слабаджанка**, -і, *ж.* *Жан.* да **слабаджанін**.



**Слабадскі**, -ая, -ое. Які мае адносіны да **слабады, слабодкі**.

**Слабодка**, -і, *ж.* (*уст.*). 1. *Памянш.* да **слабада** (у 4 знач.). 2. Пасёлак каля горада; прыгарад (*уст.*).

**Славеснасць**, -і, *ж.* 1. Мастацкая літаратура і вусная творчасць якога-н. народа (*уст.*). 2. Філалагічныя навукі (лінгвістыка, літаратуразнаўства і інш.) (*уст.*). 3. Назва вучэбнага прадмета ў царскай сярэдняй школе, які даваў сістэматычныя веды па літаратуры. 4. Вусныя заняткі з салдатамі па вывучэнню воінскіх статутаў у царскай рускай арміі.

**Славеснік**, -а, *м.* 1. Асоба, якая атрымала філалагічную адукацыю; філолаг (*уст.*). 2. Студэнт філалагічнага факультэта ў царскай Расіі. 3. Выкладчык славеснасці ў дарэвалюцыйнай сярэдняй школе. 4. Пра выкладчыка мовы і літаратуры ў сучаснай школе (*разм.*).

**Славесніца**, -ы, *ж.* (*уст. і разм.*). *Жан.* да **славеснік**.

**Славесны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **славеснасці**.

**Словалітня**, -і, *ж.* (*уст.*). Прадпрыемства па вырабу друкарскіх літар, шрыфталіцейны завод.

**Словалітчык**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы, майстар словалітнага прадпрыемства.

**Словапіс**, -а, *м.* (*уст.*). Рэестр.

**Слоўны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **славеснасці**.

**Слуга**, -і, *м.* У Расійскай імперыі і некаторых іншых краінах: чалавек для асабістых паслуг, прыслужвання.

**Служанка**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі і некаторых іншых краінах: жанчына, якая была **слугой** у каго-н.

**Служба**, -ы, *ж.* 1. *толькі мн.* (**службы**,- аў). Падсобныя памяшканні, розныя пабудовы для гаспадарчых патрэб (*уст.*). 2. Абслуговы персанал; слугі (*уст.*). 3. Зварот да ваеннаслужачага (звычайна салдата) (*уст. і разм.*).

**Служылы**, -ая, -ае (*гіст.*). 1. У Рускай дзяржаве XV-XVII ст. – той, які знаходзіўся на службе (пераважна ваеннай). 2. У царскай Расіі – той, які атрымаў званне, чын не па спадчыне, а як узнагароду за дзяржаўную службу.

**Слязніца**, -ы, *ж.* У старажытным Рыме: пасудзінка, у якую збіралі слёзы, калі плакалі па нябожчыку.

**Смалакурня**, -і, *ж.* Смалакурнае прадпрыемства.

**Смерд**, -а, *м.* У старажытнай Русі: селянін, земляроб.

**Смута**, -ы, *ж.* (*уст.*). Мяцеж, паўстанне, беспарадак.

**Смык**, -а, *м.* Прымітыўная барана.

**Сноб**, -а, *м.* У буржуазна-дваранскім грамадстве: чалавек, які слепа трымаецца моды, густаў і манер "вышэйшага свету".

**Снопавязалка**, -і, *ж.* Сельскагаспадарчая ўборачная машына, якая вяжа сцёблы збажыны ў снапы.

**Снопавязальны**, -ая, -ае. Які прызначаны, служыць для вязкі снапоў.

**Снопавязальшчык**, -а, *м.* Той, хто вяжа зжатую збажыну ў снапы.

**Снопавязальшчыца**, -ы, *ж. Жан.* да **снопавязальшчык**.

**Снопападавальнік**, -а, *м.* Прыстасаванне ў малацілках для падачы снапоў у малацільны барабан.

**Снопапад'ёмнік**, -а, *м.* Прыстасаванне для пад'ёму снапоў.

**Снопасушылка**, -і, *ж.* Прыстасаванне для сушкі збожжа ў снапах.

**Снопасушыльны**, -ая, -ае. Прызначаны для сушкі збожжа ў снапах.

**Солід**, -а, *м.* 1. Залатая манета Візантыйскай імперыі VIII–XIII ст., маса 4–4,40 г. 2. Медная манета XVII–XVIII ст. Рэчы Паспалітай, маса якой вагалася ад 1,30 г да 2,62 г.

**Солтыс**, -а, *м.* У буржуазнай Польшчы, у тым ліку ў Заходняй Беларусі, – сельскі староста.

**Сотка**, -і, *ж.* Старадаўняе: мера гарэлкі ў адну сотую частку вядра, а таксама бутэлька такой ёмістасці.

**Сотнік**, -а, *м.* 1. Начальнік **сотні** воінаў у старажытнай Русі. 2. Службовая асоба гарадскога самакіравання Беларусі ў XVI–XVIII ст., якая ўзначальвала **сотню**. 3. У царскай Расіі: афіцэрскі чын у казацкіх войсках, які адпавядаў чыну **паручніка** ў пяхоце, а таксама асоба, якая мела гэты чын. 4. Начальнік адміністрацыйна-тэрытарыяльнай **сотні** на Украіне ў XVI–XVIII ст.

**Сотня**, -і, *ж.* 1. Вайсковая адзінка (сто чалавек) у старажытнай Русі. 2. Частка гарадской абшчыны ў феадальнай Беларусі, вылучаная з вайсковымі і фіскальнымі мэтамі. 3. Вайсковае падраздзяленне ў казацкіх часцях царскай Расіі. 4. Ваенная і адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка на Украіне ў XVI–XVIII ст.

**Соцкі**, -ага, *м.* У Расійскай імперыі: селянін, які прызначаўся дапамагаць сельскай паліцыі падтрымліваць парадак у вёсцы.

**Спадобіцца** (*уст.* і *іран.*). Удастоіцца (якой-н. літасці, чэсці, увагі).

**Спадобіць** (*уст.*). Удастоіць чаго-н., надзяліць чым-н. у знак сваёй літасці (пра бога).

**Спальнік**, -а, *м.* Прыдворны чын у Рускай дзяржаве XV–XVII ст.

**Спачывальня**, -і, *ж.* (*уст.*). Спальня (звычайна ў палацы, у панскіх харомах і інш.).

**Спіжарня**, -і, *ж.* (*уст.*). Кладоўка.

**Срэбралюб**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які вызначаецца **срэбралюбствам**, карысталюбівец.

**Срэбралюбівы**, -ая, -ае (*уст.*). Які вызначаецца **срэбралюбствам**; прагны да грошай.

**Срэбралюбны**, -ая, -ае. Тое, што і **срэбралюбівы**.

**Срэбралюбства**, -а, *н.* (*уст.*). Прагнасць да грошай; карысталюбства.

**Ссыльнакатаржны**, -ага, *м.* У Расійскай імперыі: чалавек, сасланы на катаргу.

**Ссыльнапалітычны**, -ага, *м.* У Расійскай імперыі: чалавек, які знаходзіўся ў ссылцы па палітычнай справе.



**Ссыльнапасяленец**, -нца, *м.* У Расійскай імперыі: чалавек, які адбыў зняволенне і знаходзіцца на пасяленні ў спецыяльна вызначаным месцы.

**Стадола**, -ы, *ж.* Канюшня на заезным двары.

**Стан**, -а, *м.* У царскай Расіі: павятовае адміністрацыйна-паліцэйскае падраздзяленне.

**Стапа́**, -ы, *ж.* Старадаўняе: адзінка вымярэння даўжыні, роўная 12 цалям (прыблізна 32,5 см).

**Стапарэзка**, -і, *ж.* (*уст.*). Машына, якая рэжа паперу на лісты пэўнага фармату для складання іх у стопы.

**Стапарэзчык**, -а, *м.* (*уст.*). Рабочы папяровай вытворчасці, які рэжа паперу на **стапарэзцы**.

**Старавер**, -а, *м.* 1. Чалавек, які належыў да адной з рэлігійных груп, якія не прынялі царкоўных рэформ XVII ст. у Расіі і варожа адносіліся да афіцыйнай праваслаўнай царквы. 2. *перан.* Чалавек, які прытрымліваецца ўстарэлых звычаяў, звычак, густаў і пад. (*жарт.*).

**Стараверка**, -і, *ж. Жан.* да **старавер**.

**Стараверскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **стараверства**, **старавера**.

**Стараверства**, -а, *н.* 1. Сукупнасць рэлігійных груп і цэркваў у Расіі, якія не прынялі царкоўных рэформ XVII ст. і сталі апазіцыйнымі або варожымі да афіцыйнай праваслаўнай рэлігіі. 2. *перан.* Прытрымліванне ўстарэлых звычаяў, звычак, густаў і пад. (*жарт.*).

**Старадрук**, -а, *м.* Старадрукавыя кнігі.

**Старадрукаваны**, -ая, -ае. Надрукаваны да выпраўлення кніг для набажэнства ў другой палове XVII ст.

**Старарэжымнасць**, -і, *ж.* (*разм.*). Уласцівасць **старарэжымнага**.

**Старарэжымнік**, -а, *м.* (*разм.*). Прыхільнік старога, царскага рэжыму.

**Старарэжымны**, -ая, -ае (*разм.*). Які мае адносіны да старога, царскага рэжыму.

**Старасветчына**, -ы, *ж.* 1. Даўніна, часы, якія даўно мінулі. 2. Тое, што было даўно; парадкі, звычаі, нормы і пад. 3. Тое, што створана ў далёкія часы і існуе да нашых дзён.

**Старасвецкасць**, -і, *ж.* Уласцівасць **старасвецкага**.

**Старасвецкі**, -ая, -ае. 1. Не сучасны па спосабе жыцця, звычках. 2. Такі, які быў даўней і захаваўся да гэтага часу; які адпавядаў патрабаванням свайго часу. 3. Старамодны. 4. Вельмі стары.

**Стараста**, -ы, *м.* 1. У старажытнай Русі: прадстаўнік ніжэйшай княжацкай адміністрацыі, звычайна з халопаў. 2. У ВКЛ у XVI-XVIII ст.: службовая асоба, якая кіравала адміністрацыйнай акругай (**паветам**), намеснік вялікага

**князя** (караля). 3. У Расійскай імперыі: службовая асоба сялянскага грамадскага кіравання. 4. У 1918–1939 гг. кіраўнік павятовай адміністрацыі ў Польшчы, з 1921 г. і ў Заходняй Беларусі. 5. У час Вялікай Айчыннай вайны: службовая асоба, прызначалася акупантамі ў сельскай мясцовасці.

**Старастаў**, -ава. Які належыць **старасту**.

**Старастоўства**, -а, *н.* Пасада і занятак **старасты**.

**Старасціха**, -і, *ж.* (*разм.*). Жонка **старасты**.

**Старац**, -рца, *м.* 1. Выбарная асоба валаснога самакіравання на тэрыторыі Беларусі да другой паловы XVI ст. 2. Стары чалавек (*паэт.*). 3. Манах, духоўны настаўнік веруючых.

**Староста**, -ы, *м.* (*гіст.*). У ВКЛ і феадальнай Польшчы: службовая асоба, якая ўзначальвала адміністрацыю **павета** або **ваяводства**.

**Староства (стараства)**, -а, *н.* (*гіст.*). 1. У ВКЛ і феадальнай Польшчы: дзяржаўны **маёнтак**, які вялікі **князь** або **кароль** даваў на часовае карыстанне феадалам. 2. Адміністрацыя на чале з **старостам**. 3. Тое, што і **старастоўства**.

**Старцоўскі**, -ая, -ае. Такі, як у **старца**; уласцівы **старцу**, які належыць **старцу**.

**Старчыха**, -і, *ж.* *Жан.* да **старац** (у 1 знач.).

**Старшына**, -ы, *м.* У царскай Расіі: выбарная асоба, якая кіравала справамі якой-н. саслоўнай арганізацыі, прафесійнага аб'яднання і пад.

**Старшынскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **старшыны**.

**Старшынства**, -а, *н.* Пасада, званне **старшыны**.

**Старэйшына**, -ы, *м.* (*гіст.*). Кіраўнік радавой абшчыны, які выбіраецца са старэйшых і самых паважаных яе членаў.

**Старэйшынства**, -а, *н.* (*гіст.*). Званне, абавязкі **старэйшыны**.

**Статс-дама**, -ы, *ж.* У Расійскай імперыі: вышэйшае прыдворнае званне жанчыны з прывілеяванага саслоўя, якая ўваходзіла ў світу каранаванай асобы.

**Статс-сакратар**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: ганаровае прыдворнае званне вышэйшых чыноўнікаў.

**Стату́т**, -а, *м.* Звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у ВКЛ з 1529 г., а пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі – у Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай губернях да 1840 г.

**Стату́тны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **стату́та**.

**Стаўбавы**, -ая, -ое (*гіст.*). Патомны, знатнага роду (пра **шляхту**).

**Стаханавец**, -наўца, *м.* (*савет.*). Рабочы – наватар вытворчасці, які ў сацыялістычным спаборніцтве дасягнуў высокай прадукцыйнасці працы (назва, пашыраная ў СССР у 30–40-я гг. XX ст.). [Ад уласнага імя А. Стаханава].

**Стаханаўка**, -і, *ж.* (*савет.*). *Жан.* да **стаханавец**.



**Стаханаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **стаханаўца**, звязаны з масавым рухам **стаханаўцаў**.

**Стацкі**, -ая, -ае. У Расійскай імперыі: у складзе назваў некаторых грамадзянскіх чыноў. *Стацкі саветнік.*

**Стацця**, -і, *ж.* У Расійскай імперыі: разрад, ступень у падзеле саслоўяў, званняў і інш.

**Стацыянер**, -а, *м.* Ваеннае судна, якое нясе службу вартаўніка і паліцэйскага ў портах калоній і паўкалоній.

**Століначальнік**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: чыноўнік, начальнік стала.

**Століначальніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **століначальніка**, уласцівы яму.

**Стольнік**, -а, *м.* Шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ з сярэдзіны XV ст. Загадваў сервіроўкай велікакняжацкага стала і падачаю страў. З сярэдзіны XVII ст. урад **стольніка** існаваў у паветах.

**Стольніцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **стольніка**.

**Стольны**, -ая, -ае (*уст.*). Сталічны (пра горад).

**Стопудовы**, -ая, -ае. 1. Які важыць сто пудоў. 2. *перан.* Вельмі цяжкі. 3. *перан.* Вельмі багаты.

**Страдыварыус (страдыварый)**, -а, *м.* Скрыпка дасканалай формы і прыгажосці гуку, зробленая вядомым італьянскім майстрам Антоніо Страдывары (1644?-1737 гг.).

**Стражнік**, -а, *м.* 1. Шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ. Узнік у XVI ст. як стражнік польны. Яго абавязкам былоназіранне за бяспекаю межаў з Маскоўскай дзяржавай. 2. У царскай Расіі: ніжэйшы паліцэйскі чын у сельскай мясцовасці. 3. Ляснік (*уст. разм.*).

**Стражніца**, -ы, *ж.* Пагранічны пост; застава.

**Стражніцкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **стражніка**. 2. Які належыць **стражніку**.

**Стралец**, -льца, *м.* У Рускай дзяржаве XVI – пачатку XVIII ст.: ваеннаслужачы асобага пастаяннага войска.

**Стралецкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **стральца**, належыць яму. 2. Які складаецца са стральцоў.

**Страмянны**, -ога, *м.* У Рускай дзяржаве XVI-XVII ст.: прыдворны, што даглядаў царскіх верхавых коней і суправаджаў **цара** на ўрачыстых выездах.

**Стратапла́н**, -а, *м.* (*уст.*). Самалёт, прызначаны для палётаў у стратасферу.

**Страхдэлегат**, -а, *м.* (*савет.*). Выбарны прадстаўнік у прафсаюзнай арганізацыі, што ажыццяўляе кантроль за правядзеннем мерапрыемстваў па сацыяльным страхаванні.

**Страхка́са**, -ы, *ж.* (*савет.*). Ка́са сацыяльнага страхавання.

**Страхка́савы**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **страхка́сы**.

**Струг**, -а, *м.* Пласкадоннае парусна-грабное судна ўсходніх славян VI-XIII ст.

**Сты́гма (стыгма́т)**, -ы, *ж.* У старажытнай Грэцыі: кляймо на целе раба, злачынцы.

**Стыло**, *нескл.*, *н.* Прылада для пісьма; **пяро**.
**Субмарына**, -ы, *ж.* (*уст.*). Падводная лодка.
**Судзебнік**, -а, *м.* У ВКЛ: збор законаў, прававых пастаноў.
**Судзілішча**, -а, *н.* (*уст. кніжн. і іран.*). Суд.
**Судны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да суда, да вядзення судовых спраў.
**Суконшчык**, -а, *м.* Гандляр сукном ці ўладальнік сукні.
**Супастат**, -а, *м.* (*уст і высок.*). Вораг, непрыяцель.
**Сурдýт**, -а, *м.* Старадаўняе: мужчынская двухбортная вопратка з доўгімі поламі, якая цесна аблягае цела.
**Сурдýтнік**, -а, *м.* Кравец, які шые **сурдýты**.
**Сурдýтны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сурдýта**.
**Сурма**[1], -ы, *ж.* (*уст.*). Чорная фарба для валасоў, броваў і інш.
**Сурма**[2], -ы, *ж.* Старадаўняе: украінскі народны музычны інструмент у выглядзе доўгай драўлянай трубы.
**Сурмач**, -а, *м.* Сігналіст, які падае сігнал **сурмою**[2], грае на **сурме**[2]; трубач.
**Сурміцца** (*уст.*). Фарбаваць сабе **сурмой**[1] валасы, бровы і інш.
**Суфражызм**, -у, *м.* Жаночы рух у капіталістычных краінах другой паловы XIX – пачатку XX ст. за выбарчыя правы для жанчын.
**Суфражыстка**, -і, *ж.* Прыхільніца, паслядоўніца **суфражызму**.
**Суфражысцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **суфражызму**, суфражыстак.
**Схізма**, -ы, *ж.* Раскол у выніку супярэчнасцей унутры хрысціянскай царквы.
**Схізматык**, -а, *м.* Той, хто належыць да **схізмы**; раскольнік.
**Схізматычка**, -і, *ж.* *Жан.* да **схізматык**.
**Сходка**, -і, *ж.* 1. У царскай Расіі: сход прадстаўнікоў сельскай абшчыны. 2. Рэвалюцыйны сход рабочых, моладзі. 3. У Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст.: назва нізавой (цэхавай) ячэйкі, што аб'ядноўвала рабочых (рамеснікаў) адной прафесіі. 4. Сход (*уст. і неадабр.*).
**Сцёк**, -у, *м.* (*уст. і спец.*). Маса вадкасці, што сцякае адкуль-н.; паток.
**Сцягач**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Зборшчык падаткаў.
**Сырадутны**, -ая, -ае (*уст. і спец.*). Звязаны з тэхналогіяй атрымання жалеза непасрэдна з руды шляхам аднаўлення яго вуглародам. 2. Прызначаны для атрымання жалеза такім спосабам.
**Сытá**, -ы, *ж.* У многіх народаў засалоджаная мёдам вада. Спажывалі **сыту** як посную закрасу да кашы, куцці, кісялю, асабліва на Каляды.
**Сы́тнік**, -а, *м.* Прыдворны слуга, які прыносіў са скляпоў напоі для царскага стала.
**Сэтльмент**, -а, *м.* (*гіст.*). Асобны раён у горадзе, які ствараўся ў залежных краінах імперыялістычнымі дзяржавамі для пражывання іх падданых.
**Сэцэ́сія**, -і, *ж.* 1. У старажытным Рыме: дэманстрацыйны выхад плебеяў за рысу горада, што з'яўлялася своеасаблівай формай іх барацьбы з патрыцыямі. 2. Раскол у якой-н. арганізацыі (*уст.*).



**Сюзерэн**, -а, *м.* У сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе: буйны **феадал**, які з'яўляўся начальнікам у адносінах да залежных ад яго васалаў.
**Сюзерэнітэт**, -у, *м.* (*гіст.*). Вярхоўнае права, панаванне **сюзерэна** над васаламі.
**Сюзерэнны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **сюзерэна**, належыць яму.
**Сякіра**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Старажытная халодная зброя, якая нагадвала сякеру з лязом, моцна адцягнутым да тронка, і шчакавіцамі на абушку.
**Сямібаяршчына**, -ы, *ж.* Баярскі ўрад у Расіі ў час беларуска-польскай інтэрвенцыі пачатку XVII ст., што складаўся з сямі знатных баяр.
**Сямівярстовы**, -ая, -ае. Аддегласць у сем вёрст.
**Сямівяршковы**, -ая, -ае. Памерам у сем вяршкоў.
**Сямігодка**, -і, *ж.* (*разм.*). Няпоўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа ў СССР, у якой вучыліся 7 гадоў.
**Сяміпудовы**, -ая, -ае. Вагой у сем пудоў.
**Сямісажнёвы**, -ая, -ае. Велічынёй або памерамі ў сем сажняў.
**Сяміцалёвы**, -ая, -ае. Памерам у сем цаляў.
**Сярдзюк**, -а, *м.* На Украіне ў XVII-XVIII ст.: казак пешых палкоў, якія былі на поўным утрыманні гетманскага ўрада; ахоўнік **гетмана**.
**Сярмяга**, -і, *ж.* Старадаўняе: верхняя мужчынская і жаночая вопратка белага ці шэрага колеру з даматканага сукна.
**Сярмяжка**, -і, *ж.* (*разм.*). Тое, што і **сярмяга**.
**Сярмяжнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: вясковы бядняк.
**Сярмяжны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **сярмягі**. 2. *перан.* Бядняцкі, сялянскі.
**Сярмяжына**, -ы, *ж.* (*разм.*). Тое, што і **сярмяга**.
**Сярэбранік**, -а, *м.* Старажытная дробная сярэбраная манета.
**Сярэ́бшчына (серабшчызна)**, -ы, *ж.* 1. Грашовы падатак у ВКЛ у XIV-XVI ст. 2. Надзвычайны дзяржаўны грашовы падатак на ваенныя мэты ў XV-XVI ст.

## Т

**Табар**, -а, *м.* Умацаваны лагер казакаў з абозам.
**Табарны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **табара**, уласцівы яму.
**Табарыт**, -а, *м.*; **табарыты**, -аў, *мн.* Прыхільнік рэвалюцыйнага накірунку ў антыфеадальным нацыянальным руху чэшскага народа ў XV ст.; удзельнік гусіцкіх войнаў.
**Табель**, -я, *м.*: *у словазлучэнні* **табель аб рангах**. У царскай Расіі: суадносіны чыноў воінскага, цывільнага і прыдворнага ведамстваў па старшынстве (рангах, класах), уведзеныя Пятром I.
**Табулатура**, -ы, *ж.* Літарная і лічбавая сістэмы запісу музыкі ў еўрапейскіх краінах у XV-XVII ст.

**Таварыш**, -а, *м.* (*уст.*). У назвах службовых асоб – памочнік, намеснік.

**Талант**, -а, *м.* Самая вялікая адзінка вагі і грашовая адзінка ў старажытнай Грэцыі, Егіпце, Вавілоне, Персіі і іншых краінах Малой Азіі.

**Талер**, -а, *м.* Буйная сярэбраная высокай пробы манета еўрапейскіх краін XVI-XIX ст., грашова-лікавая адзінка, вагавая адзінка для серабра.

**Тальма**, -ы, *ж.* Старадаўняе: жаночая доўгая накідка без рукавоў.

**Тамбу́р**, -а, *м.* (*уст.*). Барабан.

**Тамбурмажо́р**, -а, *м.* Галоўны палкавы барабаншчык у французскай арміі XVII-XIX ст. і ў рускай арміі XIX ст.

**Тамбурмажо́рскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **тамбурмажора**, які належыць яму.

**Тамбу́рны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **тамбура**.

**Тамга́**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. Кляймо, метка на чым-н. як знак уласнасці (першапачаткова ў родавым грамадстве манголаў). 2. Пячаць, пячатка. 3. Гандлёвая пошліна ў старажытнай Русі ў XIII-XV ст., якую бралі, ставячы спецыяльнае кляймо на тавар.

**Тампліер**, -а, *м.* (*гіст.*). Член сярэдневяковага каталіцкага духоўна-рыцарскага ордэна.

**Танцклас**, -а, *м.* (*уст.*). Школа танцаў; урок танцаў.

**Танцмайстар**, -тра, *м.* (*уст.*). 1. Настаўнік танцаў. 2. Пастаноўшчык танцаў у тэатры ці ў танцавальнай групе.

**Танцор**, -а, *м.* (*уст.*). Артыст балета.

**Танцорка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **танцор**.

**Танцоўшчык**, -а, *м.* Тое, што і **танцор**.

**Танцоўшчыца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **танцоўшчык**.

**Тапёр**, -а, *м.* Музы́ка, які іграў за грошы на танцавальных вечарах.

**Тапёрка**, -і, *ж.* *Жан.* да **тапёр**.

**Тарабарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Тайнапісны, крыптаграфічны.

**Таран**, -а, *м.* Старажытная аблогавая прылада, якая выкарыстоўвалася для разбурэння крапасных сцен, вежаў, брам. Уяўляў сабой бервяно з металічным наканечнікам, якое падвешвалася на канатах (ланцугах) у драўлянай рухомай вежы, што перамяшчалася на калёсах і служыла прыкрыццём для людзей, якія абслугоўвалі **таран**.

**Тараніць**. Біць, удараць **тараном**.

**Таранны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **тарана**, прызначаны для яго. 2. Які робіцца пры дапамозе **тарана**.

**Тарантас**, -а, *м.* Старадаўняе: спецыяльная дарожная павозка на чатырох колах.

**Тарантасны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **тарантаса**.

**Таратайка**, -і, *ж. разм.*). Старадаўняе: лёгкая на двух колах павозка.

**Тарпа́н**, -а, *м.* Дзікі конь, які вадзіўся ў Еўропе і быў вынішчаны ў канцы XIX ст.

**Тарта́к**, -а, *м.* Лесапільны завод.

**Тарта́льшчык**, -а, *м.* Рабочы, які заняты **тартаннем**.



**Тартальшчыца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **тартальшчык**.

**Тарта́нне**, -я, *н.* (*уст. спец.*). Спосаб здабычы нафты з свідравіны пры дапамозе вялікага вядра з клапанам, падвешанага на стальным тросе.

**Тархан**, -а, *м.* 1. **Феадал** у цюркскіх народаў у сярэднія вякі (*гіст.*). 2. Зямля і маёмасць феадалаў Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, Казанскага, Астраханскага і Крымскага ханстваў, вызваленыя ад дзяржаўных падаткаў. 3. Дробны гандляр, скупшчык, які ездзіў па вёсках (*уст.*).

**Тарханны**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **тархана** (у 1 знач.).

**Таста́мент**, -а, *м.* (*уст.*). Завяшчанне.

**Татары**, -аў, *мн.*; *адз.* **татарын**, -а, *м.*; **татарка**, -і, *ж.* Назва цюркскіх, мангольскіх і некаторых іншых плямён, аб'яднаных у XIII-XVст. у дзяржаву Залатая Арда.

**Тачанка**, -і, *ж.* 1. Лёгкая рысорная павозка з адкрытым кузавам для запрэжкі пары коней. 2. Павозка такога тыпу, забяспечаная кулямётам (у кавалерыі ў перыяд грамадзянскай вайны ).

**Тлен**, -у, *м.* (*уст.*). 1. Тленне, гніенне, распад, разбурэнне. 2. Тое, што разбурылася ці разбурасцца. 3. Прах. 4. *перан.* Тое, што недаўгавечна, не мае сапраўднай каштоўнасці.

**Тленнасць**, -і, *ж.* (*уст.*). Уласцівасць і стан **тленнага**.

**Тленны**, -ая, -ае (*уст.*). Які разбураецца; часовы, недаўгавечны.

**Тлумач**, -а, *м.* (*уст.*). Перакладчык (звычайна для вуснага перакладу ў часе размовы, перагавораў).

**То-бок**, *злучн.* (*уст.*). Гэта значыць.

**Тога**, -і, *ж.* (*гіст.*). У старажытных рымлян: верхняе мужчынскае адзенне, доўгі плашч без рукавоў.

**Тонфільм**, -а, *м.* (*уст.*). Гукавы фільм.

**Торг**, -у, *м.* (*уст.*). 1. Базар, рынак; месца гандлю. 2. *звычайна мн.* **таргі**, -оў. Публічны продаж якой-н. маёмасці, рэчаў, якія дастаюцца таму, хто прапаноўвае больш высокую цану; аўкцыён.

**Трапе́за**, -ы, *ж.* (*кніжн.*). 1. Агульны стол для ежы ў манастыры, а таксама прыём ежы (абед, вячэра) за такім сталом і сама ежа. 2. Наогул стол для ежы, а таксама прыём ежы і сама ежа (*уст.*). 3. Тое, што і **трапе́зная** (*гл.* **трапезны** ў 3 знач.).

**Трапезнік**, -а, *м.* Манах, што назірае за манастырскай **трапезай**.

**Трапезнічаць**. 1. У манастыры – абедаць. 2. Наогул абедаць, вячэраць, а таксама баляваць (*уст. і кніжн.*).

**Трапе́зны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **трапезы**. 2. Прызначаны для трапезы. 3. *у знач. наз.* **трапе́зная**, -ай. Памяшканне у манастыры, дзе адбываецца **трапеза**.

**Траціна**, -ы, *ж.* Старадаўняе: мера плошчы – трэцяя частка зямельнага надзелу (звычайна **валокі**).

**Тройка**, -і, *ж.* 1. Трое коней, запрэжаных поруч у адзін **экіпаж**. 2. **Экіпаж** з трыма запрэжанымі ў

яго коньмі. 3. Камісія з трох чалавек, кіруючая група, створаная для выканання пэўнай работы (*савет. афіц.*).

**Трохаршынны**, -ая, -ае. Даўжынёй у тры аршыны.

**Трохвярстовы**, -ая, -ае. 1. Працягам у тры вярсты. 2. Які мае маштаб тры вярсты ў **цалі**.

**Трохполле**, -я, *н.* Сістэма паляводства з падзеламворнай зямлі на тры палі, кожнае з якіх засявалася спачатку азімымі, затым яравымі, а на трэці год заставалася пад пар.

**Трохпольны**, -ая, -ае. Звязаны з **трохполлем**, заснаваны на **трохполлі**.

**Трохпудовы**, -ая, -ае. 1. Масай у тры пуды. 2. Вельмі цяжкі, грузны (*разм.*).

**Трохцалёвы**, -ая, -ае. Велічынёй (таўшчынёй, шырынёй, вышынёй, калібрам) у тры цалі.

**Трохцалёўка**, -і, *ж.* Дошка таўшчынёй у тры цалі.

**Трубадур**, -а, *м.* Сярэдневяковы правансальскі (у паўднёвай Францыі) паэт-спявак.

**Трыба**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Кожная з трох груп родаў, што складалі патрыцыянскую абшчыну; кожная з трох адміністрацыйна-тэрытарыяльных акруг старажытнага Рыма.

**Трыбун**, -а, *м.* (*гіст.*). Назва розных службовых асоб у старажытным Рыме.

**Трывуголка**, -і, *ж.* Старадаўняе: трохвугольная форменная шапка.

**Трыера**, -ы, *ж.* У старажытнай Грэцыі: ваенны карабель з трыма радамі вёслаў, размешчаных адно над другім.

**Трызна**, -ы, *ж.* У старажытных славян: заключная частка пахавальнага абраду, якая суправаджалася ваеннымі гульнямі, спаборніцтвамі, а таксама вячэрай па нябожчыку.

**Трыктрак**, -а, *м.* Гульня, у якой два ігракі перасоўваюць па дошцы шашкі насустрач адзін аднаму адпаведна ачкам, што выпалі на падкідным кубіку.

**Трырэма**, -ы, *ж.* Старажытнарымскі ваенны карабель з трыма ярусамі вёслаў.

**Трыумвір**, -а, *м.* Удзельнік **трыумвірату**.

**Трыумвірат**, -у, *м.* Саюз трох палітычных дзеячаў у старажытным Рыме ў перыяд заняпаду рэспублікі, якія меў на мэце захапіць вярхоўную ўладу (першапачаткова – калегія з трох асоб, якая выбіралася з якой-н. спецыяльнай мэтай).

**Трыумфатар**, -а, *м.* У старажытным Рыме: палкаводзец-пераможца, якога сустракалі з трыумфам.

**Трыумфатарскі**, -ая, -ае. Які належыць **трыумфатару**, уласцівы **трыумфатару**.

**Трыццацітысячнік**, -а, *м.* (*савет.*). Працаўнік горада, які добраахвотна паехаў у 1955-1957 гг. на гаспадарча-арганізатарскую работу па закліку камуністычнай партыі.

**Трэба**, -ы, *ж.* Старадаўняе: ахвярапрынашэнне.



**Тулумбас**, -а, *м.* Старадаўняе: ударны музычны інструмент (разнавіднасць літаўры).

**Туніка**, -і, *ж.* Старажытнарымскае адзенне накшталт кашулі, якое насілі пад **тогай**.

**Тур**, -а, *м.* (*гіст.*). Запоўненая зямлёю плеценая кашолка, якая выкарыстоўвалася ў якасці ўкрыццяў ад куль і снарадаў.

**Турнір**, -у, *м.* Ваеннае спаборніцтва рыцараў ў сярэдневяковай Заходняй Еўропе.

**Турнірны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **турніру**; які з'яўляецца **турнірам**.

**Турнюр**, -а, *м.* 1. Модная ў канцы XIX ст. прыналежнасць жаночага туалету ў выглядзе падушачкі, якую надкладвалі пад сукенку ніжэй таліі для надання пышнасці стану. 2. Шырокая жаночая спадніца, прызначаная для нашэння з такой падушачкай.

**Тустэп**, -а, *м.* Амерыканскі парны бальны танец, які быў пашыраны ў пачатку XX ст. у Еўропе; музыка гэтага танца.

**Тымпан**, -а, *м.* Старадаўняе: ударны музычны інструмент – род медных талерак або невялікай літаўры.

**Тыран**, -а, *м.* Аднаасобны правіцель у старажытнай Грэцыі, Рыме і гарадах-рэспубліках Італіі XIII–XVI ст., які захапіў уладу сілай.

**Тыранія**, -і, *ж.* У старажытнай Грэцыі: праўленне, заснаванае на неабмежаванай аднаасобнай уладзе **тырана**.

**Тысяцкі**, -ага, *м.* 1. На Русі ў XI – сярэдзіне XV ст.: ваенны кіраўнік гарадскога апалчэння ("**тысячы**"). 2. У Расійскай імперыі да 1861 г.: выбарная службовая асоба ад сялян; вясковы старшыня.

**Тысяча**, -ы, *ж.* У старажытнай Русі: апалчэнне, якое дзялілася на сотні.

**Тысячнік**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Багацей, уладальнік тысячнага капіталу.

**Тыфус**, -у, *м.* (*уст.*). Тыф.

**Тыяра**, -ы, *ж.* Галаўны ўбор усходніх цароў, жрацоў у старажытнасці.

**Тэза**, -ы, *ж.* (*уст.*). Тэзіс.

**Тэрлік**, -а, *м.* Старадаўняе: мужчынскі доўгі **кафтан** з кароткімі рукавамі.

**Тэрмідарыянец**, -нца, *м.* Удзельнік або прыхільнік контррэвалюцыйнага перавароту 27 ліпеня 1794 г. у Францыі (9 тэрмідора 11 года па рэспубліканскім календары).

**Тэрмідарыянскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **тэрмідарыянства**, **тэрмідарыянца**.

**Тэрмідарыянства**, -а, *н.* 1. Час панавання тэрмідарыянцаў. 2. Ідэалогія і палітыка тэрмідарыянцаў.

**Тэрмідор**, -а, *м.* 1. Адзінаццаты месяц французскага рэспубліканскага каляндара (1793–1805 гг.). 2. Контррэвалюцыйны пераварот у Францыі 9 **тэрмідора**, у выніку якога была ліквідавана рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура якабінцаў.

**Тэрмы**, -аў, *толькі мн.* (*гіст.*). Грамадскія лазні ў старажытным

Рыме з заламі для спорту, сходаў і г.д.

**Тэтрарх**, -а, *м.* Правіцель **тэтрархіі** (у 1 знач.).

**Тэтрархія**, -і, *ж.* 1. У старажытнай Грэцыі: чацвёртая частка вобласці, якой кіраваў **тэтрарх**. 2. У Рымскай імперыі: падзел улады паміж чатырма правіцелямі, якія кіравалі рознымі часткамі імперыі; чатырохуладдзе.

**Тэўтонец**, -нца, *м.* Рыцар *Тэўтонскага ордэна*.

**Тэўтонка**, -і, *ж.* *Жан.* да **тэўтонец**.

**Тэўтонскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **тэўтонаў**, уласцівы ім. *Тэўтонскі ордэн* (*гіст.*) – каталіцкі духоўна-рыцарскі ордэн, ваенная арганізацыя нямецкага рыцарства ў XIII-XV ст., якія праводзілі агрэсіўную палітыку ва Усходняй Еўропе.

**Тэўтоны**, -аў, *мн.*; *адз.* **тэўтон**, -а, *м.*; **тэўтонка**, -і, *ж.* 1. Старажытнагерманскае племя, якое жыло на заходнім узбярэжжы паўвострава Ютландыя і ў вусці р. Эльба. 2. Ужываецца часам як агульная назва германцаў (*кніжн.*).

## У

**Уводзіны**, -аў, *толькі мн.* (*уст.*). Увядзенне парадзіхі з дзіцем у царкву і пачастунак з гэтай нагоды.

**Уводзіцца** (*уст.*). Ісці ў царкву з дзіцем на **ўводзіны**.

**Угодкі**, -дак, *толькі мн.* (*уст.*). Гадавіна з дня смерці; адзначэнне гэтай даты.

**Удзел**, -а, *м.* 1. У Расіі да пачатку XVI ст.: доля княжацкага роду ў родавым уладанні. 2. У Расійскай імперыі: нерухомая маёмасць імператарскай **фаміліі**, якой кіравала міністэрства двара і ўдзелаў.

**Удзельны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да феадальнага ўладання – **удзела**.

**Узліванне**, -я, *н.* У старажытнасці: прынясенне віна ў ахвяру багам.

**Уладанне (уладарства)**, -я, *н.* (*уст.*). Нерухомая маёмасць (пераважна зямля), якой валодаюць як уласнасцю.

**Улажэнне**, -я, *н.* Звод, збор законаў, пастаноў.

**Уланы**, -аў, *мн.*; *адз.* **улан**, -а, *м.* 1. Прадстаўнікі знаці Залатой Арды, якія вялі свой радавод ад нашчадкаў Чынгіс-хана, што не атрымалі трон. 2. Від лёгкай кавалерыі.

**Уланскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **улана**, належыць яму.

**Улітавацъ** (*уст.*). Упаяць.

**Улітоўка**, -і, *ж.* (*уст.*). Упайка.

**Умбры**, -аў, *мн.* Італійскае племя, якое ў старажытнасці насяляла Паўночную і Сярэднюю Італію.

**Ундзіна**, -ы, *ж.* У павер'ях сярэдневякоўя: дух вады ў вобразе жанчыны; русалка, наяда.

**Унтэр**, -а, *м.* (*разм.*). Тое, што і **унтэр-афіцэр**.

**Унтэр-афіцэр**, -а, *м.* 1. Званне малодшага каманднага саставу ў царскай і некаторых іншых арміях, а таксама асоба, якая мае гэта званне.



**Унтэр-афіцэрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **унтэр-афіцэра**, належыць яму.

**Унтэр-афіцэрства**, -а, *н.* 1. *зб.* **Унтэр-афіцэры, унтэр-афіцэрскі** састаў. 2. **Унтэр-афіцэрскае** званне (*разм.*).

**Унтэрскі**, -ая, -ае (*разм.*). Які мае адносіны да **унтэра**, належыць яму.

**Унцыя**, -і, *ж.* 1. Мера вагі ў старажытным Рыме, а таксама ў сучаснай Англіі і шэрагу краін Лацінскай Амерыкі. 2. Адзінка аптэкарскай вагі (у царскай Расіі роўная 29,86 г), якая выкарыстоўвалася да ўвядзення метрычнай сістэмы. 3. Назва розных залатых манет у некаторых краінах Еўропы і Лацінскай Амерыкі.

**Управа**, -ы, *ж.* У Расійскай імперыі: назва многіх органаў кіравання і самакіравання. 1. Выканаўчы орган губернскіх і павятовых земскіх установ (*земскіх сходаў*) і гарадскіх дум. 2. Орган саслоўнага самакіравання (*купецкага, мяшчанскага, рамеснага*).

**Урад**, -а, *м.* У ВКЛ: назва кіраўніцкага апарату і пасад у цэнтры і на месцах.

**Ураднік**, -а, *м.* 1. Службовая асоба ва ўрадах ВКЛ. 2. Ніжэйшы чын павятовай паліцыі ў Расійскай імперыі ў 1878-1917 гг. 3. **Унтэр-афіцэр** у казацкім войску царскай арміі.

**Ураднікаў**, -ава. Які належыць **ураднiку**.

**Ураднiцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ўрадніка**, належыць яму.

**Уранаграфія**, -і, *ж.* (*уст.*). Апісанне зорнага неба, бачных простым вокам зорак і сузор'яў.

**Урарты**, -аў, *мн.* Народ, які насяляў старажытную дзяржаву Урарту.

**Урок**, -а, *м.* 1. Заданне, якое павінны былі выканаць прыгонныя сяляне. 2. Праца, якая павінна быць выканана да пэўнага тэрміну (*уст.*).

**Уручальнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто ўручае што-н.

**Уручальніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **уручальнік**.

**Усепадданейшы**, -ая, -ае. Які падаецца з вернападданніцкімі пачуццямі (эпітэт, які ўжываўся ў афіцыйных дакладах, просьбах і інш. пры звароце да **цара**).

**Усобіца**, -ы, *ж.* Міжусобная барацьба, вайна паміж плямёнамі або паміж княствамі.

**Устаў**, **устава**, *м.* (*спец.*). Тып пісьма старажытных грэчаскіх, лацінскіх і славянскіх рукапісаў, які вызначаўся прамым і акуратным напісаннем літар.

**Уста́ўны**, -ая, -ае (*спец.*). Які з'яўляецца **ўставам**.

**Усявышні**, -яя, -яе (*уст. кніжн.*). 1. Па рэлігійных уяўленнях – які стаіць над усім існуючым (эпітэт Бога). 2. Які ідзе ад Бога. 3. *у знач. наз.* **усявышні**, -яга, *м.* Адна з назваў Бога.

**Усяленскі**, -ая, -ае (*уст.*). Сусветны.

**Участак**, -тка, *м.* Аддзяленне паліцыі ў царскай Расіі, а таксама будынак, у якім размяшчалася такая ўстанова.

**Участковы**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **ўчастка**. 2. *у знач. наз.* **участковы**, -ага, *м.* Начальнік паліцэйскага **ўчастка** (*разм.*).

**Ушку́й**, -я, *м.* Старадаўняе: пласкадонная лодка з парусамі і вёсламі.

## Ф

**Фабзавуч**, -а, *м.* (*савет.*). Школа фабрычна-заводскага вучнёўства пры прадпрыемстве, якая рыхтуе рабочых масавых прафесій.

**Фабзавучнік**, -а, *м.* (*савет. разм.*). Вучань школы фабрычна-заводскага вучнёўства.

**Фабзаўком**, -а, *м.* (*савет.*). Выбарны орган пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі фабрыкі ці завода; фабрычна-заводскі камітэт.

**Фабзаўкомавец**, -маўца, *м.* (*савет. разм.*). Член, работнік **фабзаўкома**.

**Фабзаўкомаўскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фабзаўкома**.

**Фабком**, -а, *м.* (*савет.*). Выбарны орган пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі фабрыкі; фабрычны камітэт.

**Фабкомаўскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фабкома**.

**Фа́бліо**, *нескл.*, *н.* Народны жанр сярэдневяковай французскай літаратуры: невялікае вершаванае або празаічнае апавяданне, пераважна гумарыстычнага або бытавога характару.

**Фа́бра**, -ы, *ж.* Фарба для чарнення валасоў, вусоў і барады.

**Фабрыкант**, -а, *м.* Уладальнік прамысловага прадпрыемства.

**Фабрыканціха**, -і, *ж.* (*разм.*). Жонка **фабрыканта**.

**Фабрыканцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фабрыканта**, належыць **фабрыканту**.

**Фабрыкацыя**, -і, *ж.* (*уст.*). Фабрыкат (гатовы фабрычны выраб, закончаны прадукт вытворчасці).

**Фаварыт**, -а, *м.* Палюбоўнік знатнай жанчыны.

**Фактар**, -а, *м.* (*уст.*). 1. Пасрэднік, камісіянер. 2. Кіраўнік тэхнічнай часткі друкарні, які ажыццяўляе сувязь друкарні з яе кліентамі.

**Фактарскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **фактара**.

**Фактарства**, -а, *н.* (*уст.*). Занятак, пасада **фактара**.

**Факторыя**, -і, *ж.* 1. Гандлёвая кантора і пасяленне еўрапейскіх купцоў у каланіяльных краінах. 2. Гандлёва-нарыхтоўчы пункт у аддаленых раёнах.

**Фаланга**, -ы, *ж.* 1. Баявы парадак пяхоты і конніцы ў старажытных грэкаў, шчыльна самкнуты строй з некалькіх шарэнгаў (*гіст.*). 2. *перан.* Рад, шарэнга каго-, чаго-н. (*кніжн.*). 3. Вялікая абшчына, камуна ў сацыяльным утапічным вучэнні Фур'ерыстаў.

**Фалангіст**, -а, *м.* 1. Воін **фалангі** (у 1 знач.). 2. Член **фалангі** (у 3 знач.).

**Фалангісцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фалангіста**, фалангістаў.

**Фаланстэр**, -а, *м.* (*гіст. сацыял.*) Спецыяльны будынак для **фалангі** (у 3 знач.).



**Фалда**, -ы, *ж.* Старадаўняе: задняе доўгае крысо мужчынскага **фрака, сурдута**.

**Фальбона**, -ы, *ж.* Старадаўняе: палоска матэрыялу, прышытая зборкамі да спадніцы, фартуха і пад.

**Фальбоністы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фальбоны**.

**Фальварак**, -рка, *м.* 1. Від феадальнага зямельнага ўладання ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай: панская гаспадарка з комплексам будынкаў і ўгоддзяў, заснаваная на паншчыннай працы сялян. 2. Невялікая шляхецкая сядзіба, хутар.

**Фальваркавец**, -коўца, *м.* 1. Уладальнік **фальварка**. 2. Той, хто жыве ў **фальварку**.

**Фальварковы**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **фальварка**, належыць яму. 2. Які жыве, служыць у **фальварку**.

**Фальканета**, -ы, *ж.* (*гіст.*). Дробнакаліберная гармата, якая была на ўзбраенні ў арміях і флатах Еўропы ў XVI-XVIII ст.

**Фамілія**, -і, *ж.* 1. Сям'я, члены сям'і (*уст. разм.*). 2. У старажытным Рыме: сям'я разам з рабамі і кліентамі.

**Фараон**, -а, *м.* 1. Тытул старажытнаегіпецкіх цароў, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. 2. Зневажальная мянушка паліцэйскага (*разм.*). 3. Азартная гульня ў карты.

**Фараонаўскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фараона** (у 1 і 2 знач.).

**Фармазон**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Тое, што і **франкмасон**.

**Фармазонка**, -і, *ж.* *Жан.* да **фармазон**.

**Фармазонскі**, -ая, -ае (*уст. разм.*). Які мае адносіны да **фармазонства, фармазона**.

**Франкмазонства**, -а, *н.* (*уст. разм.*). Тое, што і **франкмасонства**.

**Фармуляр**, -а, *м.* У царскай Расіі: паслужны спіс, куды заносіліся звесткі пра праходжанне службы чыноўнікам.

**Фармулярны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фармуляра**.

**Фартуна**, -ы, *ж.* (*уст.*). Багацце, маёмасць.

**Фартэцыя**, -і, *ж.* 1. Невялікае ўмацаванне, крэпасць. 2. *перан.* Пачатак, аснова чаго-н. (*разм.*).

**Фарштат**, -а, *м.* Пасяленне, якое знаходзіцца па-за межамі горада або крэпасці; прадмесце.

**Фарштацкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фарштата**.

**Фарысей**, -я, *м.* У старажытнай Іудзеі: член рэлігійна-палітычнай партыі, якая абараняла інтарэсы заможных і вызначалася фанатызмам і крывадушшам.

**Фарэйтар**, -а, *м.* Кучар, які сядзіць на першым кані пры запрэжцы **цугам**.

**Фарэйтарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фарэйтара**; уласцівы **фарэйтару**.

**Фат**, -а, *м.* 1. Пусты, пошлы чалавек, які любіць пазіраваць. 2. Роля палюбоўніка-пазёра ў тэатральнай п'есе, а таксама акцёр, які іграе гэтую ролю.

**Фатаўскі**, -ая, -ае. Уласцівы **фату**.

**Фатаўства**, -а, *м.* Паводзіны, учынкі, выгляд **фата**.

**Фацэція**, -і, *ж.* Жартоўнае апавяданне (часта з грубымі эратычнымі падрабязнасцямі), распаўсюджанае ў Заходняй Еўропе ў эпоху Адраджэння і ў Расіі ў канцы XVII ст.
**Фаэтон**, -а, *м.* Лёгкі **экіпаж** з адкідным верхам.
**Феадал**, -а, *м.*; **феадалы**, -аў, *мн.* (*гіст.*). У эпоху феадалізму зямельны ўласнік, уладальнік **феода** (**лена**), які эксплуатаваў залежных ад яго сялян. У ВКЛ **феадалы** – магнаты, князі, паны, **шляхта**.
**Федэрат**, -а, *м.* 1. Пасяленец на граніцы Рымскай імперыі і Візантыі, які прымаў удзел у войнах за атрыманую ім зямлю і плату. 2. Добраахвотнік рэвалюцыйнай арміі ў перыяд французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII ст.
**Феерверкер**, -а, *м.* У царскай Расіі: **унтэр-афіцэр** артылерыі.
**Фельд'егер**, -а, *м.* Ваенны або ўрадавы кур'ер для дастаўкі вельмі важных, сакрэтных дакументаў.
**Фельд'егерскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фельд'егера**.
**Фельдмаршал**, -а, *м.* Вышэйшае генеральскае званне ў рускай царскай і некаторых іншых арміях, а таксама асоба, якая мае гэта званне.
**Фельдмаршальскі**, -ая. -ае. 1. Які мае адносіны да **фельдмаршала**. 2. Які належыць **фельдмаршалу**.
**Фельдмаршальства**, -а, *н.* Званне **фельдмаршала**; служба **фельдмаршалам**.
**Фельдсувязь**, -і. *ж.* **Фельд'егерская** сувязь.
**Фельдфебель**, -я, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: званне старшага **унтэр-афіцэра** ў пяхоце, а таксама асоба, якая мае гэта званне.
**Фельдфебельскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **фельдфебеля**. 2. *перан.* Вельмі грубы, салдафонскі (*уст.*).
**Феод**, -а, *м.* (*гіст.*). У Еўропе ў перыяд сярэдневякоўя: зямля, пасада ці даход, які атрымліваў васал ад свайго сеньёра як спадчыннае ўладанне за ваенную ці адміністрацыйную службу.
**Ферт**, -а, *м.* 1. Назва літары "ф" (*уст.*). 2. Франтаваты, фарсісты, самазадаволены чалавек (*уст. і разм.*).
**Ферула**, -ы, *ж.* 1. Лінейка, якой у сярэдневяковай школе білі па далоні вучняў за якую-н. правіннасць. 2. Цяжкі і пільны пагляд (*кніжн.*).
**Фет**, -а, *м.* У старажытнай Грэцыі: батрак, прадстаўнік маламаёмнай і немаёмнай часткі свабоднага насельніцтва.
**Фехмайстар**, -тра, *м.* (*уст.*). Настаўнік фехтавання.
**Фібра**, -ы, *ж.* (*уст.*). Жылка, нерв.
**Фібула**, -ы, *ж.* Металічная засцежка для верхняй вопраткі ў старажытных народаў Еўропы, Азіі і Афрыкі.
**Фігаро**, *нескл.*, *н.* Кароткая вольнага крою жаночая кофтачка, якую адзяваюць на сукенку або блузку.
**Фігля́р**, -а, *м.* (*уст.*). Фокуснік, акрабат.



**Фігля́рскі**, -ая, -ае (*разм.*). Які мае адносіны да **фігляра́**, уласцівы **фігляру́**.
**Фігля́рства**, -а, *н.* (*разм.*). Занятак, прафесія **фігляра́**.
**Фігурант**, -а, *м.* (*уст.*). 1. Танцоўшчык у групавых балетных выступленнях. 2. Драматычны акцёр, які іграе ролі без слоў. 3. Статыст.
**Фігурантка**, -і, *ж.* *Жан.* да **фігурант**.
**Фіжмы**, -аў, *толькі мн.* У XVIII – пачатку XIX ст.: шырокі каркас, зроблены з кітовага вуса ў выглядзе абруча, які надзяваўся пад спадніцу і надаваў пышнасць стану, а таксама спадніца з такім каркасам.
**Фізіяграфія**,-і, *ж.* (*уст.*). Фізічная геаграфія (навука, якая вывучае зямную паверхню, яе клімат, расліны і жывёльны свет).
**Філа**, -ы, *ж.* У старажытнай Грэцыі: родавая адзінка, роўная племені; пазней тэрытарыяльная адзінка.
**Філамат**, -а, *м.* Член тайнага патрыятычнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое існавала ў 1817–1823 гг. і аб'ядноўвала моладзь з Беларусі, Літвы і Польшчы.
**Філарэт**, -а, *м.* Член тайнага патрыятычнага студэнцкага таварыства Віленскага універсітэта, якое існавала ў 1820–1823 гг. і аб'ядноўвала моладзь з Беларусі, Літвы і Польшчы.
**Філёзофія**, -і, *ж.* (*уст.*). Філасофія.
**Філёр**, -а, *м.* Тайны паліцэйскі агент; сышчык, шпік.
**Філёрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **філёра**, уласцівы яму.
**Філістымляне**, -лян, *мн.* Старажытны народ, які насяляў паўднёвую частку ўсходняга ўзбярэжжа Міжземнага мора.
**Фільма**, -ы, *ж.* (*уст.*). Фільм.
**Фіск**, -у, *м.* Імператарская казна ў старажытным Рыме.
**Фіскал**, -а, *м.* Службовая асоба ў Расіі ў 1711–1729 гг. для нагляду за дзейнасцю (галоўным чынам фінансавай) дзяржаўных устаноў і службовых асоб.
**Фіскальны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фіску**, які служыць справе **фіску**, казны.
**Фіскальства**, -а, *н.* Дзейнасць **фіскала**.
**Фістула**, -ы, *ж.* (*уст.*). 1. Назва аднаствольных, а пазней шматствольных флейт. 2. Фальцэт.
**Фістульны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **фістулы**.
**Фіта**, -ы, *ж.* Назва кірыліцкай літары Ѳ. У старажытнарускай мове абазначала гукі "ф" і "ф" і ўжывалася ў словах грэчаскага паходжання. Выйшла з ужытку ў XVIII ст. у сувязі з заняпадам старажытнабеларускай пісьменнасці. У рускай графіцы ўжывалася да 1918 года.
**Фіякр**, -а, *м.* Наёмны лёгкі **экіпаж** у гарадах Заходняй Еўропы.
**Фіял**, -а, *м.* 1. У старажытных грэкаў: шырокая неглыбокая чаша з тонкімі сценкамі і злёгку загнутымі ўнутр берагамі. 2. Бакал, кубак (*уст. і паэт.*).
**Флагелант**, -а, *м.* (*гіст.*). Паслядоўнік **флагеланцтва**.

**Флагеланцкі**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **флагелана**.
**Флагеланцтва**, -а, *н.* (*гіст.*). Рэлігійны, варожы каталіцкай царкве рух у Заходняй Еўропе ў XIII-XIV ст.
**Флажалет**, -а, *м.* Музычны духавы інструмент, падобны да флейты.
**Фланёр**, -а, *м.* (*уст. разм.*). Чалавек, які не працуе, пазбягае працы.
**Фланёрскі**, -ая, -ае (*уст. разм.*). Які мае адносіны да **фланёра**, уласцівы яму.
**Фланёрства**, -а, *н.* (*уст. разм.*). Бязмэтнае блуканне, бяздзейнасць.
**Фланіраваць** (*уст. разм.*). Прагульвацца, хадзіць без мэты, бяздзейнічаць.
**Фланк**, -а, *м.* Бакавы ўчастак палявога або крапаснога ўмацавання са сховішчамі, прызначаны для прыкрыцця яго з бакоў і для падоўжнага абстрэлу подступаў да суседніх умацаванняў.
**Фланкёр**, -а, *м.* Дазорны ў складзе бакавой або галаўной аховы ў кавалерыі XVIII-XIX ст.
**Фланкёрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фланкёра**, складаецца з фланкёраў.
**Фланкіраванне**, -я, *н.* 1. Вядзенне агню ўздоўж лініі фронту ў фланг баявых парадкаў ворага. 2. Прыкрыццё з флангаў. 3. Баявыя прыёмы **пікай**, якія выконваюцца кавалерыстамі ў рукапашным баі.
**Фланкіраваць**. 1. Весці агонь уздоўж лініі фронту ў фланг баявых парадкаў ворага. 2. Прыкрываць з флангаў. 3. Быць, размяшчацца па баках чаго-н. 4. Выконваць баявыя прыёмы **пікай**.
**Фланкіроўка**, -і, *ж.* Тое, што і **фланкіраванне**.
**Флярын**, -а, *м.* Старадаўняе: фларэнтыйская залатая або сярэбраная манета, прынятыя пазней за ўзор у многіх еўрапейскіх краінах.
**Флегма**, -ы, *ж.*, *толькі адз.* (*уст. мед.*). Слізь, макрота.
**Флігель**, -я, *м.* Жылая прыбудова пры галоўным будынку, а таксама невялікі дом на двары вялікага будынка.
**Флігель-ад'ютант**, -а, *м.* У царскай Расіі – афіцэр у свіце цара, імператара, які выконваў абавязкі ад'ютанта: афіцэр для даручэнняў пры камандуючым арміяй, а таксама асоба ў гэтым чыне.
**Флігель-ад'ютанцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **флігель-ад'ютанта**, належыць яму.
**Флігель-ад'ютанцтва**, -а, *н.* Званне і пасада **флігель-ад'ютанта**; выкананне абавязкаў **флігель-ад'ютанта**.
**Флюгер**, -а, *м.* Сцяжок, які прымацоўваўся да **пікі** кавалерыста.
**Флюгерны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **флюгера**.
**Форт**, -а, *м.*; **фарты**, -оў, *мн.* Асобнае ўмацаванне ў сістэме крапасных збудаванняў; невялікая крэпасць.
**Форум**, -а і -у, *м.* 1. -а. У старажытным Рыме: плошча, рынак, дзе збіраўся народ, адбываліся сходы, суды і інш. 2. -у. Народны сход, суд на гэтай плошчы.



**Фотаген**, -у, *м.* Мінеральнае масла, атрыманае перагонкай нафты, смалы і інш., якое ўжывалася для асвятлення; газа.
**Фофан**, -а, *м.* (*спарт.*). Лодка з нізкімі бартамі для рачнога і азёрнага плавання.
**Фрак**, -а, *м.* Парадны мужчынскі **сурдут**, звычайна чорнага колеру, з выразанымі спераду поламі і вузкімі доўгімі фалдамі ззаду.
**Фракцыя**, -і, *ж.* Група людзей, аб'яднаных прафесійнымі, цэхавымі інтарэсамі.
**Франдзёр**, -а, *м.* 1. Удзельнік **фронды** (у 1 знач.). 2. Той, хто франдзіруе, выказвае незадаволенасць чым-н. (*уст. кніжн.*).
**Франдзёрства**, -а, *н.* (*уст. кніжн.*). Незадаволенасць кім-, чым-н., якая выяўляецца ў імкненні супярэчыць каму-, чаму-н., крытыкаваць каго-, што-н.
**Франдзіраваць** (*уст. кніжн.*). Выказваць незадаволенасць кім-, чым-н. з-за жадання супярэчыць.
**Франкаваць** (*спец.*). Аплаціць (аплочваць) наперад перавозку і дастаўку паштовых адпраўленняў, багажу, грузаў.
**Франкмасон**, -а, *м.* Тое, што і **масон**.
**Франкмасонскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **франкмасона**, **франкмасонства**.
**Франкмасонства**, -а, *н.* Тое, што і **масонства**.
**Франтавы**, -ая, -ое (*уст.*). Страявы.
**Фронда**, -ы, *ж.* 1. Дваранска-буржуазны рух супраць абсалютызму ў Францыі ў XVII ст. 2. Незадаволенасць кім-н., чым-н.; **франдзёрства** (*уст. кніжн.*).
**Фрыз**, -у, *м.* Старадаўняе: грубая варсістая шарсцяная тканіна, падобная да байкі.
**Фрызавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фрызу**; пашыты з **фрызу**.
**Фрызу́ра**, -ы, *ж.* (*уст.*). Прычоска, завітыя валасы.
**Фрэгат**, -а, *м.* У парусным ваенным флоце XVII – першай палове XIX ст. драўляны трохмачтавы карабель для разведкі і канвойнай службы.
**Фрэгатны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фрэгата**.
**Фузея**, -і, *ж.* (*гіст.*). Тып гладкаствольнай дульна-зараднай крамянёвай зброі. У XVII-XIX ст. на ўзбраенні ў арміях шэрагу краін, у тым ліку ВКЛ.
**Фузілёр**, -а, *м.* (*гіст.*). Салдат, узброены **фузеяй**.
**Фуляр**, -у, *м.* Старадаўняе: хустка або насоўка з лёгкай мяккай шаўковай тканіны.
**Фунт**, -а, *м.* Старажытная адзінка масы (вагі) у Беларусі і Расіі. У ВКЛ мяняўся ад 360 да 450 г, з 1766 г. роўны 374,8282 г. У Расіі ў XVIII – пачатку XX ст. адзін **фунт** раўняўся 0,4095 кг.
**Фунтавік**, -а, *м.* (*разм.*). Гіра вагой у адзін **фунт**.
**Фунтовы**, -ая, -ае. Вагой у адзін **фунт**.
**Фура**, -ы, *ж.* 1. Вялікія калёсы для перавозкі грузаў, паклажы. 2. Крытая павозка.
**Фуражыр**, -а, *м.* Ваеннаслужачы, які прызначаўся для нарыхтоўкі фуражу.

**Фургон**, -а, *м*. Крытая конная павозка.
**Фургонщчык**, -а, *м*. Вазак **фургона**.
**Фурман**, -а, *м*. Чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжанай **фурманцы**; вазак.
**Фурманачны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **фурманкі**.
**Фурманка**, -і, *ж*. Падвода для перавозкі грузаў.
**Фурманскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **фурмана**, належыць яму. 2. *у знач. наз*. **фурманская**, -ай, *ж*. Памяшканне для фурманоў у доме **памешчыка**.
**Фурманства**, -а, *н*. Занятак, прафесія **фурмана**.
**Фут**, -а, *м*. Мера даўжыні, роўная 12 дзюймам (30,48 см), якая існавала ў Расійскай імперыі.
**Футавы**, -ая, -ае. Даўжынёй у адзін **фут**.
**Футэршчык**, -а, *м*. (*уст*.). Той, хто шые адзенне з футра.

## Х

**Хадайнік**, -а, *м*. (*уст*.). Асоба, якая вядзе чыю-н. справу ў судах, установах.
**Хадок**, -а, *м*. Выбарная асоба, пасланая куды-н. з даручэннем, хадайніцтвам.
**Хаз**, -у, *м*. Старадаўняе: лепшы край кавалка тканіны, які ў час продажу клалі напаказ.
**Хазары**, -аў, *мн*. Вандроўны цюркамоўны народ, які з'явіўся ў паўднёва-ўсходняй Еўропе ў IV ст. пасля гунскага нашэсця.
**Халіф**, -а, *м*. (*гіст*.). 1. Тытул вярхоўнага духоўнага і свецкага правіцеля мусульман у арабскіх краінах да XIII ст., а таксама тытул егіпецкага і турэцкага султанаў і асоба, якая мела гэты тытул.
**Халіфат**, -а і -у, *м*. (*гіст*.). 1. -у. Сістэма мусульманскага феадальнага кіравання, пры якой **халіф** спалучаў свецкую ўладу з духоўнай. 2. -а. Феадальная дзяржава, створаная ў выніку арабскага заваявання, якую ўзначальваў **халіф**.
**Халіфацкі**, -ая, -ае (*гіст*.). Які мае адносіны да **халіфата**.
**Халіфскі**, -ая, -ае (*гіст*.). Які мае адносіны да **халіфа**.
**Халодная**, -ай, *ж*. (*уст*.). Памяшканне для арыштаваных.
**Халоп**, -а, *м*. У старажытнай Русі ў IX–XIII ст. і ў Расіі да пачатку XVIII ст.: асабіста залежная ад **феадала** і найбольш эксплуатуемая асоба, прыгонны селянін.
**Халопка**, -і, *ж*. *Жан*. да **халоп**.
**Халопскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **халопа**.
**Халопства**, -а, *н*. 1. У старажытнай Русі ў IX–XIII ст. і ў Расіі да пачатку XVIII ст.: форма феадальнай залежнасці, блізкая да рабства. 2. *зб*. **Халопы**.
**Халуй**, -я, *м*. У буржуазна-дваранскім грамадстве: слуга, лакей.
**Халуйскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **халуя**, уласцівы яму.
**Хам**, -а, *м*. (*пагард*.). Чалавек ніжэйшага саслоўя, звычайна селянін (у мове паноў).
**Хамка**, -і, *ж*. *Жан*. да **хам**.
**Хамскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **хама**.



**Хамства**, -а, *н. зб*. Хамы.
**Хан**, -а, *м*. Тытул феадальнага правіцеля ў некаторых цюркскіх і мангольскіх народаў у сярэднія вякі, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.
**Ханіха**, -і, *ж*. (*разм*.). Жонка **хана**.
**Ханскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **хана**, належыць **хану**.
**Ханства**, -а, *н*. 1. Званне, тытул **хана**. 2. Дзяржава, вобласць, якой правіць **хан**.
**Хара**, -ы, *ж*. (*уст*.). Маска ў выглядзе звярынай морды або смешнай і страшнай фізіяноміі.
**Хартыя**, -і, *ж*. 1. Старадаўні рукапіс, а таксама матэрыял (звычайна папірус або **пергамент**), на якім ён напісаны. 2. У сярэднія вякі: дакумент, грамата, што давала або пацвярджала якія-н. правы і вольнасці.
**Харугва**, -ы, *ж*. У старажытнасці: баявы сцяг войска.
**Харунжы** (у ВКЛ да XVII ст. **харужы**), -ага, *м*. (*гіст*.). 1. Ніжэйшы афіцэрскі ранг у войску ВКЛ. 2. *Вялікі харунжы* – шляхецкая пасада ў ВКЛ, вядомая з канца XV ст. Яго абавязкам было нашэнне велікакняжацкай харугвы ў час цырымоній і знаходжанне з ёю пры манарху ў час вайсковых дзеянняў. 3. Малодшы афіцэрскі чын у войску Расійскай імперыі ў некаторых відах кавалерыі і казацкіх войсках, а таксама асоба, якая мела такі чын.
**Харчатрад**, -а, *м*. (*савет*.). Скарачэнне: харчовы атрад з рабочых і бедных сялян, які дзейнічаў у 1918-1921 гг. па выкананні **харчразвёрсткі**.
**Харчпадатак**, -тку, *м*. (*савет*.). Харчовы падатак з сялянскіх гаспадарак, уведзены ў 1921 г. замест **харчразвёрсткі** і заменены ў 1923 г. адзіным сельскагаспадарчым падаткам.
**Харчразвёрстка**, -і, *ж*.; *толькі адз*. (*савет*.). Харчовая развёрстка – сістэма нарыхтовак у Савецкай Расіі ў 1919-1921 гг., паводле якой сяляне абавязаны былі здаваць дзяржаве па цвёрдых цэнах усе лішкі сельгаспрадуктаў, што заставаліся звыш нормы, устаноўленай на асабістае спажыванне.
**Харчэўня**, -і, *ж*. (*уст*.). Сталовая, **шынок**, закусачная з таннымі і простымі стравамі.
**Хатнік**, -а, *м*. (*савет*.). Культурна-асветніцкі работнік на вёсцы, загадчык хаты-чытальні.
**Хаўбек**, -а, *м*. (*уст. спарт*.). У футболе і хакеі з мячом – паўабаронца.
**Хаўтайм**, -а, *м*. (*уст. спарт*.). Палова гульні ў футболе і хакеі з мячом.
**Хівінцы**, -аў, *мн*. Назва жыхароў Хівінскага ханства, якое існавала да 1920 г.
**Хітон**, -а, *м*. Мужчынскае і жаночае адзенне старажытных грэкаў: доўгая і шырокая кашуля, часцей без рукавоў, якая падпяразвалася з напускам.
**Хламіда**, -ы, *ж*. У старажытных грэкаў і рымлян: прамавугольны плашч з засцежкай на правым

плячы або на грудзях (пераважна ў коннікаў).

**Хор**, -у, *м.* (*уст.*). Аркестр.

**Хорам**, -а, *м.* Вялікі жылы будынак; палац.

**Хорамны**, -ая, -ае. Той, хто валодае **хорамам**, жыве ў **хораме**.

**Храмоўнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Тое, што і **тампліер**.

**Хронограф**, -а, *м.* (*гіст.*). Помнік старажытнага пісьменства, які змяшчае гістарычную **хроніку** якіх-н. краін або асобнай дзяржавы.

**Хромафатаграфія**, -і, *ж.* (*уст. спец.*). Каляровая фатаграфія.

**Хрыстапрадавец**, -даўца, *м.* (*уст.*). Прадажнік; здраднік; юда.

## Ц

**Цагельня**, -і, *ж.* (*уст.*). Прадпрыемства, на якім выраб-ляецца цэгла; цагельны завод.

**Цалавальнік**, -а, *м.* 1. Выбарная асоба ў Расіі ў канцы XV-XVIII ст., абавязкамі якой былі збор пошлін і падаткаў, выкананне судовых і паліцэйскіх функцый. 2. Прадавец віна ў **шынку** ці **карчме**.

**Цалаванне**, -я, *н.* Прысяга, клятва, у час прыняцця якой цалавалі крыж.

**Цалёвы**, -ая, -ае. Роўны адной **цалі**.

**Цалёўка**, -і, *ж.* (*разм.*). Дошка таўшчынёй у адну **ца́лю**.

**Ца́ля**, -і, *ж.* У ВКЛ і Польшчы: мера даўжыні, роўная 2,7 см.

**Цапільна**, -а, *н.* Дзяржанне **цэпа** ў выглядзе доўгага кія, да верхняга канца якога прывязваецца біч.

**Цар**, -а, *м.* Тытул манарха ў Расіі, Балгарыі і Сербіі, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**Царадворац**, -рца, *м.* Саноўнік, які займаў пасаду пры царскім двары; прыдворны.

**Царства**, -а, *н.* Дзяржава, якой кіруе **цар**.

**Царыца**, -ы, *ж.* 1. *Жан.* да **цар**. 2. Жонка **цара**.

**Царэвіч**, -а, *м.* Сын **цара**.

**Царэўна**, -ы, *ж.* Дачка **цара**.

**Цвердзь**, -і, *ж.* (*уст.*). Цвёрдая аснова, апора чаго-н.

**Цвіка́р**, -а, *м.* Рабочы, які займаецца вырабам цвікоў.

**Цвіка́рны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вырабу цвікоў.

**Цвіка́рня**, -і, *ж.* Майстэрня па вырабе цвікоў.

**Цемнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Татарскі военачальнік, які камандаваў дзесяцітысячным войскам.

**Церам**, -а, *м.* У старажытнай Русі: высокі баярскі або княжацкі дом у выглядзе вежы.

**Церамок**, -мка, *м.* *Памянш.-ласк.* да **церам**; невялікі **церам**.

**Церні**, -яў, *толькі мн.* (*уст. і кніжн.*). Пра калючыя расліны, а таксама калючкі на іх.

**Цёмная**, -ай, *ж.* (*уст.*). Памяшканне для арыштаваных, карцэр.

**Цёрла**, -а, *н.* Старадаўняе: гліняная пасудзіна, у якой труць мак, таўкуць бульбу і пад.

**Цівун**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Службовая асоба дваровай адміністрацыі ў старажытнай Русі, якая кіравала гаспадарчымі справамі і ажыццяўляла суд па грамадзянскіх справах. 2. У ВКЛ: кіраўнік феадальнага двара-маёнтка. 3. У ВКЛ: катэгорыя сялян-слуг, якія загадвалі вядзеннем панскай дваровай гаспадаркі.



**Цівуноў**, -ова (*гіст.*). Які належыць **цівуну**, уласцівы яму.

**Цітла**, -ы, *ж.* У сярэдневяковым пісьменстве Русі і Грэцыі: надрадковы знак у выглядзе ламанай рыскі, які ставіўся над словамі, напісанымі скарочана, або над літарамі, калі яны мелі лічбавае значэнне.

**Цітлавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **цітлы**, з'яўляецца **цітлай**.

**Цуг**, -а, *м.* Запрэжка, у якой коні (быкі) ідуць гужам або парамі адзін за адным.

**Цукравар**, -а, *м.* У Расійскай імперыі: уладальнік цукраварнага завода.

**Цыбік**, -а, *м.* Скрынка з чаем вагой да двух пудоў.

**Цьма**, -ы, *ж.* У лікавай сістэме старажытнай Русі – дзесяць тысяч.

**Цэзар**, -а, *м.* 1. Тытул старажытнарымскіх імператараў; кесар. 2. Манарх, уладар (*уст.*).

**Цэзарызм**, -у, *м.* (*гіст.*). Аднаасобная дыктатура ў спалучэнні з фармальным прызнаннем правоў народа.

**Цэйхгауз**, -а, *м.* (*уст.*). Ваенны склад зброі, абмундзіравання, харчоў.

**Цэйхгаузны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **цэйхгауза**.

**Цэнз**, -у, *м.* У старажытным Рыме: перыядычная ацэнка маёмасці грамадзян для адпаведнага падзелу іх на падатковыя разрады.

**Цэнзар**, -а, *м.* У старажытным Рыме: службовая асоба, якая ведала **цэнзам**, сачыла за паступленнем падаткаў, ажыццяўляла нагляд за норавамі і пад.

**Цэнзура**, -ы, *ж.* У старажытным Рыме: пасада **цэнзара**.

**Цэнтрал** (**цэнтралка**), -а, *м.* Цэнтральная катаржная турма ў царскай Расіі, прызначаная галоўным чынам для палітычных зняволеных.

**Цэнтурыён**, -а, *м.* (*гіст.*). Начальнік **цэнтурыі**.

**Цэнтурыя**, -і, *ж.* (*гіст.*). 1. Частка **легіёна**, ваеннае падраздзяленне ў старажытным Рыме, першапачаткова колькасцю ў сто чалавек. 2. Група грамадзян у старажытным Рыме, якая ўтваралася пры падзеле насельніцтва па маёмаснаму **цэнзу**.

**Цэп**, -а, *м.* У сялянскім побыце ўсходніх славян і іншых народаў: ручная драўляная прылада для малацьбы збожжа, якая складаецца з **цапільна** і прымацаванага да яго гужыкам біча.

**Цэра**, -ы, *ж.* Старадаўняе: высушаны грыб, які запальваецца ад іскры пры высяканні агню.

**Цэравы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **цэры**.

**Цэсар**, -а, *м.* Тое, што і **цэзар**, **кесар**.

**Цэсарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **цэсара**, належыць яму.

**Цэсарэвіч**, -а, *м.* У царскай Расіі: афіцыйны тытул наследніка

прастола, а таксама асоба, якая мела гэты тытул.

**Цэсарэўна**, -ы, *ж.* 1. Жонка **цэсарэвіча**. 2. Дачка **цара**.

**Цэх**, -а, *м.* У ВКЛ і ў некаторых краінах Заходняй Еўропы: гарадская арганізацыя рамеснікаў адной ці некалькіх прафесій.

**Цэхавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **цэха**, адпавядае патрабаванням **цэха**.

**Цэхін**, -а, *м.* Залатая манета Венецыі. Упершыню **цэхін** выпушчаны ў 1284 г., пазней вядомы як **дукат**.

**Цяганіна**, -ы, *ж.* (*уст.*). Судовая справа.

**Цяглавы**, -ая, -ае (*гіст.*). Абкладзены **цяглом**.

**Цяглец**, -ляца, *м.* (*гіст.*). Той, хто падвяргаўся абкладанню **цяглом**.

**Цягло**, -а, *н.* (*гіст.*). 1. Адработачная **рэнта**, адна з асноўных сялянскіх павіннасцей у ВКЛ у XV-XVIII ст. 2. Арганізацыйная адзінка сялянскіх павіннасцей **памешчыку** і дзяржаве ў прыгоннай гаспадарцы Расійскай імперыі ў XVIII – першай палове XIX ст. 3. Сістэма дзяржаўных і феадальных павіннасцей сялян і гараджан у Расіі ў XVIII – першай палове XIX ст.

**Цяглы**, -ая, -ае (*гіст.*). 1. Абкладзены **цяглом**. 2. Звязаны з адбываннем паншчыны конямі, жывёлай.

**Цяжба**, -ы, *ж.* (*уст.*). Спрэчка двух бакоў перад судом; грамадзянская судовая справа.

**Цяжэбнік**, -а, *м.* (*уст.*). Чалавек, які знаходзіцца ў **цяжбе** з кім-н.

**Цямніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). Месца зняволення, турма.

**Цясак**, -а, *м.* Халодная зброя ў выглядзе шырокага, вострага з абодвух бакоў клінка з крыжападобнай ручкай.

**Цясла**, -ы, *ж.*; **цёслы**, -аў, *мн.* Цяслярская прылада з паўкруглым лязом для выдзёўбвання карыт, начовак і інш.

## Ч

**Чайка**, -і, *ж.* Старадаўняе: парусны човен з вёсламі і прымацаванымі ўздоўж надводнага борта пучкамі чароту, які служыў для павялічэння плывучасці і абароны ад стрэлаў праціўніка.

**Чайная**, -ой, *ж.* Пакой у багатым доме, прызначаны для чаяпіцця.

**Чака́н**, -а, *м.* Старажытная зброя ў выглядзе доўгага тронка з насаджаным на яго завостраным з абуха молатам, што служыла таксама знакам начальніцкай годнасці.

**Чалабітная**, -ай, *ж.* У Расіі да XVIII ст.: пісьмовае прашэнне або скарга, якая падавалася на імя цара ці мясцовым уладам.

**Чалабітчык**, -а, *м.* Той, хто падае **чалабітную**.

**Чалабітчыца**, -ы, *ж.* *Жан.* да **чалабітчык**.

**Чалабіццё**, -я, *н.* 1. У старажытнай Русі: паклон з дакрананнем ілбом да зямлі. 2. Тое, што і **чалабітная**.

**Чалавек**, -а, *м.*; **людзі**, -ей, *мн.* У часы прыгоннага права: дваровы **слуга**, **лакей**, а пазней афіцыянт, **слуга** ў тракціры.



**Чалавеказабойства**, -а, *н.* (*уст. і кніжн.*). Забойства, знішчэнне людзей.

**Чалавеказабойца**, -ы, *м.* (*уст. і кніжн.*). Забойца.

**Чалавеказнаўства** ,-а, *н.* (*уст. і кніжн.*). Вывучэнне, веданне псіхалогіі чалавека, усёй сукупнасці адносін яго да навакольнага свету.

**Чалавекалюбец**, -бца, *м.* (*уст. і кніжн.*). Той, хто любіць людзей, прасякнуты **чалавекалюбствам**; гуманіст.

**Чалавекалюбівы**, -ая, -ае (*уст. і кніжн.*). Той, хто любіць людзей, прасякнуты **чалавекалюбствам**; гуманны.

**Чалавекалюбства**, -а, *н* (*уст. і кніжн.*). Любоў да людзей, чалавецтва; гуманнасць.

**Чалавеканенавіснік**, -а, *м.* (*уст. і кніжн.*). Той, хто ненавідзіць людзей.

**Чалавеканенавісніцтва**, -а, *н.* (*уст. і кніжн.*). Нянавісць да людзей, да чалавецтва.

**Чало**, -а, *н.*; **чолы**, -аў, *мн.* (*уст. і паэт.*). Лоб.

**Чалядзін**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. Дваровы чалавек, **слуга** ў панскім доме. 2. Той, хто належыць да **чэлядзі** (у 1 знач.).

**Чалядзінец**, -нца, *м.* Тое, што і **чалядзін** (у 1 знач.).

**Чалядзінка**, -і, *ж.* *Жан.* да **чалядзін**.

**Чаляднік**, -а, *м.* Рамеснік у цэхавага майстра ў феадальных гарадах Беларусі, Літвы, Польшчы.

**Чалядня**, -і, *ж.* (*гіст.*). Жыллёвае памяшканне для **чэлядзі** (у 2 знач.).

**Чапец**, -пца, *м.* Старадаўняе: круглая шапачка з фабрычнай тканіны або вязаная з ільняных ці баваўняных нітак; састаўная частка галаўнога ўбору замужняй жанчыны.

**Чара**, -ы, *ж.* (*уст. і паэт.*). Пасудзіна для піцця віна.

**Чараваць** (*уст.*). Уздзейнічаць чарамі, магічнымі прыёмамі на людзей.

**Чарадзей**, -я, *м.* (*уст.*). Чараўнік, вядзьмар.

**Чарадзейка**, -і, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **чарадзей**.

**Чарадзейства**, -а, *н.*, *толькі адз.* (*уст.*). Вядзьмарства, чары.

**Чараўніцтва**, -а, *н.* (*уст.*). Сіла, дзеянні чараўніка; вядзьмарства, чары.

**Чарнакніжжа**, -а, *н.* (*уст.*). Чараўніцтва, вядзьмарства, заснаванае нібы на сувязі ведзьмара, **чарнакніжніка** з г. зв. "нячыстай сілай", д'яблам.

**Чарнакніжнік**, -а, *м.* (*уст.*). Той, хто займаўся **чарнакніжжам**; вядзьмар, чараўнік.

**Чарнакніжны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае дачыненне да **чарнакніжжа**; звязаны з чараўніцтвам.

**Чарнарызнік**, -а, *м.* (*уст.*). Манах.

**Чарнасоценец**, -нца, *м.* У Расійскай імперыі: крайні рэакцыянер, шавініст (першапачаткова пра членаў манархічных пагромных паліцэйскіх арганізацый, так званых чорных соцень).

**Чарнасошнік**, -а, *м.* У Расіі XIV–XVII ст.: цяглавы селянін, які жыў на чорных землях.

**Чарнасошны**, -ая, -ае. У Расіі XIV–XVII ст.: той, які жыў на чорных землях; дзяржаўны, цяглавы.
**Чарнец**, -а, *м.* (*уст.*). Манах.
**Чарніца**, -ы, *ж.* (*уст.*). *Жан.* да **чарнец**, манашка.
**Чацвяртак**, -а, *м.* 1. Сярэбраная манета вартасцю ў чвэрць рубля; дваццаць пяць капеек. 2. Надзел, кавалак зямлі, роўны 1,5 **дзесяціны**.
**Чацвяртушка**, -і, *ж.* Старадаўняе: мера вагі ў чвэрць **фунта**.
**Чацвярціна**, -ы, *ж.* (*разм.*). 1. Посуд ёмістасцю ў адну чацвёртую частку вядра. 2. Тое, што і **чацвяртак** (у 2 знач.).
**Чацвярцінка**, -і, *ж.* (*разм.*). Бутэлька ёмістасцю ў адну чацвёртую частку літра.
**Чацвярык**, -а, *м.* 1. Старадаўняе: мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, роўная 26,2 л. 2. Чатыры коні ў адной запрэжцы.
**Чаша**, -ы, *ж.* 1. Старадаўняе: адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасці, роўная 12 гарцам (прыблізна 42 л). 2. Круглы посуд для піцця. 3. Кубак для віна (*уст. і паэт.*).
**Чашнік**, -а, *м.* 1. Пасада ў Польшчы ў XIII–XVIII ст. і ў ВКЛ у XV–XVIII ст. Загадваў віннымі скляпамі князя або караля, у час застолля падносіў яму **чашу** з віном. 2. Манах, які ведаў манастырскімі віннымі скляпамі і раздачай напіткаў у час трапезы.
**Чвартаванне**, -я, *н.* (*гіст.*). Сярэдневяковы спосаб смяротнай кары, пры якім спачатку адсякаліся рукі, ногі, потым галава.
**Чвэрць**, -і, *ж.* 1. Старадаўняе: мера сыпкіх рэчываў, роўная 8 чацверыкам (209,91 л). 2. Старадаўняе: мера вадкасці, роўная чацвёртай частцы вядра (3,08 л); посуд такой ёмістасці. 3. Старадаўняе: мера даўжыні, роўная чацвёртай частцы **аршына** (17,775 см). 4. Старадаўняе: мера зямлі, роўная 40 сажням у даўжыню і 30 сажням у шырыню.
**Чорнарубашачнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Італьянскі фашыст (называецца так з-за чорнай рубашкі – формы італьянскіх фашыстаў) у 1922–1944 гг.
**Чорны**, -ая, -ае. 1. Той, які да 1917 г. адносіўся да ніжэйшых слаёў грамадства, да простага народа. 2. У царскай Расіі: цяглавы, дзяржаўны.
**Чудзь**, -і, *ж.*, *зб.* Назва ў рускіх летапісах эстаў (эстонцаў), а таксама іншых фіна-угорскіх плямён, што жылі ва ўладаннях Наўгародскай феадальнай рэспублікі або ў суседніх з ёй рэгіёнах, на ўсход ад Анежскага возера – на р. Анега і Паўн. Дзвіна.
**Чужаземец**, -мца, *м.* (*уст. і кніжн.*). Чалавек з чужой краіны; іншаземец.
**Чужаземка**, -і, *ж.* (*уст. і кніжн.*). *Жан.* да **чужаземец**.
**Чужаземны**, -ая, -ае (*уст. і кніжн.*). З чужой краіны, з чужых земель; іншаземны.
**Чужаземшчына**, -ы, *ж.* (*уст. і кніжн.*). 1. Чужая зямля, краіна; чужына. 2. Усё чужое, чужаземнае (культура, звычаі і пад.).
**Чумак**, -а, *м.* На Украіне і часткова на Беларусі ў XVI – першай палове XIX ст.: пераважна збяднелы наёмны селянін, які вазіў на валах соль, салёную і сушаную рыбу з Крыма, Дона, а таксама з Прусіі і Закарпацця. Туды вёз хлеб, сала, скуры.



**Чумацтва**, -а, *н.* Чумацкі промысел.
**Чын**, -а, *м.* У царскай Расіі: званне па табелю аб рангах, якое прысвойвалася дзяржаўным і вайсковым служачым і давала пэўныя саслоўныя правы і перавагі.
**Чынапачалле**, -я, *н.* (*уст. іран.*). Іерархія чыноў.
**Чынашанаванне**, -я, *н.* (*уст. іран.*). Празмернае шанаванне малодшымі старшых па службе, чыне, званні.
**Чыноўнік**, -а, *м.* У царскай Расіі: дзяржаўны служачы.
**Чынш**, -у, *м.* (*гіст.*). 1. У феадальнай Еўропе: рэгулярныя натуральныя і грашовыя плацяжы зямельнаму ўласніку за карыстанне зямлёй. 2. На Беларусі і ў Літве ў XV–XIX ст.: грашовы аброк.
**Чыншавік**, -а, *м.* (*гіст.*). 1. У феадальнай Еўропе: селянін, які карыстаўся спадчыннай зямлёй часова або бестэрмінова, за што плаціў **чынш**. 2. На Беларусі і ў Літве ў XV–XIX ст.: селянін, асноўнай формай павіннасці якога быў грашовы аброк, **чынш**.
**Чыншавы**, -ая, -ае (*гіст.*). Які мае адносіны да **чыншу**.
**Чырвонаармеец**, -мейца, *м.* (*савет.*). Баец Чырвонай Арміі.
**Чырвонагвардзеец**, -дзейца, *м.* (*савет.*). Баец Чырвонай гвардыі.
**Чырвонец**, -нца, *м.* 1. Назва замежных залатых манет (дукаты, цэхіны) у Расіі да XVIII ст. 2. Найменне рускіх залатых манет 3-рублёвай і 5-рублёвай вартасці ў XVIII–XIX ст. 3. У СССР з 1922 г. да 1947 г.: грашовы крэдытны білет у 10 рублёў (*разм.*).
**Чычэро́не**, *нескл.*, *м.* (*уст.*). Праваднік, які дае тлумачэнні пры аглядзе памятных мясцін, музеяў; экскурсавод.
**Чэка́**, *нескл.*, *ж.* (з вялікай літары) (*савет.*). Скарочаная назва надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, сабатажам і спекуляцыяй; існавала ў СССР у перыяд 1918–1922 гг.
**Чэкіст**, -а, *м.* (*савет.*). Супрацоўнік **Чэка**.
**Чэкмень**, -я, *м.* Старадаўняе: верхняе мужчынскае адзенне каўказскага тыпу ў выглядзе **паўкафтана**, пашытага ў талію са зборкамі ззаду.
**Чэлядзь**, -і, *ж.*, *зб.* 1. Насельніцва феадальнай вотчыны старажытнай Русі, якое знаходзілася ў разнастайных формах залежнасці ад феадалаў. 2. Дваровыя **людзі**, слугі **памешчыка** пры прыгонным праве. 3. *перан.* Людзі нізкага службовага становішча, якія імкнуцца выслужыцца перад высока пастаўленымі асобамі (*пагард.*).
**Чэрнь**, -і, *ж.*, *зб.* (*уст. зневаж.*). 1. Просты народ, людзі, якія ў буржуазна-дваранскім асяроддзі належалі да непрывілеяваных слаёў грамадства. 2. Людзі, далёкія ад духоўнага жыцця, высокіх ідэалаў.

# Ш

**Шабельнік**, -а, *м.* (*гіст.*). Спецыяліст па вырабу **шабляў**.

**Шабля**, -і, *ж.* 1. Халодная зброя з выгнутым клінком і адным лязом, якой сякуць і колюць (прымяняецца кавалерыяй). 2. У значэнні адзінкі лічэння: баец-кавалерыст.

**Шалом**, -а, *м.* (*уст.*). Шлем.

**Шальмаванне**, -я, *н.* (*гіст.*). Від ганебнага публічнага пакарання ў Расіі XVIII ст. для дваран, асуджаных на смяротную кару або вечную ссылку.

**Шанда́л**, -а, *м.* (*уст.*). Падсвечнік.

**Шанец**, -нца, *м.* У Расіі ў XVII-XIX ст.: часовае палявое чатырохвугольнае ўмацаванне, акоп.

**Шапавал**, -а, *м.* 1. Майстар, які вырабляе валеннем шэрсці капелюшы і іншыя рэчы. 2. Рабочы, які працуе на шапавальнай машыне.

**Шапавальны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **шапавала**. 2. Звязаны з апрацоўкай шэрсці шляхам узбівання, разрыхлення яе асобым інструментам або машынай; прызначаны для такой апрацоўкі.

**Шапавальня**, -і, *ж.* Майстэрня або памяшканне, дзе апрацоўваюць, валяць шэрсць, а таксама вырабляюць з яе валеныя рэчы.

**Шар**, -а; *м.* Прадмет такой формы для галасавання, а таксама сам голас *за* або *супраць*.

**Шарва́рка**, -і, *ж.*; **шарва́ркі**, -рак, *мн.* Грамадская працоўная павіннасць пераважна па будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў, дзяржаўных і панскіх будоўляў у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай у XV-XVIII ст., а таксама ў Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг.

**Шаста́к**, -а, *м.* Сярэбраная манета Вялікага княства Літоўскага і Польшчы вартасцю ў шэсць грошаў.

**Шасцерыковы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **шасцерыка** (у 1, 2 знач.); які з'яўляецца **шасцерыком**.

**Шасцідзесятнік**, -а, *м.* Грамадскі прагрэсіўны дзеяч 60-х гадоў XIX ст. у Расіі.

**Шасцярык**, -церыка, *м.* 1. Старадаўняе: мера (вагі, аб'ёму), якая змяшчае шэсць якіх-н. адзінак, а таксама прадмет такой вагі, аб'ёму. 2. Прадмет, які складаецца з шасці частак (*уст. і спец.*). 3. Запрэжка ў шэсць коней.

**Шашка**, -і, *ж.* Халодная зброя ў выглядзе доўгага, злёгку сагнутага клінка (у адрозненне ад **шаблі** мае не металічныя, а скураныя ножны).

**Швальня**, -і, *ж.* Кравецкая майстэрня.

**Шкіпер**, -а, *м.* Капітан камерцыйнага судна.

**Шкурнік**, -а, *м.* Гандляр шкурамі.

**Шкурны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да шкуры, звязаны з апрацоўкай ці продажам шкур.

**Шлем**, -а, *м.* Старажытны металічны галаўны ўбор воінаў, які ахоўваў галаву ад пашкоджанняў і ўдараў халоднай зброяй.

**Шляхетнасць**, -і, *ж.* 1. *гл.* **шляхетны**. 2. Належнасць да дваранскага саслоўя.



**Шляхетны**, -ая, -ае. 1. Дваранскі, дваранскага паходжання. 2. Высакародны, з вялікім пачуццём годнасці; які адпавядае існуючым нормам маралі: выхаваны, сумленны.

**Шляхецкі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **шляхецтва, шляхты**, належыць ёй. 2. Уласцівы **шляхце, шляхецтву**.

**Шляхецтва**, -а, *н.* 1. Тое, што і **шляхта**. 2. Прыналежнасць да **шляхты**.

**Шляхечы**, -ая, -ае. Які належыць **шляхце**; у якім жыве **шляхта**.

**Шляхта**, -ы, *ж.* 1. Прывілеяванае саслоўе ў Беларусі, Літве, Польшчы, Украіне ў XIII – пачатку XX ст. 2. *зб.* Шляхцічы.

**Шляхтун**, -а, *м.* (*пагард.*). **Шляхціц**.

**Шляхціц**, -а, *м.* Асобны прадстаўнік **шляхты**, дробнапамесны дваранін.

**Шляхцюк**, -а, *м.* (*пагард.*). Звычайна пра маладога **шляхціца**.

**Шляхцянка**, -і, *ж.* *Жан.* да **шляхціц**.

**Шпала**, -ы, *ж.* (*савет.*). Знак адрознення старшага каманднага саставу ў Чырвонай арміі (да 1943 г.), які меў форму прамавугольніка.

**Шпалера**, -ы, *ж.* Насценны бязворсавы дыван ці абівачная тканіна, якія маюць сюжэтны або пейзажны малюнак, выкананыя ўручную.

**Шпалернік**, -а, *м.* Майстар, спецыяліст па вырабу шпалераў.

**Шпіц**, -а, *м.* (*уст.*). Шпіль.

**Шпіцрутэны**, -аў, *толькі мн.* У царскай Расіі: доўгія гнуткія дубцы або палкі, якімі білі салдат, злачынцаў, праганяючы іх праз строй.

**Штаб-афіцэр**, -а, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: старшы афіцэрскі чын (палкоўнік, падпалкоўнік, маёр, капітан 1-га рангу, капітан 2-га рангу), а таксама асоба, якая мела такі чын.

**Штаб-афіцэрскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **штаб-афіцэра**, належыць яму.

**Штаб-ротмістр**, -а, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: афіцэрскі чын у кавалерыі і жандармерыі, ніжэйшы рангам за **ротмістра**, роўны званню **штабс-капітана** ў пяхоце і іншых войсках, а таксама асоба, якая мела такі чын.

**Штабс-капітан**, -а, *м.* У царскай і некаторых іншых арміях: афіцэрскі чын у пяхоце, артылерыі і інжынерных войсках, рангам вышэй за паручыка і ніжэй за капітана, а таксама асоба, якая мела такі чын.

**Штабс-капітанскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **штабс-капітана**, належыць яму.

**Шталмайстар**, -тра, *м.* 1. У царскай Расіі: адзін з прыдворных чыноў, а таксама асоба, якая мела такі чын. 2. Рэжысёр манежа, які вядзе цыркавую праграму (*уст.*).

**Штандар**, -а, *м.* (*уст.*). Сцяг адпаведнага колеру, часта з вышываным або намаляваным гербам, як знак дзяржавы, вайсковай часці або якой-н. грамадзянскай арганізацыі.

**Штоф**, -а, *м*. 1. Старадаўняе: мера вадкасцей (звычайна віна, гарэлкі), роўная 1/10 вядра; вадкасць такога аб'ёму. 2. Шкляны чатырохгранны посуд з кароткім рыльцам, які змяшчае такую колькасць вадкасці.
**Штофны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **штофа**.
**Штуцэр**, -а, *м*. Ваенная стрэльба з вінтавымі нарэзамі ў ствале.
**Штык-юнкер**, -а, *м*. У XVIII ст.: афіцэрскі чын у артылерыі, які адпавядаў прапаршчыку ў пяхоце, а таксама асоба, якая мела такі чын.
**Штэйгер**, -а, *м*. (*уст.*). Горны майстар, які загадвае руднымі работамі.
**Штэйгерскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **штэйгера**, належыць яму.
**Штэмпель**, -я, *м*. Від штампа, якім выбіваюць малюнак на манетах, медалях.
**Шубнік**, -а, *м*. (*уст.*). Той, хто займаецца шыццём шуб, кажухоў, паўкажушкаў.
**Шугале́я**, -і, *ж*. Старадаўняе: вялікая лодка з аднаго выдзеўбанага кавалка дрэва (звычайна дубу).
**Шу́йца**, -ы, *ж*. (*уст. і кніжн.*). Левая рука.
**Шчыт**, -а, *м*. Ручная ахоўная зброя старажытнага воіна ў выглядзе прамавугольніка, круга, эліпса з дрэва, металу і пад., якая служыла для засцярогі ад udaраў халоднай зброяй.
**Шчытаносец**, -носца, *м*. У старажытнасці: воін, які быў узброены **шчытом**.
**Шынкар**, -а, *м*. У ВКЛ, а затым і ў Расійскай імперыі: уладальнік **шынка** або гандляр спіртных напіткаў у ім, а таксама асоба, якая займаецца **шынкарствам**.
**Шынкарка**, -і, *ж*. *Жан*. да **шынкар**.
**Шынкарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **шынкара**.
**Шынкарства**, -а, *н*. 1. Утрыманне **шынка** як род занятку. 2. Забаронены законам выраб і гандаль спіртнымі напіткамі.
**Шынковы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **шынка**.
**Шынок**, -нка, *м*. У ВКЛ, а затым і ў Расійскай імперыі: невялікі пітны дом, дзе прадаваліся і распіваліся спіртныя напіткі.
**Шышак**, -а, *м*. 1. Старажытны воінскі шлем, які заканчваўся вастрыём з шышкай наверсе. 2. Верхняя частка гэтага шлема, якая мае выгляд шышкі.
**Шэлег** (шэлёнг), -а, *м*. Беларуская, польская і ўкраінская назва нізкапробных айчынных і замежных сярэбраных солідаў XV–XVIII ст., медных солідаў другой паловы XVII–XVIII ст.

## Э

**Эбе́н**, -а, *м*. (*уст.*). Чорнае дрэва.
**Эды́кт**, -а, *м*. У старажытным Рыме: праграма дзейнасці магістратаў, якая аб'яўлялася імі пры ўступленні на пасаду.
**Эды́л**, -а, *м*. У старажытным Рыме: службовая асоба, якая ажыццяўляла нагляд за будаўніцтвам і ўтрыманнем храмаў, дарог, рынкаў і пад.



**Эканом**, -а, *м*. (*уст.*). Беражлівы, гаспадарлівы чалавек.
**Эканомія**, -і, *ж*. 1. У царскай Расіі: назва некаторых дзяржаўных устаноў, якія ведалі гаспадарчымі справамі. 2. Эканоміка (*уст.*).
**Экзарх**, -а, *м*. (*гіст.*). 1. Галава жрацоў пры храме ў старажытнай Грэцыі. 2. Намеснік імператара ў якой-н. вобласці Візантыйскай імперыі.
**Экзархат**, -а, *м*. (*гіст.*). Вобласць, на якую распаўсюджваецца ўлада **экзарха**.
**Экзекутар**, -а, *м*. 1. Агульная назва выканаўцы судовых выракаў па крымінальных і грамадзянскіх справах у ВКЛ. 2. Чыноўнік, які загадваў гаспадарчымі справамі і наглядам за знешнім парадкам у якой-н. дзяржаўнай установе царскай Расіі.
**Экзекуцыя**, -і, *ж*. 1. Цялеснае пакаранне. 2. Выкананне судовага ці адміністрацыйнага прыгавору (пакаранне смерцю і пад.) (*уст. афіц.*).
**Экіпаж**, -а, *м*. Агульная назва лёгкіх пасажырскіх павозак.
**Экіпажная**, -ай, *ж*. Памяшканне для экіпажаў ці майстэрня, у якой іх робяць.
**Экстэрн**, -а, *м*. 1. У школе царскай Расіі: вучань, які не жыве ў інтэрнаце пры навучальнай установе. 2. Пазаштатны ўрач, які бясплатна працаваў у бальніцы для праходжання практыкі.
**Экстэрнат**, -а, *м*. Пасада **экстэрна** (у 2 знач.).
**Эксцэнтрык**, -а, *м*. (*уст.*). Чалавек з дзівацтвамі.
**Экю**, *нескл.*, *м*. Старажытная французская залатая або сярэбраная манета з малюнкам геральдычнага шчыта.
**Элаквенцыя**, -і, *ж*. (*уст.*). Аратарскае майстэрства; красамоўства.
**Эла́стык**, -у, *м*. (*уст.*). Гума.
**Элі́зіум**, -а, *м. перан*. Рай (*уст. паэт.*).
**Эльзевір**, -а, *м*. Кніга, надрукаваная ў славутых галандскіх друкарнях XVI-VIII ст., што належалі сям'і друкароў-выдаўцоў Эльзевір.
**Эмісар**, -а, *м*. Асоба, якая пасылаецца неафіцыйна ў другую краіну з сакрэтным палітычным даручэннем.
**Эмісарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **эмісара**, належыць яму.
**Эмісарства**, -а, *н*. Выкананне абавязкаў **эмісара**.
**Эмка**, -і, *ж*. (*разм.*). Легкавы аўтамабіль маркі "М" (эм).
**Эпалет**, -а, *м*. У царскай і некаторых іншых арміях: парадны афіцэрскі пагон, упрыгожаны махрамі, пазументамі.
**Эпіграма**, -ы, *ж*. У старажытных грэкаў: надпіс на помніку, будынку, які тлумачыў значэнне прадмета.
**Эпіграматычны**, -ая, -ае (*уст.*). Насмешлівы, з'едлівы.
**Эпіграф**, -а, *м*. У старажытных грэкаў: надпіс на помніку.
**Эпістала**, -ы, *ж*. 1. Літаратурны жанр XVIII – пачатку XIX ст.: пасланне ў форме пісьма. 2. Пісьмо (*уст. і жарт.*).
**Эпіталама**, -ы, *ж*. У старажытных грэкаў і рымлян: віншавальная песня маладым.

**Эрцгерцаг**, -а, *м.* Тытул членаў былой аўстрыйскай імператарскай фаміліі, а таксама асоба, якая мела гэты тытул.

**Эрцгерцагіня**, -і, *ж.* Жонка ці дачка **эрцгерцага**.

**Эрцгерцагства**, -а, *н.* Уладанні **эрцгерцага**.

**Эсдэк**, -а, *м.* (*уст.*). Сацыял-дэмакрат.

**Эсдэкаўскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да эсдэкаў, належыць ім.

**Эскулап**, -а, *м.* (*уст. і іран.*). Доктар, медык.

**Эстафета**, -ы, *ж.* Тэрміновая пошта, данясенне, адпраўленыя конным пасланцом, а таксама пісьмо, данясенне, якія дастаўляліся такой поштай.

**Эсэр**, -а, *м.* (*паліт.*). Сацыяліст-рэвалюцыянер, прадстаўнік дробнабуржуазнай партыі ў царскай Расіі.

**Эсэраўскі**, -ая, -ае (*паліт.*). Які мае адносіны да эсэраў, належыць ім.

**Эсэрка**, -і, *ж.* (*паліт.*). *Жан.* да **эсэр**.

**Этап**, -а, *м.* 1. У царскай Расіі: пункт для начлегу арыштанцкіх груп, а таксама ўвесь шлях іх руху да месца ссылкі. 2. Група, партыя арыштаваных, якая пад канвоем накіроўваецца куды-н.

**Этапны**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **этапа**.

**Этуа́ль**, -і, *ж.* У царскай Расіі канца XIX – пачатку XX ст.: модная актрыса, якая выступала ў лёгкіх жанрах (камедыя, эстрада).

**Этымалагічны**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **этымалогіі**.

**Этымалогія**, -і, *ж.* (*уст.*). Раздзел школьнай граматыкі, які ўключае фанетыку і марфалогію.

## Ю

**Югер**, -а, *м.* У старажытным Рыме: зямельная мера паверхні, роўная 2942 $м^2$.

**Юдаізм**, -у, *м.* (*уст.*). Іудаізм.

**Юдафіл**, -а, *м.* (*уст.*). Прыхільнік усяго яўрэйскага.

**Юдафільскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **юдафіла, юдафільства**.

**Юдафільства**, -а, *н.* (*уст.*). Прыхільнасць да ўсяго яўрэйскага.

**Юдафоб**, -а, *м.* (*уст.*). Антысеміт.

**Юдафобскі**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **юдафоба, юдафобства**; антысеміцкі.

**Юдафобства**, -а, *н.* (*уст.*). Антысемітызм.

**Юдоль**, -і, *ж.* 1. Даліна, лог (*уст.*). 2. Пра месца, дзе пакутуюць, церпяць мукі (*уст. кніжн.*).

**Юз**, -а, *м.* (*спец.*). Літарадрукавальны тэлеграфны апарат. [Ад уласнага імя вынаходніка – амерыканца Hughes].

**Юнкер**, -а, *м.* 1. У царскай арміі і на флоце да сярэдзіны 60-х гадоў XIX ст.: вальнапісаны радавога саставу або **унтэр-афіцэр** з дваран, які, праслужыўшы пэўны тэрмін і вытрымаўшы экзамен, мог стаць афіцэрам. 2. У царскай Расіі: выхаванец ваеннага вучылішча, якое рыхтавала афіцэраў. 3. Буйны землеўладальнік-дваранін у феадальнай Прусіі; буйны нямецкі памешчык увогуле.



**Юнкерскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **юнкера**, належыць яму. 2. Прызначаны для падрыхтоўкі афіцэраў у царскай арміі.

**Юнкерства**, -а, *н.* 1. *зб.* Юнкеры. 2. Званне **юнкера** (у 1, 2 знач.), а таксама прабыванне ў юнкерах.

**Юннат**, -а, *м.* (*савет.*). Скарачэнне слоў: юны і натураліст; удзельнік гуртка па вывучэнню прыроды.

**Юннатаўскі**, -ая, -ае (*савет.*). Які мае адносіны да **юнната**, належыць яму.

**Юннатка**, -і, *ж.* (савет.). *Жан.* да **юннат**.

**Юр'еў**, -ева: *у словазлучэнні* **Юр'еў дзень**. У старажытнай Русі: права пераходу сялян ад аднаго **памешчыка** да другога адзін раз у год, пасля заканчэння сельскагаспадарчых работ, у дзень святога Георгія (Юрыя).

**Юс**, -а, *м.* Назва дзвюх літар у старaславянскім алфавіце, якія абазначалі насавыя галосныя. *Юс вялікі* абазначаў гук "о" насавое. *Юс малы* – "е" насавое.

**Юсавы**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **юса**, напісаны з юсамі.

## Я

**Ягамосць**, -і, *ж.* (*уст.*). Форма звароту да каго-н.; спадар, **пан**, **васпан**.

**Ядро**, -а, *н.* Шарападобны каменны або чыгунны снарад ударнага дзеяння, які прымяняўся ў гладкаствольнай артылерыі ў XIV-XVII ст., а таксама шарападобны разрыўны снарад з парахавым зарадам у XVII-XIX ст.

**Якабінец**, -нца, *м.* 1. Прадстаўнік рэвалюцыйна-дэмакратычных слаёў французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII ст., член якабінскага клуба. 2. Чалавек рэвалюцыйных перакананняў; вальнадумец (*уст.*).

**Якабінскі**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **якабінца** (у 1 знач.), **якабінства** (у 1 знач.). 2. Рэвалюцыйны, вальнадумны (*уст.*).

**Якабінства**, -а, *н.* 1. Прынцыпы і палітычны рух якабінцаў (у 1 знач.). 2. Характар думак і дзеянняў, уласцівы **якабінцу** (у 2 знач.) (*уст.*).

**Ям**, -а, *м.* Паштовая станцыя або паселішча на паштовым тракце, дзе праезджыя мянялі паштовых коней.

**Ямскі**, -ая, -ае. Звязаны з перавозкай на конях пошты, грузаў, пасажыраў.

**Ямшчык**, -а, *м.* **Фурман** на паштовых, ямскіх конях.

**Ямшчыцкі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ямшчыка**, уласцівы **ямшчыку**.

**Яндоўка**, -і, *ж.* У старажытнай Русі: вялікі медны посуд для віна, піва, мёду.

**Янычар**, -а, *м.* Да 1826 г. воін прывілеяванай рэгулярнай пяхоты ў султанскай Турцыі.

**Янычарскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **янычара**, належыць яму.

**Ярлык**, -а, *м.* 1. У XIII-XV ст. на Русі: грамата, пісьмовы загад хана ў Залатой Арды, у якой выкладаліся распараджэнні адносна кіравання асобнымі падуладнымі ёй абласцямі. 2. Пісьмовае распараджэнне на выдачу чаго-н. (*уст.*).

**Ярмо**, -а, *н*. Старадаўняе: драўляны хамут для вупражы валоў.

**Ясак**, -у, *м*. 1. Падатак у Рускай дзяржаве, які збіралі на карысць казны з народаў Паволжа і Сібіры. 2. Умоўны знак, сігнал (*уст.*).

**Ясачны**, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да **ясаку**, з'яўляецца **ясаком**. 2. Які плаціць **ясак**, звязаны з выплатай **ясаку**.

**Ясельнічы**, -ага, *м*. 1. Прыдворны чын у Рускай дзяржаве XV-XVII ст. 2. Асоба, якая ўзначальвала Канюшневы прыказ з пачатку XVII ст., а таксама загадвала царскім псовым паляваннем.

**Яснавяльможнасць**, -і, *ж*. Тытулаванне польскіх паноў і ўкраінскіх гетманаў (ужывалася з займеннікамі *ваша, яго, яе, іх*).

**Яснавяльможны**, -ая, -ае. 1. Форма ганарова-пачцівага называння польскіх паноў і ўкраінскіх гетманаў. 2. *у знач. наз*. Польскі **пан** ці ўкраінскі **гетман**.

**Ясы́р**, -а, *м*. (*уст.*). Нявольнік, палонны.

**Ятвя́гі** (**яцвя́гі**), -аў, *мн*. Старажытнае заходнебалцкае племя, якое да XIII ст. насяляла тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі ракі Нараў.

**Ятвя́жскі**, -ая, -ае. Які мае адносіны да **ятвя́гаў**, які належыць, уласцівы ім.

**Ятка**, -і, *ж*. (*уст.*). Месца, дзе прадаюць мяса; мясная лаўка, прылавак.

**Яхант**, -у, *м*. (*уст.*). Стараславянская назва каштоўных камянёў рубіну і радзей сапфіру.

**Яхантавы**, -ая, -ае (*уст.*). Які мае адносіны да **яханту**.

**Яць**, -я, *м*. Назва літары, якая абазначала ў старажытнасці асобы гук, які затым супаў з "е" або "і".



## ЗМЕСТ



Установа культуры «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» г. Брэст

15094555